


Выходзіць з 1932 г.

ПЯТНІЦА, 4 студзеня 1991, № 1 (3567)

Кошт нумара 15 кап. (па падпісцы — 10 кап.)



# З АПТЫМІЗМАМ — У ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

## Падпісаны Дагавор паміж Беларуссю і Украінай

Даволі непрыкметны звонку асабняк на ціхай, летам цяністай вуліцы, усярэдзіне ўразіў шыкоўным інтэр'ерам — шкляным купалам над вялізным вестыбюлем-залай, кабінетамі і холамі, аздобленымі мармурам, чаканкай, разнымі драўлянымі панелямі.

Месціцца ў гэтым будынку Дом прыёмаў, апартаменты якога неаднойчы давалі прытулак самым шаноўным і высокапастаўленым гасцям Беларусі.

На гэты раз Дом прыёмаў быў абраны месцам падпісання Дагавора паміж дзвюма суверэннымі дзяржавамі-суседзямі — Беларуссю і Украінай. І сама зала з вялізным сталом і белымі крэсламі паабапал, прыгожымі свяцільнікамі і ляпнінай, аж занадта густа пакрытай пазалотай, і перагаворы паміж дэлегацыямі, якія з боку Беларусі ўзначальваў Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцей, з боку Украіны — яго калега Л. Краўчук, і сам акт падпісання гэтага важнага дакумента ўражвалі ўрачыстасцю моманту, які стане своеасаблівай вяхой у гісторыі адносін двух брацкіх славянскіх народаў. Пра гэта нагадаў у сваім уступным слове Мікалай Іванавіч Дзямянцей. Ён гаварыў пра агульнасць лёсаў двух народаў — ад Кіеўскай Русі да апошняй вялікай бяды — аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якая сваім асноўным цяжарам легла на плечы беларусаў і ўкраінцаў. Каму як не нам, суседзям, чые лёсы пераплявіся ў напластаваннях гісторыі, падкрэсліў ён, не падставіць плячо адзін аднаму.

Аддаўшы даніну павагі народу братняй Беларусі, нагадаўшы пра даўнія эканамічныя і культурныя сувязі дзвюх рэспублік, Старшыня Вярхоўнага Савета Украіны Л. Краўчук закончыў сваё слова на мажорнай ноце — хопіць плакацца, прасіць, вымольваць, трэба рашуча дзейнічаць, усвядоміўшы сваю адказнасць перад народамі, гісторыяй. Ёсць усе падставы для таго, каб аптымістычна глядзець у будучыню — істотныя матэрыяльныя рэсурсы, цудоўныя людзі, багатая гісторыя, самабытная культура.

Як гавораць у такіх выпадках, перагаворы праходзілі ў надзвычай дружалюбнай атмасферы, якая спрыяла канструктыўнаму дыялогу, хуткаму вырашэнню спрэчных пытанняў. А яны ў час перагавораў усплывалі. Дэлегаты прадэманстравалі, напрыклад, неаднолькавы падыход да некаторых фармулёвак праекта Дагавора, у тым ліку і яго назвы. У прыватнасці, украінцы прапанавалі называць гэты дакумент не Дагаворам аб асновах адносін паміж дзвюма рэспублікамі, як прапанавалася ў праекце, а проста Дагаворам паміж Беларускай і Украінскай Савецкімі Сацыялістычнымі Рэспублікамі. Пасля абмену думкамі з такой фармулёўкай пагадзілася і беларуская дэлегацыя. Абодва Высокія Бакі хутка прыйшлі да згоды і па некаторых іншых пытаннях праекта Дагавора.

І вось настае ўрачысты момант падпісання гэтага дакумента. М. Дзямянцей і Л. Краўчук абменьваюцца экземплярамі Дагавора, складзенага на беларускай і ўкраінскай мовах. Пасля гэтага пагадненне аб супрацоўніцтве падпісваюць міністры замежных спраў абедзвюх рэспублік.

Пацалункі старшынь дэлегацый, шампанскае, тосты за дружбу і супрацоўніцтва двух братніх народаў, несупыннае стракатанне кіна- і фотаапаратаў — усё гэта стала дадатковым «аздабленнем» падзеі.

Ну а Дагавор? Трымаю яго тэкст у руках, чытаю і не магу не адзначыць яго грунтоўнасці, імкнення ахапіць самыя розныя бакі палітычнага, эканамічнага, сацыяльнага і культурнага жыцця абедзвюх рэспублік. Вось толькі адзін з артыкулаў: «Бакі прызнаюць адзін аднаго суверэннымі дзяржавамі і абавязваюцца ўстрымлівацца ад дзеянняў, якія могуць нанесці шкоду іх дзяржаўнаму суверэнітэту». Уражваюць артыкулы аб эканамічных адносінах, аб ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай аварыі, аб захаванні і развіцці этнічнай, культурнай, моўнай і рэлігійнай самабытнасці нацыянальных меншасцей, якія жывуць на тэрыторыі рэспублік, аб супрацоўніцтве абедзвюх суверэнных дзяржаў у галіне міжнародных зносін, забеспячэнні бяспекі на падставе Дэкларацый аб дзяржаўным суверэнітэце Бакоў і ў адпаведнасці са Статутам ААН. Застаецца дадаць, што Дагавор заключаны на дзесяць гадоў і пры згодзе Бакоў яго дзеянне будзе аўтаматычна працягнута на наступнае дзесяцігоддзе.

Цяпер застаецца ўвасобіць гэты гістарычны дакумент у практычныя справы. Будзем і тут аптымістамі.

**М. ЗАМСКІ.**

# ЧЫТАЙЦЕ

## ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І АДРАДЖЭННЕ

**Ю. ХАДЫКА:** «У пераломныя, крызісныя перыяды жыцця грамадства роля разумных людзей, якія не згубілі сумлення і ўсведамляюць сваю адказнасць, значна павялічваецца. Сапраўды, ад дакладнасці выбару, прадуманасці і дальнабачнасці рашэнняў залежыць хуткасць пераадолення крызісных з'яў і памяншэнне непазбежных страт. Асаблівы драматызм сітуацыі надае тая акалічнасць, што інтэлігент павінны адначасна разумець і сваю адказнасць за крызіс і сваю адказнасць за аптымальны выхад з яго».

СТАРОНКА 4



## ВЯРТАННЕ Ў ВІЛЬНЮ

Чым жывуць беларусы Літвы?

СТАРОНКІ 5, 12

Масей СЯДНЁЎ:

## АДКРЫЦЦЁ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

«...Неспадзявана табе выдарылася нагода наведаць сваю старую, забытую ўжо Бацькаўшчыну. Ты ехаў да яе з няпэўным адчуваннем: што цябе сустрэне там, што ты ўбачыш там? Ты насцярожаны. Ты як бы сам не свой. Ты пакінуў за сваімі плячыма прывычную, знаёмую ўжо табе новую Бацькаўшчыну, у якой засталіся твае дзеці, унукі, праўнукі і на могільніках якой спачываюць ужо твае крэўныя, а тут ты набліжаешся да чагосьці ўжо табе незнаёмага і няпэўнага...»



СТАРОНКІ 8—9

## СВЕТ ПАЧУЦЦЯЎ, СВЕТ УЯЎЛЕННЯЎ

Сёння — прэм'ера тэлефільма «Хам» на Беларускім тэлебачанні.

СТАРОНКА 10

## ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ

Артыкул Б. Сачанкі з цыкла «Постаці»

СТАРОНКІ 13—15

# НАДАДЗЕНА ГОДНАСЦЬ НАРОДНЫХ

«Хатынскі цыкл», «У вайны не жаночае аблічча», «Развітанне» (кінарэквіем памяці П. Машэрава) — фільмы гэтыя «характэрны зліваам лірыкі і публіцыстыкі» выяўляюць аблічча свайго стваральніка-рэжысёра — Віктара Дашука. «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі» сведчыць, што змест фільмаў Віктара Дашука вызначаюць дзве тэмы: повязь чалавека з бацькаўшчынай і памяць пра вайну.

Гэтыя самыя тэмы («з імкненнем да распрацоўкі псіхалогіі характараў») ці не асноўныя і ў творчасці кінарэжысёра Міхаіла Пташука: «Вазьму твой боль», «Знак бяды»...

Варта сказаць, дарэчы: гадамі так званай часіны застою пазначаны згаданыя рэжысёрскія творы, адметнасці ім надала яшчэ і чалавечая мужнасць творцаў; так, дакументаліст мусіў звяртацца да самых вытанчаных алегорый, а майстра мастацкага кіно ледзь не літаральна даводзіць: усё, пра што здымае, было, было!..

Не так даўно да іх званняў заслужаных дзеячаў мастацтваў БССР дадаліся званні народных артыстаў рэспублікі. «ЛіМ» шчыра віншуе В. Дашука і М. Пташука з высокай адзнакай іх працы і зычыць новага творчага плёну.

**Антаніна ХАТЭНКА**

## КАЛЯДА... КАЛЯДА...

I

У белай віхуры тваіх валасоў патанае
святы маладзік, як у косах маіх грабянец.

Шугай, Каляда! Нашапчы, варажбітка зямная,
хто вырак бязлітасна край старажытны знямець...

А слова маё ледзянее ў сцюдзёнай палонцы,
у соннай цямрэчы не чутна жывое душы.
Пашлі, Каляда, Беларусі чаканага сонца,
пустэльную цішу мяцеліцай раскалышы!

У зорным Сусвеце сувоі снягоў расплятаю.
Гаючае прадзіва вечнасць няспешна прадзе.
...Як рошчына хлеба у шчодрай дзяжы, падрастае
па Сонцазвароце хрышчоны Калядамі дзень.

Я веру табе. І надзею святую люляю
у цёплай калысцы асвечаных-Зоркай нябёс.
Спяшай, Каляда! Неаб'езджаных коней цугляе
нікім не прадказаны, памяццю ўзброены лёс...

II

...Снегавей, шугавей, завіруха.
Паламала завея крыло.
У языцкай замове рухаў
Выспявае замова слоў.

Загайданыя хвалі сумётаў.
Белы чар далягляд затуліў.
У бяз'моўі блакітнай самоты
Нараджаецца плоднасць зямлі.

Каля хаты здарожыўся вецер.
Высцілаю палотны надзей:
Па збалелым, застуджаным свеце
Каляда агнявая ідзе...

Павяртаюцца белыя коні,
Б'юць гарачай падковаю лёд.
«Старадаўняй літоўскай пагоні»
Не забыўся зняверады род.

Узыходзіць калядная зорка!
Абуджаюцца неба і дол.
І плыве над магільным узгоркам
Крыж, свянцоны хрыстовай вадой...

...Страпянулася свечка. Ці сэрца? —
Што мне суджана свету сказаць?..
Носіць плоднасць ля самае смерці
Дух языцкі — зямная Каза...

# «Няміга», «Купалаўская» і...



У самы пярэдадзень Новага года, 30 снежня, прыняла першых пасажыраў другая лінія Мінскага метрапалітэна. Уступіў у строй участак паміж станцыямі «Фрунзенская» і «Трактарны завод» працягласцю сем кіламетраў.

А будаўніцтва другой лініі Мінскага метро працягваецца. На 1993 год запланаваны ўвод участка да кінатэатра «Аўрора», што на скрыжаванні праспекта Пушкіна і вуліцы Прытыцкага, а ў 1994 годзе пабягуць цягнікі ад трактарнага да аўтамабільнага завода.



Пры будаўніцтве другой лініі на першым плане былі практычныя задачы. Калі першая лінія, якая пралягла праз цэнтр горада, успрымалася хутчэй за ўсё як прэстыжная, дык гэтая мае задачай разгрузіць пасажырапаток з так званых «спальных» кварталаў.

Яшчэ адна адметнасць: будаўніцтва яе праводзілася без той аўральнасці, якая панавала пры пракладцы першай лініі. Не было пастаянных суботнікаў і нядзельнікаў, не было відаць на пляцоўках, а таксама ў друку і традыцыйных заклікаў: «Ідучы насустрач...», «Выконваючы сацыялістычныя абавязацельствы ў гонар...».

Тым не менш «шум» вакол будаўніцтва гэтай лініі быў. Грамадскасць выказвала занепакоенасць лёсам гістарычнага цэнтра Мінска, пад якім пройдзе метро, а таксама адкрытым археалагічным раскопам у раёне станцыі «Няміга». Узнікалі таксама праблемы па барацьбе з вібрацыяй, шумам. Усе спрэчныя пытанні нібыта вырашаны станоўча.

Праз новыя станцыі сярэднесутачны паток пасажыраў метро павялічваецца на 100 тысяч чалавек. Пакуль што праезд паранейшаму будзе каштаваць пяць капеек, а заўтра?

У мінчукоў і гасцей Мінска — свята. Ды толькі... Новыя станцыі «Купалаўская», «Няміга» і... «Фрунзенская», «Першамайская». Адчулі суседства? Свае, адметныя, нацыянальныя назвы і нешта традыцыйна знаёмае. А, можа, залішнія прыдзіркі? Аднак жа нешта муляе...

**НАШ КАР.**

# «ПОЗНІЯ ЯГАДЫ» З ГАРЧЫНКАЙ...

Выйшла кніга вершаў Паўла Пруднікава «Позпія ягады» (выпусціла яе выдавецтва «Мастацкая літаратура»). Нялёгкі жыццёвы і творчы шлях аўтара, ахвяры сталінізму.

Пра гэта гаварылася на прэм'еры кнігі, якая прайшла ў Доме літаратара. Намеснік старшыні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, Зьніч, Я. Садоўскі, Я. Гаварушка і іншыя адзначалі няпростасць шляху паэта, гаварылі пра нязломнасць яго духу, пра творы П. Пруднікава. Вершы яго прагучалі ў выкананні артыстаў мінскіх тэатраў. Выступіў і сам П. Пруднікаў.

**Наш кар.**

# НАСТУПСТВАЎ НЕ ЛІКВІДАВАЦЬ...

## Нататкі ўдзельніка экалагічнай нарады

У сярэдзіне снежня мне давялося прысутнічаць на сустрэчы пісьменнікаў і вучоных у Доме літаратара. Тэмай гаворкі была агульная наша бяда — Чарнобыль, а таксама магчымыя прыродаахоўныя мерапрыемствы ў рэспубліцы.

Як захаваць і абараніць тое, што яшчэ не позна ратаваць, — так акрэсліў сваю задачу на пачатку выступлення віцэ-прэзідэнт АН БССР акадэмік І. Ліштван. Паводле яго слоў, мы перайшлі ўжо тую мяжу, за якой жывыя сістэмы перастаюць аднаўляцца: разбураны сілкавальны пласт глебы — гумус, на стварэнне якога пайшлі тысячагоддзі; не ачысціць ваду ў азёрах і рэках ад ядахімікатаў; жывёлы і расліны знікаюць з твару зямлі і трапляюць у Чырвоную кнігу.

І ўсё гэта — да Чарнобыля, які давёў сітуацыю да неабходнасці аб'явіць Беларусь зонай экалагічнага бедства, альбо, як сказаў у канцы свайго паведамлення І. Ліштван, — заходнім Аралам.

Тое-сёе нашымі вучонымі зроблена — на стол перад прысутнымі былі пакладзены карты падрабязнага размеркавання радыенуклідаў па тэрыторыі Мінскай вобласці, атрыманыя метадам аэрагамаздымак, распрацаваным творчым калектывам «Экалогія». На атрыманай такім чынам карце Валожынскага раёна — ружовыя па зялёным — распаўзліся плямы павышанай забруджанасці. Як сведчаць вучоныя, атрыманыя такім чынам карты не супадаюць у многім з публікаванымі раней. Ці не таму іх распаўсюджанне некім узмоцнена тармозіцца?

Ішла гаворка і аб захаванні поймаў рэк, асабліва Прыпяці і Ясельды. Хацелася б у сувязі з гэтым выказаць свае меркаванні. Некалькі гадоў назад была праведзена «аперацыя» па спрамленні і ўмуроўванні ў цэмент рэчак і рачулак, якія напаўняюць вадой Мінскае мора. Адна з іх — невялічкая рэчка Ратамка — стала звычайным канальцам, абкладзеным цэментам, цэмент ужо абсыпаўся, рэчка замутнела, парасткі лазы ўздоўж берага бязлітасна высякаюцца пад корань. Жывы пейзаж памянялі на мёртвую, бедную схему.

А ў пераўтваральнікаў, як стала вядома, новыя планы: замест страчаных з-за радыяцыйнага забруджання пасяўных плошчаў у Магілёўскай і Гомельскай абласцях прапаноўваецца інтэнсіўнае асваенне зямель Віцебскай вобласці, ужо парушаецца мікраландшафт, знікаюць пералескі, якія надаюць непаўторную прыгажосць пейзажу. Была выказана прапанова — зрабіць усю Віцебскую вобласць свайго роду запаведнікам, на тэрыторыі якога забаронена ўжыванне хімічных угнаенняў і ядахімікатаў. Сказана было і пра тое, што мы займаем апошняе месца ў Еўропе па прыродаахоўных заказніках і парках. Знакамітая наша Белавежская пушча як паляўнічы запаведнік для «царскіх» паляванняў не можа нас задаволіць.

Нельга не пагадзіцца з выступіўшым на нарадзе Алесем Петрашкевічам, які гаварыў пра татальную хлусню ў нашым грамадстве. Многія тэрміны набылі супрацьлеглае значэнне. Вось, напрыклад, такі выраз, як «ахова раслін». Што ж фактычна хаваецца за гэтымі словамі? Бязлітаснае паліванне (апрацоўка) палёў ядахімікатамі, якое не столькі забівае насякомых, колькі атручвае нас з вамі. Так што цяпер ужо ёсць сэнс гаварыць пра абарону ад «абароны».

Пераканаўчыя дадзеныя былі прадстаўлены ўрачамі з Магілёва. Няма бясшкодных доз, было заяўлена ў выступленні А. Мельнікава. Спалучэнне малых доз радыяцыі нават з бясшкоднымі паасобку дозамі хімічных рэчываў узмацняюць згубнае дзеянне кожнага фактара ў шмат разоў, пры гэтым асабліва церпіць імунная сістэма. За гады, якія прайшлі з дня аварыі, больш чым у два разы ўзрасла колькасць лейкозаў. Аднак няма пакуль механізмаў, каб зняць сакрэтнасць з усіх медыцынскіх дадзеных па ўздзеянні радыяцыі на людзей. Дзеля таго, каб адмяніць рэнтгенадыягностыку пры лячэнні дзяцей на забруджаных тэрыторыях, спатрэбілася чатыры гады ведамаснай цяганіны. Колькі ж ізатопаў назапасілася за гэты час у кволых дзіцячых костачках! І гаворка пакуль не аб тым, каб памагаць, — аб тым, каб не шкодзіць.

Камертонам абмену думкамі паслужыў паказаны ў час сустрэчы фільм «Прычасце» (рэжысёр В. Басаў, сцэнарый В. Гігевіча). Фільм гэты ўжо дубліраваны на французскую мову для ўдзелу ў прэстыжным кінафестывалі дакументальных фільмаў. Не час і не месца тут для рэцэнзіі, пры сустрэчы за «круглым сталом» пра фільм асобна не гаварылі, але ён натуральна ўпісаўся ў атмасферу нарады. Словы Б. Сачанкі аб тым, што ратаваць трэба ўжо тых, хто жыве побач, пасля прагляду фільма прагучалі з асаблівай пераканаўчасцю. Больш за ўсё, на мой погляд, у гэтым фільме ўражваюць твары людзей, якія перажылі аварыю, — яны збянтэжаны тым, што, самі таго не жадаючы, выклікалі такую ўвагу да сябе, ім гэта нязвыкла, няёмка. Шматцярплівыя нашы суайчыннікі і суайчынніцы, здаецца, не надта здзівіліся новаму няшчасцю — звыкла - бадзёра рапартуюць вайскоўцы, аптымістычна гучыць голас маладога і самавітага чалавека, які кіруе эвакуацыяй і ўпэўнена абяцае адсяляемым на новыя месцы райскае жыццё. Ад'езд назаўсёды з родных, наседжаных мясцін — гэта як разрэз па жывым целе. Мы прадаўжаем гаварыць пра неабходнасць адсялення ўсіх да аднаго з забруджаных тэрыторый, а мне (пасля фільма) больш зразумелыя пачуцці тых, хто вярнуўся назад, у пакінуты і разбураны дом.

Наступная сустрэча па экалогіі прызначана ў Акадэміі навук БССР. Добра хоць, што гаварыць пра многае пачалі працей і ўжо ніхто не кажа пра «ліквідацыю вынікаў аварыі», якіх, на жаль, не ліквідаваць. І хоць размовы такія бліжэй па жанры да рытуальных замоў ці заклінанняў, яны ўсё ж патрэбны.

**Л. ТУРБІНА.**

**Сярод лістоў рэдакцыйнай пошты нямала такіх, дзе зваротны адрас — Англія, Злучаныя Штаты, Аўстралія, іншыя асяродкі Беларушчыны за межамі Савецкага Саюза. Напярэдадні калядных святаў да нас прыйшло Пасланне Мітрапаліта Ізяслава з Нью-Йорка. Уладыка Ізяслаў узначальвае адну з плыняў Беларускай Праваслаўнай Царквы ў замежжы. , Друкуем пасланне з захаваннем правапісу арыгінала.**

# КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

Пачэснаму Сьвятарству, прэпадобнаму Манаству і ўсім Вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вольным сьвеце і на Бацькаўшчыне.

Дарагія Браты і Сёстры ў Хрысьце!
Бо цяпер нарадзіўся вам у месьце Давідавым
Збавіцель, Які ёсьць Хрыстос Госпад (Лк. 2,11).

Зноў надыходзіць Сьвяты Дзень Нараджэньня Хрыстовага. Гэта дзень вялікае рэлігійнае і гістарычнае важнасьці, надзеі і пачуцьцяў, і людзкі розум спыняецца, каб зважыць Божае нараджэньне Цара над Царамі, Які прынёс новае маральнае жыцьцё для людзтва, каб прывесьці сьвет да новага высокага духоўнага ўзроўню.

З глыбіняў мільёнаў людзкіх душаў, што жывуць у краінах свабоды, або трымаюцца ў няволі, узносіцца малітва да Бога за лепшае будучае, за канчатковую перамогу дабра над сіламі зла цемры, за больш шляхетны сьвет, у якім страх вайны ня будзе загрозай, а братэрства паміж нацыямі і народамі ды прыватнымі асобамі будзе ўстабілізавана назаўсёды.

Наш Беларускі Народ моліцца за сваю рэлігійную, маральную і нацыянальную свабоду, каб свая Царква, мова і культура зноў закрасавалі, каб суседзі не пасягалі на нашыя спрадвечныя землі з іх слаўнай гісторыяй, каб яны прызналі Богам данае нам права на вольнае існаваньне ў сям'і вольных народаў сьвету.

Усе хрысціяне, сабраныя ў гэты Сьвяты Дзень у малітве і роздумах, паўтараюць гарманійны і многазначны гімн Ан-

*Пастанова Савета Міністраў БССР*

# Аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Беларускай ССР 1990 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры



Разгледзеўшы прапановы Камітэта па Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Савет Міністраў Беларускай ССР пастанаўляе:

Прысудзіць Дзяржаўныя прэміі Беларускай ССР за 1990 год:

### У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ

#### Імя Янкі Купалы

**Разанаву** Аляксандру (Алесю) Сцяпанавічу—за кнігу паэзіі «Вастрыё стралы».

#### Імя Якуба Коласа

**Кісялёву** Генадзю Васільевічу — за кнігі гісторыка-літаратурных даследаванняў «Адшукваецца класік» і «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча».

**Лойку** Алегу Антонавічу—за раман-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае».

#### Імя Кастуся Каліноўскага

**Карамазаву** Віктару Філімонавічу — за кнігу публіцыстыкі «Проста ўспомніў я цябе...».

### ЗА ТВОРЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Дайнеку** Леаніду Марцінавічу — за гістарычныя раманы «Меч князя Вячкі» і «След ваўкалака».

### У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І КАНЦЭРТНА-ВЫКАНАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

**Роўду** Віктару Уладзіміравічу, мастацкаму кіраўніку, галоўнаму дырыжору хору Дзяржаўнага камітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні — за стварэнне гукавой анталогіі беларускіх народных песень.

### У ГАЛІНЕ РАДЫЁВЯШЧАННЯ

**Анісенку** Валерыю Данілавічу—за пастаноўку радыёспектакляў «У тумане» і «Кар'ер» па аповесцях Васіля Быкава.

### У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА

**Солтану** Уладзіміру Яўгенавічу, **Вашчаку** Яраславу Антонавічу (пасмяротна), **Анісімаву** Аляксандру Міхайлавічу, **Цюпу** Вячаславу Алегавічу, **Гейдэбрэхту** Эрнсту Давыдавічу, **Кастэнка Наталлі Якаўлеўне, Скорабагатаву** Віктару Іванавічу, **Экнадзіёсаву** Уладзіміру Сяргеевічу—за стварэнне і пастаноўку оперы «Дзікае паляванне караля Стаха».

**Старшыня Савета Міністраў**
**Беларускай ССР**
**В. Ф. КЕБІЧ.**
**Кіраўнік спраў Савета**
**Міністраў Беларускай ССР**
**М. Т. КАЎКО.**

---

гелаў: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір, між людзьмі добрая воля».

Ці словы гэтыя ёсьць рэальнасьцю ці надзеяй? Цяпер у гэты крытычны час сусьветнае гісторыі, калі народы цэнтральнае і ўсходняе Эўропы паўстаюць да свайго незалежнага жыцьця з пад дзікай, таталітарнай, камуністычнай ідэалогіі і гегемоніі, варта затрымацца ў роздумах пра веліч і важнасьць Нараджэньня Хрыстовага. Гэтае Сьвята ёсьць вялікім днём вясёласьці ня толькі таму, што нашыя людзі ў гэты час традыцыйна прыгатаўляюцца да яго: упарадкоўваюць свае дамы, займаюцца гасьцяваньнем асаблівымі стравамі каляднікаў і іншых госьцяў, але перш за ўсё ёсьць Сьвятым Днём — пачаткам збаўленьня чалавецтва праз паяўленьне Хрыста на зямлі, Які прынёс у сьвет справядлівасьць і любоў, свабоду і мір. Ніхто ня можа зьнішчыць радасці Нараджэньня Хрыстовага, бо яна дзее ў душах чалавечых, якія ёсьць несьмяротныя. Хрыстос нарадзіўся, каб вызваліць усіх людзей з няволі грэху і ўзвесьці сьвет да высокага духоўнага ўзроўню.

Пасьля двух тысяч гадоў хрысьціянства, Мадэрны сьвет прадстаўляе сабой ацьвяразаючы абраз. Бязжаласныя дыктатары імкнуліся ў мінулым, а іншыя імкнуцца і цяпер, зьнішчыць людзкія каштоўнасьці павагі, справядлівасьці, любові і веры ў Міласэрнага і Вечнага Бога.

Але, дзе мы, як хрысьціяне стаім, ведаючы наш абавязак абараняць чалавечыя правы, хрысьціянскую веру і маральныя прынцыпы, як рабілі непераможныя мучанікі за веру ў мінулых стагодзьдзях?

Калі Збавіцель нарадзіўся ў Віфлееме Юдэйскім, амаль 2000 год таму, Ангелы абвяшчалі Яго паяўленне, скромныя пастухі прыйшлі аддаць Яму чэсьць, а мудрацы здалёк, ідучы за яснай зоркай, прынесьлі свае падарункі і пакланіліся, выразіўшы сваю веру.

У гэты Сьвяты Дзень зьвернем нашыя сэрцы і думкі да Князя Міру — Ісуса Хрыста, каб узнавіць нашыя рэлігійныя перакананьні, ажывіць нашу веру, узмоцніць нашы маральныя вартасці і адвагу, каб усталяць супраць падманнага і фальшывага міру на сьвеце, ды выявіць сваю дзейнасьць за Мір Хрыстовы ў нас.

Няхай сьвята Нараджэньня Хрыстовага будзе вясёлым і благаславенным, каб усе мы маглі даверыць сваё жыцьцё Хрысту, верыць у Яго болей ды слухаць Яго заўсёды, каб атрымаць ад Яго як найлепшы падарунак — жыцьцё вечнае.

Вітаю ўсіх вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вольным сьвеце і ўсіх Беларусаў і Беларусак на нашай Бацькаўшчыне Беларусі з гэтым вялікім Сьвятам.

Зьвяртаймася ў нашых малітвах да нованароджанага Госпада Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста, каб даў сілаў нашаму шматпакутнаму Беларускаму Народу збавіцца ад вынікаў Чарнобыльскае катастрофы.

Ласка і мір нованароджанага Госпада і Спаса нашага Ісуса Хрыста няхай будзе з усімі вамі.

Дадзена лета Божага 1990, месяца Сьнежня

Бруклін, Нью Ёрк, З.Ш.А.
**Ізяслаў, Мітрапаліт**
**і Першагерарх Беларускае**
**Аўтакефальнае Праваслаўнае**
**Царквы**

---

## ВІНШУЕМ!

Савет Міністраў БССР прысудзіў таксама Дзяржаўныя прэміі Беларускай ССР у галіне навукі і тэхнікі. Сярод лаўрэатаў—член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР **С. Марцалеў;** кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік **А. Кулагін;** кандыдат архітэктуры, старшы навуковы супрацоўнік **Т. Чарняўская,** кандыдат гістарычных навук, былы старшы навуковы супрацоўнік **В. Караткевіч** (пасмяротна)—работнікі гэтага ж інстытута; загадчыца рэдакцыі навуковага і літаратурнага кантролю выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі **С. Самуэль;** доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык аддзела Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР **Г. Штыхаў.** Прэмія ім прысуджана за Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі (у сямі тамах, васьмі кнігах), апублікаваны ў 1984—1987 гадах.

Былому старшаму навуковаму супрацоўніку навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства народнай адукацыі БССР **У. Андрэенку,** доктару філалагічных навук, прафесару, загадчыку кафедры Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага **М. Яўневічу** Дзяржаўная прэмія БССР прысуджана за падручнікі «Беларуская мова», апублікаваныя ў 1963—1989 гадах.

## «ПЕСНЯМ-ЖАЛЬБАМ»-80

Адзін з чарговых вечароў у Доме літаратара быў прысвечаны юбілею першай кнігі Якуба Коласа «Песні-жальбы». 80 гадоў мінулася з таго часу, як будучы народны пясняр выдаў зборнік, з якога і пачаўся яго вялікі шлях у літаратуру.

Гэтую кніжку змаглі ўбачыць і прысутныя на вечары, але не з фондаў Літаратурнага музея Якуба Коласа, а са збору А. Капусціна. Аляксандру Пятровічу яе некалі аддаў стрыечны брат, калгаснік Сяргей Ільіч Нямцоў, які загінуў у час вайны. А. Капусцін захоўваў Коласаў зборнік як дарагую рэліквію, а цяпер перадаў музею песняра.

Адкрыў і вёў вечар М. Лужанін. Выступілі Я. Брыль, І. Шамякін, А. Капусцін, Д. Міцкевіч, М. Татур, У. Паўлаў. У выкананні артыстаў мінскіх тэатраў прагучалі асобныя творы Я. Коласа.

## КЛАСІКА Ў КАМЕРНАЙ ЗАЛЕ

У даўніну, калі не было канцэртных залаў, невялікія вакальныя і інструментальныя творы гучалі ў дамах аматараў музыкі. У наш бурны век Беларуская дзяржаўная філармонія прапанавала свой варыянт адраджэння традыцыі.

Як вядома, на пачатку сёлетняга сезона ў Мінскай вобласці адкрыліся 23 залы камернай музыкі. Напрыклад, у адной з іх — Барысаўскай музычнай школе — прайшло ўжо 3 канцэрты. Навучэнцы, бацькі, аматары музычнай класікі горада пазнаёміліся з мастацтвам вядомых беларускіх выканаўцаў: спявачкі Святланы Данілюк, піяніста Ігара Алоўнікава, баяніста Мікалая Сеўрукова. Гучалі творы рускай і замежнай класікі. У гонар 150-х угодкаў П. Чайкоўскага гучала шмат ягоных твораў.

Што шукаюць у музыцы класікаў нашы сучаснікі, знясіленыя побытам, чэргамі за дэфіцытам? Добрае выкананне музыкі прымушае паразважаць, адключыцца ад сумятні, настройвае на высокае — гэтага якраз не стае ў наш час.

**М. ПІШЧАНКА,**
**выкладчык музычнай школы.**

г. Барысаў.

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І АДРАДЖЭННЕ

**Юрый ХАДЫКА,**
**доктар фізіка-матэматычных навук**

СЛОВЫ «інтэлект» і «інтэлігенцыя» паходзяць ад аднаго кораня. Аднак асаблівыя здольнасці да разумовай працы, вядома ж, не з'яўляюцца дастатковай прыкметаю інтэлігента, хоць і з'яўляюцца неабходнай. Так, напрыклад, людзей, што ўваходзяць у склад «мазгавога цэнтра» мафіі, нельга назваць інтэлігентнымі, нягледзячы на тое, што яны могуць надзвычай эфектыўна займацца «разумоваю працаю». Нельга назваць інтэлігентам і чалавека, які ў нашым грамадстве, заснаваным на падзеле працы, гандлюе не толькі сваімі ведамі і здольнасцямі, але і сваімі перакананнямі.

Гэтыя адмоўныя прыклады дазваляюць вызначыць інтэлігента як асобу, якая валодае падвышанымі здольнасцямі да разумовай, інтэлектуальнай дзейнасці і адначасова мае глыбокія гуманістычныя перакананні, г. зн. прытрымліваецца пэўнай сістэмы каштоўнасцей, дзе крытэрыі гонару, годнасці, абавязку, адказнасці знаходзяцца паперадзе імкнення да выгод, прэстыжу, камфортнасці.

Такім чынам, калі род заняткаў чалавека вызначаецца адукацыяй, то ягоныя паводзіны, гэтаксама як і адносіны да працы і грамадскіх праблем, — выхаваннем. Інтэлект ёсць прадукт гэтага дваістага працэсу — выхавання і адукацыі. Але выхаванне адыгрывае галоўную ролю ў фарміраванні сапраўднага інтэлігента. А яшчэ — здольнасць да самаразвіцця і самаўдасканалення. Відавочна, што менавіта разбурэннем класічнага гуманітарнага выхавання і тлумачыцца збядненне нашага грамадства на людзей сапраўды інтэлігентных і духоўна сталых, трывалых, пазбаўленых моднага сёння канфармізму.

**Сёння распаўсюджаны дзіўны падзел інтэлігенцыі на тэхнічную і гуманітарную і адначасна яе супрацьпастаўленне «працоўным», ваенным ды адміністратарам. Гэтае супрацьпастаўленне пазбаўлена сэнсу. Працоўная дзейнасць пачынаецца з думкі, ідэі, чарцяжа, адкрыцця і толькі пасля ператвараецца ў больш ці менш руцінны працэс. Таму «тэхнічную» інтэлігенцыю — эканамістаў, менеджэраў, лекараў і г.д. — наогул нельга аддзяліць ад працоўных, бо яны бяруць удзел у агульным, сацыяльна і гістарычна абумоўленым, працэсе стварэння матэрыяльных каштоўнасцей.**

**Тое, што аб'ядноўвае «тэхнічную» інтэлігенцыю з «гуманітарнай» — пісьменнікамі, мастакамі, акцёрамі, філосафамі — якраз і складае сутнасць інтэлігентнасці. А менавіта—прызначэнне задавальняць духоўныя запатрабаванні чалавека, абараняць духоўнае здароўе чалавецтва. Даўно сказана — «не хлебам адзіным жывы чалавек». Маральнасць грамадства, дасканаласць ягоных інстытутаў, справядлівасць законаў і гуманнасць ягонага светапогляду дасягаюцца праз мастацтва, аналізуюцца і ўдакладняюцца вучонымі і мысліцелямі. Таму і не дзіўна, што ўсе тыранічныя, таталітарныя рэжымы ў першую чаргу атакуюць інтэлігенцыю гуманітарную. Дастаткова нагадаць гітлераўскі пагром культуры, кітайскую «культурную рэвалюцыю» ды сталінскі генацыд, які знішчыў інтэлігенцыю, якая абразліва звалася «праслойкай».**

Так, у краіне засталіся інжынеры, медыкі, вучоныя, настаўнікі... Але гэтая новая ў большасці сваёй інтэлігенцыя была пазбаўлена магчымасці выконваць сваю грамадскую місію — быць сумленнем народа, адкрыта казаць пра ягоныя хваробы. Пачалася эпоха сну розуму, які нараджае пачвар. І мы мелі гэтых пачвар, і не пазбавіліся іх да сённяшняга дня.

Але і ў самыя змрочныя часы сумленне, любоў да ісціны і да чалавека натхнялі лепшыя галовы і сэрцы на подзвіг супрацьстаяння, подзвіг абароны боскага пачатку ў чалавеку. Таму не «партыя пачала перабудову». Перабудову пачалі пісьменнікі М. Булгакаў і А. Платонаў, акадэмікі П. Капіца і А. Сахараў... За «перабудову» аддалі свае жыцці Янка Купала і Максім Гарэцкі, Цішка Гартны і Алесь Ігнатоўскі, Браніслаў Эпімах-Шыпіла і Язэп Лёсік... Бясконцы гэты мартыралог, але і светлы, як светлая памяць пра гэтых людзей — сапраўдных інтэлігентаў, змагароў за праўду, за свой народ. Іх прыклад, іх пакутныя жыцці высвятляюць яшчэ адну істотную рысу інтэлігентнасці — **самаахвярнасць.**

МНЕ АСАБІСТА зразумелая разгубленасць прадстаўніка ветэранскай групы, які ў час II пазачарговай сесіі ВС БССР задаў рытарычнае пытанне: «Чаму мы не можам дамовіцца, хоць у зале пераважная большасць —людзі з вышэйшай адукацыяй?» Справа, вядома, не ў адукацыі, а ў складзе Савета. Большасць у ім — людзі, якія яшчэ нядаўна хаваліся ў цішы кабінетаў, а зараз выйшлі пад святло галоснасці і спрабуюць іграць ролю лідэраў народа. Іх галоўнаю рысаю яшчэ нядаўна была апаратная выканаўчасць, якая не прадугледжвала адказнасці, а, наадварот, прадугледжвала бяздумную паслухмянасць, паколькі ўсё вырашалася за іх вышэйстаячымі асобамі. Зараз яны павінны стаць адказнымі заканадаўцамі. Гэтай супярэчнасцю і тлумачыцца відавочны парадокс беларускага парламента, калі ў палеміцы перамагаюць адны, а пры галасаванні — другія.

У пераможныя, крызісныя перыяды жыцця грамадства роля разумных людзей, якія не згубілі сумлення і ўсведамляюць сваю адказнасць, значна павялічваецца. Сапраўды, ад дакладнасці выбару, прадуманасці і дальнабачнасці рашэнняў залежыць хуткасць пераадолення крызісных з'яў і памяншэнне непазбежных страт. Асаблівы драматызм сітуацыі надае тая акалічнасць, што інтэлігент павінен адначасна разумець і сваю **адказнасць за крызіс** і сваю **адказнасць за аптымальны выхад** з яго.

**Тут мы падыходзім да тэмы «пакаяння». Да тэмы, якая хвалюе грамадства апошнім часам. Ці павінна партыя, якая нядаўна яшчэ была «розумам, гонарам і сумленнем эпохі», пакаяцца? І як гэта павінна выглядаць? Пакаянне — акт індывідуальны, нават інтымны. Адзіны сведка — святар, у абавязкі якога ўваходзіць строгае захаванне таямніцы. Псіхічны механізм пакаяння заключаны ў тым, што чалавек свядома прызнае зробленыя ім памылкі і адмаўляецца ад іх. У працэсе пакаяння адбываецца быццам нараджэнне новага чалавека, не абцяжаранага сваім мінулым. Гэты акт ачышчэння магчымы толькі ў выпадку ШЧЫРАГА ПЕРАЖЫВАННЯ ГРАХУ.**

**Зразумела, што нават калі ўсе члены кампартыі адведаюць царкву, гэта яшчэ не будзе пакаяннем партыі як арганізацыі. Для гэтага патрабуецца перамена яе ідэалогіі, яе структуры, характару яе дзеинасці. Але гэтага пакуль што не адбылося. Яе кіраўнікі і кіраўнічыя органы пакуль што гавораць АБ ДЭФАРМАЦЫЯХ, аб скажэнні ідэі, гучаць новыя абяцанні, новыя заклінанні і новыя праклёны. І пакуль гэта адбываецца, гаварыць пра адраджэнне даверу ў народзе да камуністычнай партыі не выпадае.**

Але вернемся да нашага «парламенцкага парадоксу», калі канструктыўныя, глыбокія прапановы адхіляюцца механічнаю большасцю. Прымаюцца эклектычныя, супярэчлівыя рашэнні — у той час, калі народная гаспадарка развальваецца на вачах. Мала гэтага, антынародная палітыка праводзіцца пад акампанемент дэмагагічных лозунгаў, накшталт: «Давайце працаваць, хопіць мітынгаў», падмацоўваецца самазгубнымі спробамі супрацьпаставіць працоўных інтэлігенцыі. Гэта адно з найяскравейшых сведчанняў таго, што сталінізм яшчэ дзейнічае. Што ён спрабуе знайсці свой шанц ва ўвядзенні надзвычайнага стану альбо ў ваенным перавароце.

Але для гэтага патрэбна стварыць у грамадстве неабходныя ўмовы, патрэбна, каб народ, калі б і не падтрымаў дыктатуру, то не супраціўляўся ёй. У гэтым і ляжыць сапраўдная прычына галапіруючай інфляцыі, жахлівага дэфіцыту, нястрыманай спекуляцыі, нягледзячы на тое, што ўраджай вырашчаны рэкордны і заводы выконваюць планы. Пад прыкрыццём квітнеючага прававога нігілізму рэальнай улады, якая па-ранейшаму сканцэнтравана ў партыйных камітэтах. Пры райкомах, гаркомах, абкомах і да т.п. ствараюцца акцыянерныя кааператыўныя, сумесныя вытворчасці і банкі, куды перакачваюцца народныя грошы. Партыйная наменклатура аддасць Саветам рычагі ўлады, але не раней, чым закончыцца гэты працэс рабавання працоўных мас і будуць створаны новыя правячыя класы на грунце старых наменклатурных кадраў. Тады і будуць прыняты законы аб уласнасці, аб зямлі і аб пераходзе да рынку.

У ГЭТЫ КРЫТЫЧНЫ, пераломны момант перад інтэлігенцыяй і паўстае праблема выбару: з кім, з якімі сацыяльнымі сіламі і групамі ўступіць яна ў гэты «судьбоносный», як прынята казаць, перыяд. У сапраўднасці адказ на гэтае пытанне зусім просты. Канечне ж, з народам, з прыніжанымі і зняважанымі, як гэта рабілі земскія лекары, настаўнікі мінулага веку. Але ён не проста палітычны, таму што ва ўмовах таталітарызму, які яшчэ захоўваецца, такі выбар патрабуе немалой мужнасці і духоўнай незалежнасці — яшчэ адной рысы сапраўднай інтэлігентнасці.

У сувязі з гэтым узнікае апошняе істотнае для нашай тэмы пытанне. Наколькі гатовая беларуская інтэлігенцыя зрабіць гэты відавочны выбар? Палітыка прымусовай русіфікацыі Беларусі, якая праводзілася царскім самаўладдзем на працягу ўсяго XIX і пачатку XX ст., сталінскі тэрор і брэжнеўскі застой, якія змянілі яе, нанеслі беларускай культуры цяжкія раны, загаіць якія хутка немагчыма. Наш народ пастаўлены на мяжу нацыянальнага бяспамяцтва. Мы забываем мову і з ёю песні і казкі, прымаўкі і жарты, якія выхоўвалі сацыяльна-псіхалагічныя рысы, уласцівыя беларусу, — цярпенне і талерантнасць, павагу да працы і да ведаў, упартасць і бяззлобнасць.

Мы забываем сваю гісторыю, перастаём разумець яе як сваю, а сваёй пачынаем лічыць гісторыю Масковіі. І сваё цудоўнае шматвяковае мастацтва, якога не разумеем і не цэнім. Даходзіць да таго, што на старонках шматтыражнай газеты АН БССР некаторыя дактары і кандыдаты навук адмаўляюць права свайго народа развіваць культуру на сваёй мове. Такая глыбіня маральнага падзення, прычына якога — нацыянальны нігілізм.

Вядома ж, гэта трагедыя, калі знікае самасвядомасць народа. Дрэнна нават, калі знікае від раслін, насякомых ці жывёл — прырода робіцца бяднейшай і больш аднастайнай. Але ў колькі разоў горш, калі знікае арыгінальная і багатая культура? Якія страты наносяцца пры гэтым сусветнай сукупнасці культурных народаў і, галоўнае, самому народу, у якога забіраюць яго культуру? Гэты працэс супярэчыць волі Боскай. Нагадаю міф аб вавілонскай вежы, калі Бог, абураны самадавольствам людзей, якія рашылі залезці на неба, зблытаў іхнія мовы: «І рассеяў іх Госпад адтуль па ўсёй Зямлі». Як гэта нагадвае тое, што адбываецца зараз у нас у краіне, калі апала покрыва дурману лжывых каштоўнасцей і лжывых мэт і ўсе народы згадалі аб сваёй культуры. У гэтай разнастайнасці, непадобнасці нацыянальных культур і хаваецца прычына ўстойлівасці чалавечай цывілізацыі наогул.

**Таму Беларускі народны фронт і прыняў саманазву БНФ «Адраджэнне» і лічыць умоваю пераадолення глабальнага крызісу — адраджэнне нацыянальнай культуры беларусаў, таксама як і іншых народаў Беларусі. Абараняючы нацыянальную культуру і заклікаючы ўсіх інтэлігентаў далучыцца да гэтага працэсу, БНФ адначасна змагаецца, як гэта ні дзіўна, і за «сацыялістычны выбар», таму што менавіта традыцыйная культура, якая грунтуецца на хрысціянскіх прынцыпах, сапраўды сацыялістычная. Яна прызнае прыярытэт грамадскіх інтарэсаў над асабістымі. У ёй ёсць месца і для спачування, і для супрацоўніцтва, і для ўзаемадапамогі, і для падтрымкі слабога. КПБ ж, наадварот, мае ў якасці ўзору грамадства тыпу амерыканскага з яго агульнаю моваю і з мас-культураю, пазбаўленай народных каранёў. У такім грамадстве «сацыялістычны выбар» немагчымы, таму што яно пабудавана па прынцыпе — інтарэсы асобы вышэй за грамадскія.**

**Скончу я гэтыя нататкі цытатаю са сваёй прамовы на альтэрнатыўным мітынгу 7 лістапада, паколькі яна выпала з прапагандысцкіх кліпаў, створаных партапаратам дзеля дыскрэдытацыі БНФ. «Мы робім розніцу паміж партыяй, як палітычнай арганізацыяй, антынародны і антыгуманны характар якой выкрыты, яе гісторыяй і яе практыкай і шэраговымі камуністамі, кожнага з якіх мы заклікаем далучыцца да выратавальнага народнага руху».**

Мне здаецца, што гэта цалкам інтэлігентная палітыка і яна адчыняе браму супрацоўніцтва з усімі сапраўднымі інтэлігентамі, хто падзяляе нашу надзею на лепшае жыццё, нашу веру ў магчымасць свабоды і незалежнасці і нашую любоў да бацькаўшчыны. Як сказаў св. апостал Павел: «А зараз існуюць гэтыя тры: вера, надзея, любоў; але любоў з іх большая».

У аснову артыкула пакладзена выступленне на рэспубліканскім форуме «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі».

**АД РЭДАКЦЫІ. Друкуючы сёння выступленне аднаго з лідэраў БНФ, мы, тым не менш, не можам не адрэагаваць на адзін прыкры інцыдэнт.**

**Маецца на ўвазе передрук «Народнай газетай» у нумары за 25 снежня 1990 г. лімаўскай (21 снежня 1990 г.) публікацыі З. Пазняка. Дакладней, не сам перадрук, а тая зняважлівая для нашай рэдакцыі форма, у якой ён зроблены. Натуральнае жаданне З. Пазняка давесці свае думкі да як мага шырэйшай чытацкай аўдыторыі —лёгка зразумець. Незразумела іншае — навошта пры гэтым абвінавачваць «ЛіМ» у нейкім «скажэнні зместу»?**

**Думаецца, такі недружалюбны ўчынак у дачыненні да газеты, якая ў самыя неспрыяльныя часы давала магчымасць З. Пазняку выказацца, не робіць гонару народнаму дэпутату, чалавеку, які прэтэндуе на ролю лідэра нацыі.**

**РЭПЛІКА**

# ПАД ШЫРМАЙ «ДЛЯ БІБЛІЯТЭК»

Выпісваючы газеты і часопісы ў раённым агенцтве «Саюздрук», хацеў выпісаць і васьмітомны збор твораў А. Дзюма. Але служачыя «Саюздруку» сказалі, што падпіску на мастацкія літаратурныя творы забраў работнік гаркома партыі Віктар Власаў. Што ж, давялося зайсці з просьбай да Власава. Ён заявіў: «На жаль, вашу просьбу не магу задаволіць, усе камплекты твораў размеркаваны па бібліятэках».

Я не паверыў гаркомаўцу. Аднак наша далейшая размова не дала жаданых вынікаў. А напамінак аб бібліятэках мяне скалануў.

Было гэта даўно, калі я працаваў карэспандэнтам раённай газеты: асвятляў культурнае жыццё горада і раёна, і часта бываў у бібліятэках. І вось у часопісе «Новый мир» паявілася аповесць А. Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Гэтага нумара часопіса ў раённай бібліятэцы не знайшлося, бо «забрала чытаць начальства». Я ў гарадскую бібліятэку — і там тое самае. Доўгі час я хадзіў у гэтыя культурна-асветныя ўстановы і чуў адзін адказ: «Яшчэ не вярнулі». Вядома, аповесць я не прачытаў да сённяшняга дня. Вось вам і бібліятэкі!

Падобная сітуацыяназіралася і ў кніжным гандлі. Амаль уся «хадавая» літаратура не даходзіла да кнігарняў. Сам бачыў, як на кніжным складзе райспажыўсаюза райкомаўскія жанчыны (тады быў райком) пераварочвалі пачкі свежапаступіўшых кніг, выбіраючы сабе тое, што лічылі патрэбным.

Неяк прыбыла ў нашы кнігарні аповесць А. Рыбакова «Дзеці Арбата». І яе аддалі высокапастаўленым асобам...

Аднак вернемся да васьмітомніка Дзюма. Некалькі разоў я хадзіў у раённае агенцтва «Саюздрук», каб даведацца, хто ж набыў 55 экземпляраў камплекта. І, нарэшце, мне паказалі абанементныя карткі падпісчыкаў.

І што выявілася? В. Власаў, мякка кажучы, сказаў няпраўду. З 55 камплектаў твораў Дзюма 16 пойдуць у гарадскія і сельскія бібліятэкі (а ўсіх бібліятэк у гэтай сістэме 46), па адным камплекце выдзелілі для бібліятэк саўгаса-тэхнікума і медыцынскага вучылішча.

А рэшту камплектаў цікавай літаратуры пад шырмай «для бібліятэк» будуць атрымліваць два сакратары гаркома партыі, старшыня і намеснік гарвыканкома, шмат іншых функцыянераў партыйна-савецкага апарату. Не пакрыўдзіў сябе і В. Власаў.

Вось так камандуе аддзел прапаганды і агітацыі гаркома КПБ.

Зазначу, што са слонімскіх літаратараў ніхто не змог выпісаць творы Аляксандра Дзюма.

**А. ІВЕРС.**

г. Слонім.

# ВЯРТАННЕ Ў ВІЛЬНЮ

**Юрась ЗАЛОСКА**

### Камандзіровачны дыярыуш

**Заўсёды еду ў Вільню-Вільнюс з нейкай трапяткой узнёсласцю ў душы... Вільня — калыска маёй духовай чыннасці, і тым гэты горад мне дарагі. Праведзеныя ля яго «сівых муроў» студэнцкія гады, якім наканавана было супасці з імклівым літоўскім узлётам ад імперскай васальнасці да п'янкой свабоды, не маглі не ўлюбіць назаўжды ў задуменныя і таямнічыя будыніны, у ціхія, блякла-змрочныя вуліцы, у зберажоныя памяркоўнымі літоўцамі духоўныя святыні. Віленскія рарытэты быццам схавалі ў сабе шляхецкі гонар былой сталіцы вялікай дзяржавы. Мабыць, не без яго дапамогі два гады назад над вежай Гедыміна залунаў летувіскі сцяг...**

## Пераадкрыццё Вільні

Трэба сказаць, я не надта верыў афіцыйнай прэсе, калі яна праз сціснутыя зубы выдавала «саўінфармаўскія» перлы наконт падзей у Літве. Па-першае, таму, што журналісты-каментатары ваяжыравалі ў рэспубліку-ўцекача кшталтам вясельных генералаў, маючы загадзя падрыхтаваную пракурорскую пазіцыю. Па-другое, праз «ружовыя акуляры» можна згледзець, прынамсі, толькі ружовае. Ды і спяшацца з высновамі ў бурапенны час нявapта.

Увогуле інфармацыйная сувязь з беларускай паспалітасцю ў Вільні існавала. Але выпадковыя допісы і званкі ў рэдакцыю не маглі задаволіць, бо сам беларускі рух на Віленшчыне апошнім часам займеў неадназначны сэнс, у першую чаргу — гістарычны. С. Дубавец у нядаўнім артыкуле «Падставы рацыянальнага нацыяналізму» («ЛіМ», 2. XI. 1990) вылучае Вільню на важнае месца ў адраджэнцкім працэсе: «Шлях любога дзеяча, любога мастацкага, літаратурнага кірунку, навукі, ды ўсяго беларускага ўвогуле спрадвеку і да пачатку XX ст. пралягаў праз Вільню. Мяжа БССР тут сталася нажом гільяціны, які апусціўся на шыю нацыі. І адчужэнне Вільні сёння — гэта адчужэнне і амаль усяе беларушчыны. Без усведамлення беларусамі гэтага горада як свайго наша нацыянальнае Адраджэнне вельмі праблематычнае».

Пачаўся збор камянёў у мур нацыянальнай гісторыі, і ёсць падставы сцвярджаць, што «віленскі камень» будзе займаць у ім пачэснае, адэкватнае сваёй ролі, месца.

## Захавальнік віленскай беларушчыны

Безумоўна, слушна пачынаць «віленскую» тэму ў сучасным яе гучанні перш за ўсё зборам уласных меркаванняў, пазіцый, думак цяперашніх носьбітаў беларускасці ў Вільні і Віленскім краі.

Бадай ці не апошнім штуршком для вандроўкі ў Літву з'явіўся і нечаканы перапынак у чытацкіх допісах адтуль. Але, як высветлілася, гэты перапынак «зусім натуралёвы», калі казаць словамі Лявона Луцкевіча, якога сёння ў нашым друку называюць «прадстаўніком беларускай грамадскасці» ў Вільні. А яшчэ ўчора гэтая постаць з'яўлялася персонай нон-грата для партызаванага друку: як жа — сын прэм'ера БНР Антона Луцкевіча! і г. д. і г. д. Пры дапамозе загадчыцы аддзела культуры літоўскай рускамоўнай газеты «Эхо Литвы» Раісы Станкявічэне тэлефаную Лявону Антонавічу, і мы дамаўляемся аб сустрэчы.

...Адчыніў мне сам гаспадар. Высакародны, з глыбокімі маршчынамі твар, памяркоўныя манеры, выкшталцонасць кожнага слова. Гэты чалавек літаральна выгадаваўся ў сутарэннях Беларускага нацыянальнага музея, дырэктарам якога быў ягоны бацька. Але менавіта ў апошнія два гады, калі за плячыма засталося ўжо амаль тры дзесяткі гадоў працы інжынерам-энергетыкам на адным з прадпрыемстваў горада, прабіў час разгарнуцца плённай і няўрымслівай адраджэнцкай дзейнасці спадара Лявона. Лявон Луцкевіч з'яўляецца аднаасобным арганізатарам і аўтарам беларускіх перадач на Літоўскім радыё. Два разы на месяц гучыць у тамтэйшым эфіры «Беларускае слова на хвалях Літвы». Вядуць перадачы Лявон Антонавіч і гісторык Таццяна Каротчанкава, шчырая беларуская патрыётка Вільні.

У дзень майго візіту меўся адбыцца запіс чарговай, каляднай перадачы, яму папярэднічала наша пяцігадзінная размова. З усяго абсягу закранутых пытанняў выдзелю галоўныя, на мой погляд, актуаліі.

## Куды зніклі беларусы Віленскага краю?

Сапраўды — куды? Тут я змушаны дастасаваць да матэрыялу гутаркі статыстычныя звесткі, ласкава пададзеныя мне ў Дэпартаменце па пытаннях нацыянальнасцяў пры ўрадзе Літоўскай Рэспублікі (далей — ЛР) намеснікам дырэктара Альфонсасам Швяльнісам.

Паводле перапісу 1897 года абсалютную большасць насельніцтва Віленскай губерні (а яе тэрыторыя амаль тоесная тэрыторыі сучаснага краю) складалі этнічныя беларусы — 56 % (палякі — 8,2 %, літоўцы — 17,6 %). На сённяшні дзень у Вільнюскім раёне жыве каля 4,7 % беларусаў, 20,8% літоўцаў і 63,6% палякаў (назваліся гэткімі). У Шальчынінскім раёне — 3,6 % беларусаў, 8,5 % літоўцаў і 82,4 % палякаў. Вось якая этнічная метамарфоза! Здаецца, вялікі перасоўшчык народаў не вывозіў згэтуль беларусаў у Азію?.. Ці, можа, іх паморак пабраў? Але пакінем жарты да лепшых часоў.

Памянёны літоўскі чыноўнік падзяліўся парадаксальнай, на яго думку, лічбай. Трэцяя частка дзяцей польскай нацыянальнасці ў Віленскім краі свядома вучыцца не ў польскіх, а ў рускіх школах! І гэта пры тым, што польскія школы з'яўляюцца дзяржаўнымі ў Літве. Больш таго, пэўная частка «пашпартных» палякаў сваёй роднай мовай называе беларускую!

Гэты парадокс дапоўніла сведчанне жонкі Лявона Антонавіча — спадарыні Галіны Антонаўны, якая выкладае замежныя мовы. У Вільнюскім дзяржаўным педагагічным інстытуце ёй давялося сутыкнуцца з тым, што студэнты-паланісты (вядома ж, палякі) амаль не разумеюць літаратурнай польскай мовы, падкрэслена карыстаюцца сваёй, «тутэйшай», якую смела можна лічыць дэфініцыяй той жа неўміручай нашай «трасянкі», але ўжо ў беларуска-польскай варыяцыі.

— Тое, што беларусаў краю «напісалі на палякі» пры польскім часе, сёння ўжо прызнаецца нават і польскім бокам. Але абмежавацца гэтай канстатацыяй, на маю думку, было б не зусім памяркоўна, — лічыць Лявон Луцкевіч. — Віленскі край — гэта край-паграніччa, край літоўска-беларускага памежжа, польскі элемент куды быў штучна ўкроплены і ніколі не меў тут этнічных каранёў. Як развіваліся дэмаграфічныя працэсы на Віленшчыне пасля першай сусветнай вайны — гэтага ніхто ніколі ўсур'ёз не вывучаў. Вось чаму, каб растлумачыць згаданы вамі парадокс, трэба ліквідаваць гэтую «белую пляму» ў гісторыі беларусаў. Патрабуецца перш за ўсё паслядоўнае навуковае вывучэнне эвалюцыі беларускага этнасу на Віленшчыне ў XX ст., такім мне мяркуецца пачатак вяртання да віленскага вытоку. Прынамсі, ім не могуць служыць безадносныя геапалітычныя рахункі Літве з боку беларускага парламента.

У гэтым жа рэчышчы патрэбна напісаць поўную гісторыю беларускага палітычнага руху на Віленшчыне да 1939 года, каб яна ўвайшла ў школьныя падручнікі. Гэта і не зусім прыстойная для сённяшніх палякаў пілсудска-клерыкальная дыскрымінацыя беларускай інтэлігенцыі, вязніцкі шлях у Картуз-Бярозу, і хуткі другі ўдар забойцаў-крымінальнікаў НКУС у верасні-кастрычніку 1939 года, калі бясследна згінулі ў лагерных засценках А. Луцкевіч, на тым часе дырэктар Беларускага музея, У. Самойла, першы настаўнік Я. Купалы, В. Багдановіч, беларускі сенатар у сейме Польшчы, і многа іншых беларускіх рупліўцаў краю, уцалеўшых ад дэфензіўскага молаху. Гэта былі страшэнныя канцэнтраваныя ўдары спрадвечных крыўдзіцеляў Беларусі—Масквы і Варшавы. Трэці ўдар аказаўся больш здзеклівым і татальным: беларусы Віленшчыны засталіся без сваіх школ і грамадскага жыцця, што канчаткова зрабіла працэс іх «знікнення» незваротным.

Такім чынам, пасля вайны беларусы на Віленшчыне былі выключаны з нацыянальнага руху. І толькі з лета 1988 года, з пачаткам незалежніцкага руху ў самой Летуве ўзнікла таварыства беларускай культуры пры фондзе культуры ЛР, атрымаў статус юрыдычнай асобы клуб аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына» і пачалі выходзіць радыё-і тэлеперадачы.

У якасці журналісцкага каментару да аповяду Л. Луцкевіча і статыстыкі мне хацелася б спыніцца вось на чым. Вопыт вывучэння нацыянальных меншасцяў на тэрыторыі самой рэспублікі ў нашых навукоўцаў ёсць. Яшчэ ў 60-х гг. экспедыцыяй АН БССР была цудоўна вывучана літоўская супольнасць на тэрыторыі Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Менавіта вынікі той экспедыцыі скарыстала віленскае згуртаванне літоўцаў — выхадцаў з Астравеччыны «Гервяты», якое распрацавала праграму будаўніцтва ў в. Рымдзюны Гервяцкага сельсавета, дзе кампактна пражывае каля 1,5 тыс. летувісаў, літоўскага культурна-асветніцкага цэнтра з бібліятэкаю, нацыянальнай школай, Домам культуры і г. д. Больш таго, шаноўны старшыня выканкома Гродзенскага аблсавета Д. Арцыменя пад час барацьбы за дэпутацкі мандат увесну 1990 г. спавядаўся ў вялікай любові да літоўскага народа і падмацаваў яе абяцаннем фінансаваць з аблбюджэту праграму будаўніцтва! Цяпер прабіў час ягоных абяцанняў, і хутка мы пераканаемся ў іх сур'ёзнасці ці несур'ёзнасці. Але справа не ў гэтым. Чаму ў той жа час інтарэсы карэнных і прыезджых беларусаў у самой Літве не знаходзяцца, так бы мовіць, пад эгідай БССР? На маю думку, беларускі ўрад можа і павінны арганізаваць акадэмічную экспедыцыю на Віленшчыну дзеля грунтоўных этнаграфічных і дэмаграфічных даследаванняў, каб атрымаць дакладнае ўяўленне аб сучасным становішчы беларускага этнасу. І толькі затым можна весці гаворку аб дзейснай беларускай нацыянальнай палітыцы і адпаведных культурных праграмах у Літоўскай Рэспубліцы.

## Ці існуе «беларускае пытанне» на Віленшчыне?

З фармальнага пункту гледжання, здавалася б, беларусы ў Літве зусім нават і нядрэнна «ўладкаваліся»: маюць таварыства, клуб, выхад на ТБ, лаяльнае стаўленне з боку ўладаў. У параўнанні з караімамі, немцамі, украінцамі, яўрэямі, можа, і пэўная перавага ў рэалізаваных магчымасцях. Але...

Беларускі рух у Літве, рэпрэзентуецца не кім іншым, як аматарамі. Так, ва ўсіх іх няма складанасцяў з роднай мовaю, ведаюць яны дасканала і літоўскую, і рускую. Дзяцей навучылі беларускай мове дома. Здымаю капялюш перад Л. Луцкевічам, В. Стэхам, Х. Нюнькам, але чаму ж іх паспалітыя мерапрыемствы збіраюць зусім невялікую частку пражываючых у Вільні беларусаў?

Мне ўяўляецца, што гэта трывожны сімптом, і ён якраз знак таго, што беларускае пытанне на Віленшчыне не ёсць вырашанае. Тут не падыходзяць польскія крытэрыі (маецца на ўвазе пытанне аб польскай нацыянальнай аўтаноміі). Так, свядомая інтэлігенцыя — заўсёды сумленне нацыі, але гэта яшчэ не ўся нацыя.

Дык у чым жа разгадка пасіўнасці значнай часткі беларусаў Віленшчыны? Можа, памыляюся, але справа, хутчэй за ўсё, не ў вартасці «Сябрыны», якая і не можа прадстаўляць інтарэсы **ўсіх** беларусаў Літвы. Справа ў вартасці самога беларускага этнасу ў Літве. А ён там гэтаксама, як і ў Беларусі, знаходзіцца на шляху да распаду, і ў гэтым сэнсе «беларускае пытанне» на Віленшчыне існуе, хаця для яго абвастрэння паводле польскага сцэнарыя, сапраўды, грунту няма. Між іншым, палякі патрабуюць яшчэ ў дадатак да школ адкрыцця ў Вільні і польскага універсітэта імя Стэфана Баторыя. Мы ж з-за ненармальных эканамічных варункаў не можам разлічваць у бліжэйшы час на адкрыццё пастаянных беларускіх школ, хаця ў адной Вільні на сённяшні дзень пражывае каля 30,3 тыс. беларусаў (у Літве — 63 тыс.).

А тым часам навейшыя дэмаграфічныя звесткі сведчаць аб няспынным «знікненні» беларусаў на Віленшчыне. За першыя 9 месяцаў 1990 г. найбольшую частку грамадзян Літвы, якія пажадалі змяніць сваю нацыянальную прыналежнасць, «перапісаліся», склалі — хто б, вы думалі? — правільна, беларусы. З 304 «пярэваратняў» — 80 беларусаў, што самахоць зрабіліся палякамі...



## Подых літоўскай свабоды

Якой увогуле давялося ўбачыць Вільню? Не ўсе, мабыць, ведаюць, што літоўцы называюць свой рух «пяючай рэвалюцыяй». Яе вытокі не ў гвалце і крыві, а ў аб'ектыўным «паспалітым руху» да свабоды. Калі хочаце, маё асабістае разуменне «літоўскага прэцэдэнту» перадаецца перафразіраванай сентэнцыяй з Дастаеўскага: усё, што ёсць сёння ў Літве, не магло не быць.

Натуральна, шлях «пяючай рэвалюцыі» не з'яўляецца суцэльнай песняй. Сёння ў палітычным жыцці Літвы ваяруюць Ліга свабоды, «Саюз шаулісаў», «Яунейм Летува» («Маладая Літва») з аднаго боку, КПЛ (КПСС) з другога. Палярызаваліся грамадскія рухі, 8—9 снежня, у выхадныя, прыйшлося разрываць журналісцкі імпэт паміж мітынгам «У абарону дэмакратыі — за падпісанне Саюзнай дамовы», нечарговым, апошнім з'ездам былой незалежнай КПЛ, сходам асоб, пацярпеўшых ад нацыянальнага тэрору пасля вайны, і... сходам, як яны самі сябе называюць, «змагароў за свабоду Літвы, супраць бальшавізму». Такі вось плюралізм...

Але кінулася ў вочы, што мітынгі і сходы збіраюць намнога менш людзей, чым улетку, калі лік удзельнікаў вёўся на сотні тысяч. Мне падалося, за апошнія паўгода Літва істотна змяніла, як модна сёння гаварыць, сваю ментальнасць, свае ўстаноўкі.

Праявы такой змены мне ўбачыліся перш за ўсё на тварах людзей, на якіх чытаецца не мітынговая экзальтаванасць, а заклапочанасць хлебам надзённым і хлебам заўтрашнім. Літоўцы (жыхары рэспублікі) зразумелі, што ў варунках крызісу, які насоўваецца на ўсіх нас з няўхільнасцю ледніка, можна і патрэбна

(Працяг на стар. 12).

**Алесь ЧОБАТ**



Алесь Чобат нарадзіўся ў 1959 годзе ў Скідалі. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут, па прафесіі інжынер-канструктар.
Жыве і працуе ў Гародні.

●

Хай мой край перажыве мяне
і будзе вольны ад чужога грыма,
няўжо і вас віхура абміне,
асаднікі і парабкі рэжыма!!

Барацьбіты за веру і спакой —
і свой, і тых, каму высока падаць,
няўжо і вас прыгрэе пад рукой
кароткая бяспамятная памяць!

Няўжо і вам спакойна паміраць,
а не плаціць і не ўцякаць за мора,
маленькая, агідненькая шаць
часоў праклёнаў і сляпога гора!..

●

Раскіданыя часам і вайной,
замучаныя не сваёй віной,
рассыпаныя бурай па дарогах,
на тры крыжы расцягнутыя Богам,

ну што мы дзелім!! Праўду і хлусню!
Здабытак мёртвых! Попел пакаленняў!
Жывём — як не жывём... Няма карэнняў.
Няма слядоў ад болю і агню.

Адны адных чакаюць і стаяць,
цікавасць цізім розумам кіруе,
ніхто сябе дарэмна не марнуе —
ці час не той, ці сэрцаў не чуваць...

●

Мой даверлівы брат,
не пішы халую —
няўжо выпрасіць хочаш
Радзіму сваю!!

Мой даверлівы брат,
не піхайся дарма
да высокіх дзвярэй,
бо людзей там няма.

Мой даверлівы брат,
што трымае твой крок
жонка, дзеці, заробак —
ці арышту змрок!!

Мой даверлівы брат,
чалавек ты ці не,
калі наша зямля
ўжо ляжыць у труне!!

Мой даверлівы брат,
цмокі і павукі
перш за ўсё на даверлівых
ладзяць сукі...

●

Добры геній ад мараў не хоча
прачнуцца,
а зайздросніку злому не спіцца ізноў,
патрыёт не жадае на свет азірнуцца,
а прыхільны да згоды не мае сяброў.

Мае сэрца сляпое і розум і вочы,
а гарачыя душы аслеплі ад слёз,
працавіты і здольны паверыць не хоча,
а гультай чалавецтву наладжвае лёс.

Так і цягнемся мы ад пачатку да скону,
так і душым людзей ды ратуем пачвар,
так і кідае нас ад мальбы да праклёну,
так і робім з Айчыны здзічэлы абшар...

# ГАРЫЗОНТЫ СЯБРОЎСТВА

## Завочнае знаёмства з некаторымі славістамі свету

**Калісьці яшчэ Арыстоцель даводзіў, што мудрыя заканадаўцы турбуюцца аб сапраўдным сяброўстве больш, чым аб справядлівасці. Мішэль Мантэнь адзначаў, што няма нічога больш значнага, на што б штурхала нас прырода, чым імкненне да сяброўства, узаемапавагі і таварыскасці між людзьмі. У гэтым плане сяброўства навукоўцаў розных краін — самае бескарыслівае, а таму і плённае. Без абмену думкамі, ідэямі навука развівацца не можа. Гэта якраз тое, што збліжае народы і кантыненты.**

**Як ужо згадвалася ў адной з карэспандэнцый «ЛіМа», у маі мінулага года ў БДУ адбыўся міжнародны сімпозіум «Беларуская мова, літаратура і культура ў кантэксце моў, літаратур і культур народаў свету». У рабоце сімпозіума і рабочай групы па стварэнні летняй школы беларусістыкі прыняла ўдзел даволі прадстаўнічая група вучоных-славістаў з-за мяжы. Кафедра беларускай мовы і літаратуры звярнулася да іх са спецыяльна распрацаванай дзеля гэтага выпадку анкетай.**

***Прапануем адказы на асобныя пытанні анкеты. Удакладнім толькі, што адказы падаюцца ў наступным парадку: Джэймс Дзінглі (Англія), Пітэр Майо (Англія), Моніка Банькоўская (Швейцарыя), Герман Бідэр (Аўстрыя), Фердзінанд Нойрайтар (Аўстрыя).***

**Дзе і калі, пры якой нагодзе Вы ўпершыню пазнаёміліся з беларускім словам?**

**Д. Д.:** Працуючы ў бібліятэцы Брытанскага музея ў г. Лондане, у 1966 г., я пазнаёміўся з айцом А. Надсанам. З гэтага ўсё і пачалося.

**П. М.:** У сябе дома, у Шэфілдскім універсітэце, у сувязі з тым, што я чытаў курс лекцый па параўнальнай граматыцы славянскіх моў.

**М. Б.:** Упершыню пазнаёмілася з беларускай мовай, будучы студэнткай другога курса інстытута славістыкі Цюрыхскага універсітэта.

**Г. Б.:** Як навуковы супрацоўнік кафедры славістыкі Зальцбургскага універсітэта, я пачаў займацца старабеларускімі юрыдычнымі помнікамі з нагоды Міжнароднага кангрэсу славістаў у Варшаве ў 1973 г.

**Ф. Н.:** У 1946 годзе я выпадкова знайшоў у Вене невялікі нямецка-беларускі слоўнічак і такім чынам пазнаёміўся з невядомай мне мовай.

**Што Вы робіце зараз або мяркуеце зрабіць у будучым па пашырэнні беларускай мовы, літаратуры і культуры ў сваіх краінах?**

**Д. Д.:** Я зараз з'яўляюся старшынёй Англа-Беларускага Таварыства, дзе досыць часта чытаю лекцыі па беларускай тэматыцы. З 1992 г. будуць курсы беларускай мовы, літаратуры і гісторыі ў Лонданскім універсітэце.

**П. М.:** Я ўключыў беларускую мову ў курс параўнальнай граматыкі славянскіх моў. Акрамя гэтага, я лічу сябе адным з заснавальнікаў Міжнароднай летняй школы і мяркую надалей быць апосталам гэтай школы.

**М. Б.:** Прачытала курс лекцый «Уводзіны ў беларускую мову і літаратуру», апублікавала артыкулы пра беларускую літаратуру. Камплектую бібліятэку беларускімі кнігамі для навуковай работы.

**Г. Б.:** Усе мае мовазнаўчыя артыкулы, пачынаючы з семідзесятых гадоў, прысвечаны параўнальнаму вывучэнню старабеларускіх і старапольскіх пісьмовых помнікаў. Акрамя гэтага, я чытаю ўступныя лекцыі па гісторыі і сучаснай беларускай мове ў рамках вучэбнай праграмы па русістыцы і паланістыцы.

**Ф. Н.:** У шасцідзесятыя гады ў Зальцбургскім народным універсітэце я чытаў лекцыі па беларускай гісторыі, літаратуры і культуры. Акрамя гэтага, я пераклаў беларускі раман (1985 г.) і розныя артыкулы з беларускай мовы на нямецкую.

**Кім і дзе Вы працуеце, што друкавалі, друкуеце? У тым ліку па беларускай тэматыцы.**

**Д. Д.:** Зараз працую дацэнтам, выкладчыкам расейскай мовы ў Лонданскім універсітэце. Друкаваў артыкулы пра беларускую мову і літаратуру, пра беларускую прэсу ў Польшчы ў перыяд 1918—1930 гг.

**П. М.:** Працую дацэнтам кафедры рускай і славянскіх моў Шэфілдскага універсітэта. Напісаў невялікую граматыку беларускай мовы (на англійскай мове), хутка буду рыхтаваць другое, дапоўненае выданне.

**М. Б.:** Удзельнік даследчага праекта «Швейцарска-ўсходнееўрапейскія узаемасувязі». Напісала артыкулы: «Адкрыццё незнаёмай нам літаратуры», «Аб моўнай палітыцы ў Беларускай ССР», даклад: «Аб культурным становішчы беларусаў у Польшчы» і інш.

**Г. Б.:** Я працую дацэнтам мовазнаўчай славістыкі ў Зальцбургскім універсітэце (Аўстрыя). Друкаваў шмат прац. Пералік заняў бы многа месца. Паспрабую напісаць кніжку «Уводзіны ў славянскую філалогію» (для тых, хто гаворыць на нямецкай мове).

**Ф. Н.:** Рыхтую другое выданне напісанай мною гісторыі кашубскай літаратуры. Цяпер на пенсіі. Навуковец-аматар.

**Сфера Вашых навуковых інтарэсаў.**

**Д. Д.:** Беларуская гісторыя (асабліва Вялікае княства Літоўскае).

**П. М.:** Навуковыя інтарэсы — усе аспекты беларускай мовы, але асабліва марфалогія і лексікалогія.

**М. Б.:** Існуе цікавасць да беларускай гісторыі, літаратуры і культуры.

**Г. Б.:** Да маіх навуковых інтарэсаў адношу ўсе заходне- і ўсходнеславянскія мовы, а таксама нямецкую.

**Ф. Н.:** Кашубская, польская і беларуская літаратура, культура, мова і фальклор.

**Раскажыце пра той горад і тую ўстанову, дзе жывяце і працуеце.**

**Д. Д.:** Жыву ў Лондане, працую ў інстытуце славяназнаўства Лонданскага універсітэта.

**П. М.:** Я жыву ў Шэфілдзе. Горад прамысловы, на поўначы Англіі. Паўмільёна жыхароў. Горад вельмі зялёны. Шэфілд лічыцца «найбольшай вёскай у Англіі».

**М. Б.:** Цюрых — гэта самы вялікі горад Швейцарыі. Працую ў галоўнай бібліятэцы горада і ў інстытуце славістыкі.

**Г. Б.:** Зальцбург — вядомы турыстычны і музычны цэнтр заходняй Аўстрыі. Зальцбургскі універсітэт параўнальна невялікі, заснаваны ў 1622 г. Ён мае 4 факультэты (гуманітарных навук, прыродазнаўчых навук, права, тэалогіі).

**Ф. Н.:** Я жыву за 5 км ад Зальцбурга ў невялікай вёсцы. Зальцбург з'яўляецца адным з культурных цэнтраў заходняй Аўстрыі. Ужо 20 гадоў я узначальваю Аўстрыйска-Польскае таварыства.

**Што Вы любіце найбольш з набыткаў нашай матэрыяльнай і духоўнай культуры?**

**Д. Д.:** Асабліва люблю такіх пісьменнікаў, як Быкаў, Гарун, Гарэцкі.

**П. М.:** Стравы люблю, падабаецца ваша гасціннасць, сяброўства, цаню найперш шчырасць душы. Мне важна, калі сустракаецца добры чалавек.

**М. Б.:** Найбольшую цікавасць праяўляю да беларускай літаратуры і фальклору, гісторыі мовы.

**Г. Б.:** Кнігі, грамплаcцінкі, льняныя і скураныя вырабы; оперу, канцэрты, помнікі мастацтва.

**Ф. Н.:** Сучасную літаратуру і фальклор. Люблю беларускі побыт, старыя рэчы з жыцця беларусаў.

**Раскажыце крыху пра сябе. Ці звязана захапленне беларускай тэматыкай з Вашай радаслоўнай, сваякамі ці даўнімі сувязямі з беларускай зямлёй?**

**Д. Д.:** Не.

**П. М.:** Не.

**М. Б.:** Не звязана.

**Г. Б.:** Па паходжанні я аўстрыец, у мяне няма ніякіх славянскіх родзічаў.

**Ф. Н.:** Мае продкі па мацярынскай лініі паходзілі з г. Лукава, які знаходзіўся на захад ад Брэста.

**Якая ў Вас сям'я?**

**Д. Д.:** Маю жонку. Дзяцей няма.

**П. М.:** Жонка, дачка 18 гадоў, а таксама з намі жыве сабака Люся.

**М. Б.:** Мая сям'я складаецца з двух чалавек — мужа і мяне.

**Г. Б.:** Жонка, дачка, сын, падчарыца, цешча.

**Ф. Н.:** Жонка і два сыны.

**Ці часта Вы гаворыце па-беларуску? Дзе вывучалі беларускую мову? Што дапамагло Вам у гэтым?**

**Д. Д.:** Досыць часта з беларусамі ў Лондане, дзе я і вывучыў беларускую мову. Вельмі хацелася б гаварыць на чыстай мове.

**П. М.:** Да гэтага тыдня вельмі рэдка. Вывучаў сам, без дапамогі. Мне хацелася б поўнасцю авалодаць беларускай мовай. Часцей хачу гаварыць на ёй, але дома гэта рэдка ўдаецца.

**М. Б.:** Вельмі рэдка. Самастойна. Жаданне ведаць мову.

**Г. Б.:** У Зальцбургу я ніколі не гавару па-беларуску. Беларускую мову вывучаў сам, на аснове мовазнаўчай літаратуры.

**Ф. Н.:** На жаль, я рэдка гавару па-беларуску. Вучуся беларускай мове па падручніках.

**Як адносяцца калегі, знаёмыя да Вашага захаплення беларускай тэматыкай?**

**Д. Д.:** Лічаць мяне захопленым дзіваком.

**П. М.:** Станоўча. Мяне лічаць першым беларусазнаўцам у Англіі, а мо і ў свеце (безумоўна, гэта жарт).

**М. Б.:** Здзіўляюцца. Але з цікавасцю.

**Г. Б.:** Мае калегі па кафедры адносяцца станоўча да маіх беларускіх інтарэсаў. Хаця самі яны не займаюцца беларускай тэматыкай.

**Ф. Н.:** Знаёмыя адносяцца з цікавасцю да маіх беларускіх заняткаў.

**Якія беларускія кнігі Вы хацелі б мець у сваёй бібліятэцы сёння?**

**Д. Д.:** Пакуль што маю ўсе патрэбныя кнігі.

**П. М.:** Колькі можна. Я ўсё купляю, што магу знайсці: і лінгвістычную, і краязнаўчую літаратуру і інш.

**М. Б.:** Многія. Асабліва па беларускай літаратуры, мове, гісторыі і фальклору.

**Г. Б.:** Беларускія граматыкі, падручнікі і слоўнікі, а таксама і інш. кнігі па беларускай філалогіі.

**Ф. Н.:** Сучасная мастацкая беларуская проза і паэзія.

**За простымі, на першы погляд, і сціслымі адказамі, як мы маглі пераканацца, стаіць багатая і змястоўная праца людзей, якія шчыра і захоплена памкнуліся да беларускага слова і да Беларусі. Такога захаплення нельга не вітаць.**

**Усе яны, навукоўцы, *спецыялісты-славеснікі, напаўжартам,* напаўсур'ёзна называлі сябе апосталамі беларускай ідэі, беларускага слова.**

**«Апостал», — па слоўніку У. Даля, у перакладзе з грэчаскай мовы, — вучань паслядоўнік, прыхільнік.**

**Калі бліжэй пазнаёмішся з тымі, хто так сур'ёзна і плённа працуе ў галіне беларусазнаўства за мяжой, дык міжволі ловіш сябе на думцы, якой жа вялікай і змястоўнай, па-сапраўднаму багатай з'яўляецца наша нацыянальная гістарычна-культурная спадчына, калі яна мае такіх слынных апосталаў, шчырых сяброў беларускасці. І яшчэ. Пры бліжэйшым знаёмстве з калегамі-славістамі заходняга свету часамі становіцца прыкра і горка ад праяўлення ледзь не на кожным кроку нашай неадчувальнасці да праяў нацыянальнага гонару, ад нашага ўсё яшчэ жывучага бюракратычнай закваскі нацыянальнага нігілізму. Можа, хоць чаму мы можам павучыцца ў нашых сяброў на Захадзе? Можа, прысароміца нехта несвядомы ад таго, што так грэбліва доўгі час ставіўся да сваёй духоўнай спадчыны?**

**Развіваючы думкі нашых новых адрасатаў, «знаёмых незнаёмцаў», можна было б сказаць і пра тое, як неабходны ім пастаянныя сувязі з Беларуссю, прыезд і вучоба тут, сумесныя навуковыя распрацоўкі, праца ў нашых бібліятэках. Як мы зможам і самі ўзбагаціцца, і дапамагчы стаць багацейшымі іншым, калі будуць у нас развівацца і надалей узаемныя навуковыя, дзелавыя і асабістыя кантакты.**

**Уладзімір НАВУМОВІЧ.**

Мар'ян ДУКСА



## Беларусам

Ах, мой народзе, ні адно ярмо
насіў, скідаў, зноў надзяваў, нябога,
але за іх страшнейшае намнога
чарнобыльскае чорнае кляймо.
Яно ўвабрала сто́енае зло,
яно візіткай стала беларуса
і сведчыць, што такога землятруса
нідзе яшчэ дагэтуль не было.
Народ азёр, каштанаў і бяроз
якой сляпой дасужыўся абразы —
заложнікам стаць д'ябальскай праказы.
І роспачна, і сорамна да слёз.
Хто ведае, праз колькі яшчэ год
журбу і горыч цёплы вецер зліжа.
І будзе лёс наш векавечным крыжам
стаяць над намі, мілы мой народ.
Прывыклі мо да долі ўжо такой —
не можам штось разжыцца на зямельцы.
Мы бежанцы святыя, пагарэльцы,
што ў свет ідуць з працягнутай рукой.
Мы будзем помніць, хто нам дапамог,
мы не забудзем, хто нам зла падкінуў.
Паплачам крыху. І сваю хаціну
мы пакладзём ізноў на свежы мох.
Як-небудзь адбудуемся ізноў.
Мы станем, мы прыўзнімемся на ногі.
Адкінем сон — і выпаўзем з бярлогі,
сваю ціхманасць скінуўшы далоў.

## З нагоды адкрыцця музея Ф. Багушэвіча

Як позна да цябе прыйшлі.
Цябе любілі на паперы.
А расчыніць шырока дзверы —
збаяліся, занемаглі!

Чаму праспалі лепшы час?
Усё яшчэ даймалі страхі,
што возьмуць некага пад пахі,
каб не схацеў наступны раз!

А можа, шмат сляпых, глухіх
ёсць сярод нас — мо ўсе навокал!
Завучвалі чужых прарокаў,
і білі палкамі — сваіх.

Глядзелі ціпла з-пад вярбы.
І за падкінутую лусту
служылі мы свайму халуйству,
са стажам радасным рабы.
Пакорненька маўчалі мы.
Нас мучылі не толькі немцы,
але і нашы іншаземцы
за нораў ціхі і нямы.

Наш дух усё-ткі не аслаб,
і мы не з кволенькай кагорты.
Здымаем путы з ног нацёртых
і выкідаем з рота кляп.

І да цябе ад той зямлі,
дзе слова роднае мацнее,
наш сейбіт ранні, наш Мацею,
хоць позна, але мы прыйшлі!

Мы далучылі твой куток
да сэрца шчырага навекі.
Мы ўсе — твае галлё і рэкі.
Мы дзякуем за наш выток!

●

Нашто здзіўляцца, што благая ежа
і што няма ні вопраткі, ні круп.
І валачыць нам прыклады з замежжа,
турбуючы наш пагранічны слуп.
Затое як мы пагулялі, хлопцы, —
як хочаш час той слынны назаві.

Масей СЯДНЁЎ

# АДКРЫЦЦЁ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



### З «Масеевай кнігі»

**Лімаўскаму чытачу ўжо вядома па неаднаразовых публікацыях імя Масея Сяднёва — пісьменніка-зарубежніка, які жыве ў ЗША. Пісалі мы і аб тым, што ў мінулым годзе ён наведаў Беларусь, сваю родную вёску ў Касцюковіцкім раёне, сустракаўся з творчай інтэлігенцыяй беларускай сталіцы. Быў ён і госцем нашага штотыднёвіка.**

**І вось яго новы ліст з-за акіяна, у якім ён піша: «Важуся паслаць Вам некалькі сваіх публіцыстычных, ці што, рэчаў. Можа, Вы змаглі б знайсці сярод іх нешта вартае ўвагі».**

**Прыемна адзначыць, што «вартае ўвагі» знайшлося...**

НАДЗВЫЧАЙНАЯ істота — чалавек: ягоная здольнасць ужывацца. Пажыве дзе, і глядзі — пушчае сваё карэнне, прырастае, звыкаецца з дадзеным асяроддзем. І няма ніякага дзіва — гэткая ягоная здольнасць дапамагае яму **выстаяць**, дзе б ён ні апынуўся. Такая чалавечая якасць асабліва ў добрай нагодзе эмігранту. Страціўшы сваю Бацькаўшчыну, ён змушаны шукаць сабе прыстанішча ў нейкай іншай краіне. Пашанцавала яму знайсці яе, ён не траціць часу дапасавацца да яе, і не толькі дапасавацца, а й знайсці ў ёй — наколькі гэта магчыма — сабе другую Бацькаўшчыну. І глядзі — чалавек ужо ўжыўся і на новым мейсцы, пусціў карэнне: нарадзіў дзяцей, прырос пупавінай, а там — набыў і грамадзянства. Вы — болей як бы не эмігрант. Вы ўжо ўжыліся, як кажуць вучоныя, у інфраструктуру вашай новай Бацькаўшчыны, авалодалі мовай, пазнаёміліся з гісторыяй, культурай і звычаямі вашай прыдбанай краіны, вы спасцігліі псіхалогію невядомага дасюль вам народа, і гэты народ стаўся ўжо для вас блізкім, сваім, вы палюбілі яго, у вас заіснавала з ім гармонія і вы ўжо пачынаеце пакрысе забываць краіну вашага паходжання. Яшчэ мінаюць гады, і затушоўваецца твая старая Бацькаўшчына, ад яе ўжо бадай нічога не засталося ў тваіх пачуццях, ты ўжо выкрэсліў яе з сваёй памяці. Ты пражыў ужо паўстагоддзя на новай Бацькаўшчыне і старая не сніцца табе нават у снах. Ты зачыніў яе.

Але неспадзявана табе выдарылася нагода наведаць сваю старую, забытую ўжо Бацькаўшчыну. Ты ехаў да яе з няпэўным адчуваннем: што цябе сустрэне там, што ты ўбачыш там? Ты насцярожаны. Ты як бы сам не свой. Ты пакінуў за сваімі плячыма прывычную, знаёмую ўжо табе новую Бацькаўшчыну, у якой засталіся твае дзеці, унукі, праўнукі і на могільніках якой спачываюць ужо твае крэўныя, а тут ты набліжаешся да чагосьці ўжо табе незнаёмага і няпэўнага. Ты разгублены. Але ты ўжо прызямліўся на некалі пакінутай табой зямлі. Не паспеў ты ступіць з самалёта на сходкі, як цябе агарнула лагода нейкага нязнанага дасюль паветра. Ты ўдыхнуў яго, і ў цябе закружылася галава, ты на вокамгненне як бы перастаў існаваць. З неасяжных прастораў тхнула п'янкім водарам скошаная трава. Знаёмая табе з маленства духмянасць сена скалыхнула тваю душу далёкім успамінам. Яна азвалася нез'яснёнай радасцю і салодка-шчымлівым болем. У бліжняй вёсцы заспяваў певень, нібы прывітаў цябе. Ты пачуў знаёмую табе гамонку, і ты нібы прачнуўся з бясконца доўгага сну. Гэтае «прачнуўся» было раптоўным **адкрыццём** заглохлай было ў табе **першароднай** Бацькаўшчыны. Але чалавек — дзіўная істота. Тут жа, трохі ацверазелы, ты пачаў усведамляць, што ў цябе ж ёсць там, за акіянам, другая Бацькаўшчына, дзе ты пакінуў сваіх крэўных, і ты неспадзявана для сябе — **распалавініўся**, раздваіўся на дзве непрымірныя палавіны.

О, які гэта боль! Якое засмучэнне агортвае цябе! Ты тут і там. А гэта, можа быць,— нідзе. Распалавініцца, значыць — згубіць сваю цэласць.

## Мова

Пад час свайго выступлення на сходзе літаратурнай суполкі «Крыніца» пры газеце «Чырвоная змена» нехта запытаўся ў мяне, і як і чаму у далечыні ад радзімы я збярог родную мову. Я тады не даў колькі-небудзь выразнага адказу на гэтае пытанне. Вяртаючыся думкай да пастаўленага мне тады пытання, я прыйшоў да досыць на першы пагляд парадаксальнай высновы, а менавіта: беларускую мову (наколькі я ведаю яе) я захаваў, збярог дзякуючы таму сумнаму факту, што амаль паўстагоддзя я не жыў на радзіме і не быў, такім чынам, падуладны працэсу асіміляцыі, працэсу дэнацыяналізацыі, які адбываўся і адбываецца цяпер у Беларусі, і які ахапіў усе слаі насельніцтва, у тым ліку — і, можа, найбольш — інтэлігенцыю. Я, так бы сказаць, вывез з сабою беларускую мову ў ейнай «чысціні», яшчэ не сапсаваную, такой, якой вывучыў яе ў школе, успрыняў ад нашых класікаў, пазнаў інтуіцыйна. З такой законсерваванай, зберажонай мовай я й жыў увесь час, ёю карыстаўся, на ёй пісаў, яна была ў мяне адзіным сродкам выяўлення сябе. У мяне не было спакусы паддавацца ўплыву **блізкай** мовы, спакусы, якая заўсёды цяжыць над беларускім паэтам і пісьменнікам. Жывучы вонках Бацькаўшчыны, быў я пазбаўлены моўнай стыхіі, што, канечне ж, не ўзбагачала мае мовы, але затое быў я свабодны ад пабочнага ўплыву і ўчэпіста трымаўся за сваю, **вывезеную мову**, як за тое адзінае, што засталося ў мяне ад духоўнай спадчыны майго народа.

## Грэшныя думкі на тэму беларускай мовы

Знік носьбіт беларускай мовы — сялянства, а з ім адыходзіць у нябыт і беларускае слова. Беларускае слова жыло, калі сялянства было непісьменным, яно гаварыла на сваёй **прароднай** мове. Як толькі яно навучылася грамаце, яно пачало здраджваць свайму слову на карысць мовы таго ці іншага суседа. (Такая ўжо нашая натура). Дык як я сказаў, таго пакалення сялянства, якое гаварыла па-беларуску, ужо няма — яно зыйшло. Сённяшняе пакаленне — гэта ўжо нейкае невыразнае пакаленне: ні сяляне, ні інтэлігенты. Гэтае невыразнае пакаленне ў масе сваёй ужо не гаворыць па-беларуску. Сказаць бы, не толькі не гаворыць, а й не ведае свае мовы. У нас яшчэ не склалася нацыянальная інтэлігенцыя ў поўным сэнсе гэтага слова. Інтэлігенцыя, якая гаварыла б па-беларуску, дбала б пра сваё нацыянальнае, задавала б тон. Я не гавару тут пра паасобных, нешматлікіх дзеячаў беларускай культуры, яны ёсць, але яны пакуль што ў загоне і не могуць супрацьстаяць антыбеларускім сілам, як вонкавым, гэтак і ў сваім жа, беларускім асяроддзі.

Нехта можа нават падумаць, што беларус не бачыць патрэбы ў сваёй мове, не ўсведамляе ейнае неабходнасці. Ну, што ж, ёсць людзі і такіх пагляддаў, але гэта ўжо або наўмысная прапаганда, **палітыка**, якая насаджаецца вонкавымі сіламі, або поўнае неразуменне свайго нацыянальнага прызначэння самім жа беларусам. А беларусу ж наканавана быць беларусам, нават каб ён не хацеў ім быць, бо ж — добра ці дрэнна — ён нарадзіўся гэткім, з'явіўся на свет божы, і куды б ён ні пайшоў, да каго б ні прыстаў, да якой мовы ці культуры ні далучыўся б, ён усё роўна па прыродзе сваёй будзе заставацца — можа, нават не ўсведамляючы таго—беларусам, а галоўнае — яго гэткім будуць лічыць, не зважаючы на ўсе высілкі **прыстасавацца**. Выхаду тут іншага няма, як толькі заставацца тым, кім ты нарадзіўся.

Праўда, беларус любіць, каб яго папхнулі, загадалі, каб нехта беларускую мову ўвёў ва ўжытак **дэкрэтыўна**, як гэта было ў дваццатыя гады, у часе гэтак званай **беларусізацыі**. (Гучыць парадаксальна — беларуса трэба беларусізаваць). Ага, пачалася палітыка беларусізацыі — я загаварыў па-беларуску, пачалася палітыка русіфікацыі — я не пратэставаў, а пачаў дапасоўвацца да гэтай палітыкі, а то й сам уключыўся ў працэс гэтай русіфікацыі. З'яву, якая сёння запанавала ў пытанні беларускай мовы, нельга вытлумачыць **толькі** палітыкай русіфікацыі, як бы нам гэтага ні хацелася. Палітыка русіфікацыі, безумоўна, згубная, яна зрабіла сваё, адмаўляць гэтага ніяк нельга, але й не прызнаць факту нашай слабасці таксама нельга: мы за сваё не змагаемся, голасу свайго не падаём, баімся — ціхенька, як бы і не існуем. Але ж, халерачка, існуем! Мы ж — хоць бы тут здохні — беларусы, у нас жа вунь і рэспубліка называецца беларускай. А што мы робім для гэтай беларускасці? Няшмат. Не пабаюся сказаць — гэта ўжо сапраўды грэшныя думкі —каб не тая слаўтая, раней сталінская, а цяпер ленінская нацыянальная палітыка, якой урад (хоць фармальна) мусіць прытрымлівацца, магчыма, не было б, па нашай нерупліваўсці, нават і тых беларускіх выданняў, якія мы маем на сёння. Прыкладам, пачалі б іх адно па адным зачыняць, я не ведаю, закрычалі б мы, выказалі б сваю нацыянальную волю ці не. Возьмем такі факт. Тыражы беларускіх выданняў абразліва нізкія. У гэтым вінаватыя не толькі там нейкі «Саюздрук» ці яшчэ хто, а й мы самі. Чаму б нам не падпісацца масава, прыкладам, на «Маладосць», «Полымя», «Беларусь», «ЛіМ», «Крыніцу», ці на тую ж «Звязду» — глядзі, падскочылі б тыражы гэтых выданняў. І гэта было б сведчаннем **нашага** (не чыйго, а **нашага**) клопату пра беларускую мову, культуру. Адно ўжо гэта падняло б наш аўтарытэт, як нацыі. Мы ж — што ні гавары — нацыя, старажытная нацыя. Што, мы чакаем, пакуль ЦК падніме нам тыражы, уварзде ў школу беларускую мову?

Мы прывыклі, паўтару, каб намі кіравалі, нам загадвалі, сваёй волі не маем мы, ці што? У час перабудовы і галоснасці можна было б і смялей выказацца ўжо. Дык не — маўчым. Адных толькі гілевічаў і «тутэйшых» замала — трэба паказаць свой характар усёй нацыі, узняцца з патрабаваннем сваёй мовы, сваёй школы, сваёй гісторыі. Пытанне беларускай мовы стаіць проста: або мы будзем карыстацца ёю — і яна выжыве, або мы занядбаем яе — і яна зьнікне. Мова, на якой не гавораць,—не мова. Народ, які зракаецца свае мовы,—не народ. Народ, свядомы, не цураецца свае мовы і пры самых цяжкіх умовах.

## Ларыса Геніюш

У Бельску-Падляскім мяне пусцілі з таварнага ў горад — засталіся там бацька і сястра, і канвой добра ведаў, што нідзе не дзенуся, вярнуся назад. У горадзе тым я хацеў знайсці Беларускі камітэт у надзеі, што ён можа дапамагчы мне ў маёй бядзе і я буду вырataваны ад лагеру. У Камітэце быў я ветліва прыняты нейкім Жамойдам. Я расказаў яму пра

мы, рэквізітары і царазабоицы,
былыя дэгустатары крыві.
Усё-ткі мы выдатныя спрытнягі
мабілізоўваць косы і нажы.
Расшпіленыя рыцары адвагі —
каб бразнуць вобзем божыя крыжы.
Ад праведнасці ўсёй, як ад абузы,
адмовіўся наш хрысціянскі люд.
З якім імпэтам расчынялі шлюзы,
каб хлынуў шумна патаемны бруд.
Як нюхалі, каб знюхаць дысідэнтаў.
І як сялян малолі мы на пыл.
Вырошчвалі не хлеб — апладысменты
высокія — ад Брэста да Курыл.
Вы думаеце, мы не па закону
панура селі на паёк сухі!
Плаціць жа нам, а не якому Джону,
за ўсе свае вялікія грахі.

●

— Я волат,
які задранцвеў у прымусе,
таму што вышэйшаму чыну служу.
Свабоду мне дайце!
Я так разгарнуся,
што сёлетні хлеб павязём за мяжу...
І хор той гудзе
ўсіх старшынь-«вальналюбцаў»
ад крыўды,
што смокча раённы павук.
— Свабоды! —
тутэйшы грыміць Старадубцаў. —
Наручнікі скіньце з натруджаных рук...
— Высокія суддзі зычлівыя,
дзе ж вы!
Няўжо вы не чуеце,
як я крычу:
аслабаніце
з-пад панскай падэшвы
мяне, хлебароба — я волі хачу!
Каб сеяць, касіць мне
па ўласнай ахвоце,
каб сэрца загадвала — толькі не штаб...
Ах, вылезу ўсё-ткі
з ганебнай аброці,
таму што не конь я,
не лёкай, не раб!

●

За час жывадзёрны,
сцугляна-застойны,
за надта расцягнуты тэрмін былы
хадзіць развучыліся мы самастойна —
каб без дапамогі чужой кавялы.
Мы чуем страшэнную вяласць у целе.
Не вельмі ўжо сіл, каб адправіцца
ў шлях.
Дарэшты ўсе мускулы нашы здранцвелі,
пудовыя гіры вісяць на нагах.
Нам ясніцца-свеціцца нешта здалёку,
нам хочацца есці смачнейшы булён.
Ды й сёння на месцы здаровага клёку
ляжыць запаветаў пажоўклы рулон.
Прад светам мы выглядзець хочам
прыстойна
У вопратцы чыннай, а не забіяк.
А вось самастойна,
зусім самастойна,
як іншыя людзі, не ступім ніяк.
Усе баязліўцы, прафаны, няўмекі,
я вам абяцаю спагаду й хвалу.
Ідзіце, не стойце.
Вы ўжо не калекі.
Адкіньце трухлявую ўбок кавялу!

●

Шлагбаўмам разлёгся паваленны слуп,
скрывіліся скрозь тратуарныя пліты.
Кавалкі асфальту з абрэзкамі труб.
І кожная пядзя зямлі перарыта.
І цягнецца некуды роў з-за вугла,
таполя хістаецца ледзьве жывая.
Як быццам нядаўна бамбёжка была,
не вулка — пазіцыя перадавая.
Не, гэта работ незакончаны фронт
у восень пад націскам дзён адкаціўся.
Адзін экскаватар — няўрымслівы крот —
пасноўдаўся, потым суціх —
як скруціўся...
Дзяўчаткі, кабеты, няпэўны ваш лёс,
не надта фарсіце — глядзіце пад ногі.
Ах, бедныя —
вечна бягуць праз хаос
і вуліцы нашы, і нашы дарогі.
Набраць не ўдаецца ім поўны разгон,
хоць вабяць іх, вабяць кірункі
скразныя.
Які ўжо тут, смешна сказаць, марафон,
калі скрозь работы ідуць земляныя.
Мы грунт векавечны бяром на таран,
апошнія трацячы сілы дарэшты.
Каторы ўжо рыем ізноў катлаван!
І марым, і марым, што вырасце нешта...

---

сябе, пра сваё палажэнне, не ўтаіў таксама, што я беларускі паэт, нядаўні вязень сталінскіх лагераў. Усё гэта, аднак, не мела поспеху — Камітэт нічым не змог мне дапамагчы. На развітанне Жамойда падараваў мне кніжку вершаў «Ад родных ніў» Ларысы Геніюш, да таго невядомай мне паэтэсы. З гэтай кнігай я й вярнуўся на таварную станцыю, на «свой» транспарт, да бацькі і сястры.

Ужо толькі ў Беластоку ўдалося мне, разам з бацькам і сястрою, уцячы з транспарту. Рэдактар газеты «Новая дарога», паэт Хведар Ілляшэвіч, прыняў мяне карэктарам у сваёй газеце.

У вершах Ларысы Геніюш я не знайшоў нічога асаблівага, яны здаліся мне правінцыяльнымі—недасканалымі як паводле паэтычнага майстэрства, гэтак і сваімі адхіленнямі ад нормаў літаратурнай мовы. Што ж тычыцца матываў патрыятычнага зместу, што дамінавалі ў кнізе, дык яны таксама не надта ўразілі мяне. Я ацэньваў кнігу перш за ўсё з эстэтычнага гледзішча, з гледзішча самой эстэтыкі, якой, як мне здавалася, якраз і не хапала вершам Ларысы Геніюш.

І гэтак яна знікла з поля майго зроку. Яна не існавала для мяне, як паэт, аж пакуль я не пазнаёміўся з ёю асабіста. Знаёмства адбылося ў 1944 годзе ў Менску на гэтак званым Другім усебеларускім кангрэсе. На гэты Кангрэс я прыехаў з Беластоку разам з групай «дэлегатаў» ад Беласточчыны. Я хацеў паглядзець, што гэта за Кангрэс, пазнаёміцца з людзьмі, а найболей — пабываць у Менску, у сталіцы, якой я даўно не бачыў, і дзе калісьці я вучыўся, летуцеў, снаваў планы на будучае і дзе — гэтак неспадзявана — напаткала мяне бяда.

З Геніюш мяне пазнаёміў Хведар Ілляшэвіч, мой апякун і дарадца. Ды сустрэча была кароткай — пад Менскам ужо стаяла Чырвоная Армія, і горад жыў вельмі напружаным жыццём. Трэба было спяшацца пакідаць яго. Спяшалася і Ларыса Геніюш. Не ведаю як, да нас прыстаў паэт Таўлай і паспеў зрабіць калектыўны здымак. На ім фігуравалі Арсеннева, Ілляшэвіч, Пятрок Шыракоў (Тодар Лебяда), я сам і некалькі іншых асобаў, якіх цяпер не магу прыгадаць. Ларыса Геніюш чамусьці не трапіла на гэта фота. Дый не да яго было. У Ларысы Геніюш было столькі рэчаў, што яна не ведала, што з імі рабіць. Яна папрасіла мяне, ужо знаёмага ёй чалавека, да таго ж без ніякіх рэчаў, узяць у яе цяжкі кажух Кушаля, мужа Арсеннвай. Арсеннева, Геніюш і іншыя паважаныя асобы мелі гарантаваныя ці што мейсцы на цягніку, а мне з кажухом давялося браць той цягнік з боем. Складаўся транспарт з нармальных вагонаў і цяплушак з адчыненымі шырока дзвярыма. Чутка пабегла, што гэта апошні цягнік, і ў паніцы кожны, як толькі мог, лез у гэты цягнік. Куды б я ні ткнуўся, у якія б дзверы ні лез, мяне штурхалі ў грудзі назад тыя, хто ўжо дапяў. Праз буфер я пераскочыў на другую, тылавую старану цягніка і, учапіўшыся, стоячы на падножцы, за кастылі, ехаў ужо. Цягнік набіраў хуткасць, і я баяўся, што станцыйныя слупы, міма якіх цягнік імчаўся, расквасяць мне галаву. Я, канешне, кінуў той кажух. Цягнік на нейкім пераездзе затрымаўся, і я ўсё-ткі ўлез у вагон-цяплушку. Адчуваў сваю віну перад Ларысай Геніюш за страчаны кажух. Думаў, будзе крыўдзіцца на мяне, але нечакана з Прагі яна прыслала мне, яшчэ ў Беласток, віншавальную картку, на якой прыгожая дзяўчынка дае «буські» не менш прыгожаму хлапчуку.

У 1945 годзе мне пашанцавала з Берліна дабрацца да Прагі: хацеў быць хоць у якой, але ў славянскай краіне. Не хацелася прабірацца далей на Захад. Думаў, ад Прагі бліжэй дахаты. Я ўсё не траціў надзеі, што маці жыве і гатовы быў вярнуцца. Ларыса Геніюш прывеціла мяне добра, старалася дапамагчы, чым толькі магла. Пазнаёміла мяне з некаторымі беларусамі, што былі тады ў Празе, у тым ліку з Забэйдам-Суміцкім, Янкам Станкевічам, Уладзімірам Сядурам (У. Глыбінным), Жарскім, Русаком і іншымі. Пазнаёміла таксама з адной мілай жанчынай-чэшкай, што працавала ў нейкай дабрачыннай арганізацыі. Гэта была на імя Ружана. Калі Ларыса Геніюш сказала, што я бедны і беспрытульны беларускі паэт, Ружана, замужняя жанчына, была настолькі міласэрнай, што дала мне нават сваю ашчадную кніжку, з якой, дзеля кароткага майго побыту ў Празе, я гэтак і не мог скарыстаць. І па сённяшні дзень, пазнаўшы, наколькі жорсткі свет, дзіўлюся, што ўсё ж ёсць у гэтым свеце такія боскія людзі, як тая чэшка Ружана. Але вярнуся да Ларысы Геніюш. У Ларысы Геніюш жыў я, можа, які з тыдзень, пакуль яна не знайшла для мяне пакойчык, памятаю — на вуліцы Бубеннай. Едучы, бывала, стуль да Ларысы Геніюш трамваем, мне падабалася, як кандуктар-кантралёр звяртаўся да пасажыраў са сваім нямецка-чэшскім: «фаркартэн-яздэнкі просімо». У Ларысы Геніюш была ў Празе нядрэнная кватэра. Яна жыла тады толькі з сынам, непаседлівым, не надта паслухмяным, зацятым дзевяцігадовым Юркам. Ён знікаў некуды на цэлы дзень і маці турбавалася, шукала і не знаходзіла, ён прыходзіў толькі надвечар. Маці пыталася, дзе ён быў. Ён коратка адказваў: «Ездзіў». Юрка любіў ездзіць трамваем, ведаў добра горад, ніколі не блудзіў. Мужа ўдому не было. Я так і не ведаў, дзе ён быў. Разглядаў у ягоным лекарскім кабінеце невялічкую бібліятэчку — у ёй я знаходзіў заходнебеларускія і менскія выданні: часопісы, газеты, кніжкі. Быў Геніюш, наколькі я мог спасцігнуць, чалавекам левага кірунку.

Ларыса Геніюш умела і любіла гатаваць. Стоячы ля пліты, часам сцёбала мяне сваім фартухом, калі я, згаладалы, хапаў што-небудзь з патэльні. Аднойчы, стоячы з ёю ля пліты, я пачаў пісаць алавіком па кафлі — складаў эпіграму на яе. Яна, каб спыніць маю пэцканіну, сур'ёна загадала мне: «Ідзі ў уборную і там пэцкай». Я пакрыўдзіўся і цэлы дзень не гаварыў з ёю.

За сталом у яе былі часта госці, абавязкова тады — Забэйда-Суміцкі. Забэйда-Суміцкі быў ужо й тады ў гадох. Юрка, седзячы за сталом насупраць яго, чмыхаў, заціскаў нос, дражніў Забэйду-Суміцкага: «Казёл! Казёл!» У прысутнасці Забэйды-Суміцкага ніхто не важыўся курыць — ведалі, што спявак не церпіць табачнага дыму. Шанаваў горла.

Калі я, бывала, выходзіў з Ларысай Геніюш на вуліцу пагуляць, апынуўшыся на тратуары, яна заўсёды гаварыла: «Масейка, давай пабяжым!» І бегла. Але, прабегшы колькі метраў, спынялася, хапалася за сэрца: «Не магу — калоціцца». Але бяжыць зноў. Была яна тады досыць поўнай, задыхалася, нібы не хапала паветра. Прыгадваючы гэта, дзіўлюся цяпер, як яна магла вытрымаць сваю катаргу.

Заставацца ў Празе яна быццам не хацела, збіралася **адступаць** далей на Захад. Быў вызначаны ўжо дзень і час ад'езду. Гатовыя да ад'езду, дамовіліся сустрэцца назаўтра раніцой на вакзале, а калі мы прыйшлі ў вызначаны час на вакзал, яе не пабачылі. Для мяне яна знікла назаўсёды. Але ейны вобраз бачу выразна: наважная, гатовая на ўсё, імпульсіўная, прынцыповая і адначасна — спагадная, міласэрная. Ларыса Геніюш — жанчына тыпу рэвалюцыянеркі Цёткі.

Як паэтэсу вялікага калібру, таленавітую, арыгінальную я ацаніў толькі цяпер, угледзеў ейную **значнасць**, прачытаўшы ейны зборнік «Невадам з Нёмну» і асабліва—некалькі ейных цыклаў выгнанніцкіх вершаў, што пабачылі свет у газеце «Літаратура і мастацтва». Ларыса Геніюш паўстала перада мной на ўсю сваю веліч, як паэтэса-грамадзянка. Я не бачу ёй роўнай у нашай жаночай паэзіі. Яна паланіла мяне не толькі сваімі паэтычнымі магчымасцямі, а й не менш сваёй — наперакор усяму — мужнай паставай. Яшчэ з большай зыркасцю вырысавалася гэтая пастава ў ейным унікальным творы — успаміне «Споведзь», надрукаваным у часопісе «Маладосць». Перад гэтым творам блякнуць усе дасюлешнія гулагаўскія творы ў нашай беларускай мемуарыстыцы, уключна з «ГУЛАГам» самога Салжаніцына. Гэта творы аблітаратураныя і дзеля гэтага яны шмат у чым трацяць сваю аўтэнтычнасць. «Споведзь» Ларысы Геніюш падкупляе сваёй непадробнасцю, маральнай вышынёй і падчас зайздросным бляскам выкладу.

## Сустрэчы

Можа, мне і не трэба было ехаць у Менск — ад мяне, наяўнага, прысутнага, уражанне хіба слабейшае, чымся ад маёй творчасці. Звычайна, пра мяне складваецца думка куды выгаднейшая, калі са мною не сустракаюцца. Пры сустрэчы, асабліва перад высокімі службовымі асобамі ці славутасцямі, я не ўмею думаць, трачу перад імі сваё індывідуальнае. Пры сустрэчы з такімі людзьмі я заўсёды паддаюся, не выяўляю свайго «я», трачу яго на карысць іншага, асабліва, кажу, калі той іншы ў маіх вачох асоба аўтарытэтная, ці — як у выпадку жанчыны — прыгожая. Перад прыгажосцяй я тушуюся. Стушаваўся я і перад Галінай Тычкай: яна прыгожая. Наўзверх яшчэ й разумная. Вярнуўшыся дахаты, шукаю спосабу спадабацца ёй, вярнуць сябе такім, якім яна ўяўляла мяне, калі чытала мае творы.

Карацей — пры сустрэчы я заўсёды прайграю. А от жа кажуць, што на сустрэчы ў Доме літаратара я выйграў. Няўжо?

## Ратуйце свет ад старасці

Калі я цяжка працаваў на фабрыцы, не бачыў Божага свету, я, бывала, зайздросціў пенсіянерам, старым людзям: ідуць яны сабе раніцою, чысценькія, нікуды не спяшаюцца, задаволеныя сабой, мудрыя, у іх ёсць час, яны могуць поўнасцяй аддацца сабе, сузіранню цудоўнага сонечнага дня, а ты, у пыле, у трантах, запэцканы, змардаваны, у цёмным сутарэнні не бачыш белага свету, яны не турбуюцца пра заўтрашняе, яны вырасцілі ўжо сваіх дзяцей, а ты няпэўны ў тым заўтрашнім, цябе могуць звольніць з той фабрыкі і ты тады прапаў — у мяне ж вунь якія яшчэ малыя дзеці...

Цяпер, калі я сам пенсіянер, стары чалавек, я не люблю пенсіянераў, асабліва чысценькіх, акуратных, у адпрасаваным гарнітуры, у святочнай кашулі, у начышчаных да бляску бацінках — ідуць сабе некуды, выглядае, быццам яны запрошаныя на вяселле. Яны нікуды не спяшаюцца, і іх цэлыя арміі, яны запаланілі свет, ад іх няма ратунку. Як добра,— прасці Госпадзі! — што яны некуды непрыкметна знікаюць, але за імі ідуць іншыя, ад іх цёмна ў вачох, ад іх не збавіцца, яны йдуць і йдуць, ад іх, здаецца, пастарэў свет. О якая жудасць ад гэтага сонму старых!

Не! Я хачу быць маладым. Працаваць на фабрыцы, але — маладым. Я не хачу бачыць старых!

Ратуйце свет ад пастарэння!

## Філасофія дамарослага філосафа

Мяне часта агортвае пачуццё часовасці і ад таго робіцца сумна. Цябе не будзе, а ўсё застанецца, як ёсць, і дзеля таго тое «ёсць» здаецца табе нецікавым, нават варожым, менавіта таму, што яно ёсць і застанецца, а цябе не будзе. У цябе крыўда на тое «ёсць», бо яно цябе ашукала: калісьці ты захапляўся ім, быў з ім заадно, зліўшыся з ім, як адно цэлае. Ты ніколі не думаў, што яно пройдзе, не было думкі наогул — ты неўсвядомлена прыймаў, як дадзенае, тое «ёсць», а цяпер вось з'явілася свядомасць сыходу. Ад таго «ўсяго» ты пачынаеш аддзяляцца, выпадаць і ў гэтым выпадзенні ты прыкмеціў жудкую, няўмольную заканамернасць усяго існага, але табе ад гэтага не лягчэй: чалавек у гэтай «заканамернасці» — нібы памылка. Магчыма, было б лепей, каб яго не было наогул, але тады, без мяне, не было б і таго «ёсць». Якая недарэчнасць!

## Сонца

Сонца зніжалася, але было яшчэ бліскотным і сляпіла вочы. Ды ўжо было відаць — ідзе няўхільна на спад: ніжэй і ніжэй. З бліскотнага, прамяністага рабілася спакойна-чырвоным. Толькі яшчэ па краёх успыхвала. Нарэшце, заспакоенае, ішло прыкметна долу. На яго ўжо можна глядзець адкрытымі вачыма. Круг яго, наліты чырванню, асядаў, датыкаўся кромкі зямлі. Пад ім шугала, быццам хто надзімаў яго кавальскімі мяхамі, полымя. Быццам гэта была кузня і ў ёй стаялі малатабойцы, чакалі калі да іх прыйдзе сонца, каб схапіць яго кляшчамі і пакласці на кавадла для сваіх вырабаў.

Ува ўсе бакі расплывалася ў небе чырвань, і мне здалося — гэта канае сонца ад мукаў на кавадле і пасылае нам апошнія развітальныя знакі свайго існавання.



Ганна ДУНОЎСКА (Франка).

**ПРЭМ'ЕРА**

# СВЕТ ПАЧУЦЦЯЎ, СВЕТ ПАРАДОКСАЎ

На кінастудыі «Беларусьфільм» скончана работа над чатырохсерыйным тэлефільмам «Хам», створаным паводле аповесці вядомай польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі. Рэжысёр стужкі Д. Зайцаў у сааўтарстве з С. Шульгой, сцэнарый А. Зайцава.

Свет пачуццяў і страсцей чалавечых узнаўляюць аўтары экраннае версіі дачыненняў рыбака Паула з пакаёўкай Франкай. Задума стварэння фільма па адным з твораў Ажэшкі, дарэчы, была на студыі даўно. Пісьменніца нарадзілася непадалёк ад Гродна, ля Нёмана, і пісала ў асноўным пра свае родныя мясціны—беларускае Панямонне.

У фільме са складанай вяззю чалавечых стасункаў асабліва важны быў выбар акцёраў на галоўныя ролі. Натуральна, коласаўскаму акцёру Г. Шкуратаву, які не мае вялікага вопыту працы ў кіно, дасталася складаная задача стварэння вобраза гэткага своеасаблівага сялянскага інтэлігента Паўла, які спрабуе знайсці апірышча ў хрысціянскай рэлігіі, але рыхтык па-паганску звязаны з прыродаю сваім рыбарствам.

Прырода ў фільме — адна з дзейных асоб. Аўтары хацелі, каб яе вобраз адлюстроўваў унутраны стан герояў, каб поры года на экране адпавядалі не столькі рэальнасці, колькі вясне, лету, восені, зіме чалавечага жыцця. Немалая заслуга ў гэтым, як і ў стварэнні пластычнага вобраза фільма, належыць аператару В. Спарышкову і мастаку А. Чартовічу. Музыку да фільма, якая з'яўляецца і акампанементам, і камертонам свету чалавечых пачуццяў, напісаў знаны кампазітар Э. Дзянісаў.

Асноўная ўвага аўтараў засяроджана на вобразе гераіні. Франка належыць да тых натур, што створаны для свята жыцця. Звычайнай будзённасці такія людзі не вытрымліваюць, імкнучыся да ўсё новых уражанняў, адчуванняў, пачуццяў, і бываюць пры гэтым неўсвядомлена і бязмежна жорсткія да людзей, якія іх любяць. У фільме ярка праяўлена неўтаймаванасць, імпульсіўнасць Франкі, яе няздольнасць супрацьстаяць сваёй прыродзе. Трагічны парадокс: усёдаравальнасць Паўла яе забівае. А ўсвядоміўшы дабрату, ахвярнасць Паўла, Франка не ў стане адказаць на іх, змяніцца, — таму яна развітваецца з жыццём.

На ролю Франкі абрана актрыса аднаго з варшаўскіх тэатраў Ганна Дуноўска.

**Л. МІКАЛАЕВА.**



Аляксандр САЙКО (Піліп), Надзея БУТЫРЦАВА (Улляна).



Юрый ДЗЯДОВІЧ (Ураднік). Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ПРА АБЫЯКАВАСЦЬ НАШУ...

Прызнаюся, і ў маю, як і ў душы многіх маіх землякоў, глыбокай стрэмкай уеўся клешч абыякавасці да вырашэння такой важнай грамадскай праблемы, як адраджэнне нацыянальнай свядомасці, чалавечай годнасці (паняцці ўзаемазвязаныя). Як жа цяжка, здаецца — немагчыма выцягнуць, выбавіць з сябе тую паскудліва - зневажальную стрэмку, хоць і лічу сябе асобай, маральна здольнай на гэта.

**Людзі добрыя! Ідзе ж паўсюль адраджэнне беларускай гістарычнай праўды - спадчыны, роднай мовы, нацыянальнай культуры. Падзея — велізарнай значнасці, адзіная і непаўторная ў наш непрадказальны час. Адчуйце ж гэта свядомым сэрцам, убачце пільнымі вачамі, — лепшага шляху ў нашым сённяшнім неўладкаваным жыцці не прадбачыцца. Толькі актыўнымі сумеснымі намаганнямі, пасільнымі дзеяннямі кожнага зможам паспрыяць жаданаму прагрэсу, дасягненню лепшай, прыгажэйшай будучыні.**

**Суседзі нашы, украінцы, літоўцы, латышы, не кажучы пра расіян і палякаў, ужо выспелі, узмацнелі духам для дзейнасці вялікай на роднай ніве, а мы, беларусы, топчамся, топчамся, топчамся, валтузімся вакол ды наўкола, ды ўсё на адным месцы. Колькі ж нас яшчэ глухіх і сляпых да адраджэнцкіх праблем Бацькаўшчыны мілай — сотні, тысячы?**

**У пару такіх невясёлых думак трапіла мне на вочы вельмі своечасовая публікацыя Вячаслава Лапціка «Абыякавасць» («ЛіМ» за 21.09.90 г.). Аўтар быццам учуў сярод роспачных меркаванняў руплівцаў беларускага адраджэння і мае самотныя думкі, абагуліў у вялікаважную праблему, прадставіў чытачам для роздумы.**

**З такой нагоды і мне непрыстойна было б прамаўчаць, не падзяліцца фактамі грамадзянскай абыякавасці, меўшымі месца ў родным Віцебску нядаўняй парой. Яны мяне дасюль трывожаць... Напачатку думалася: тое, што ўразіла мяне, можа ўсхваляваць некага яшчэ хіба толькі з віцебскага асяроддзя. Але потым разважыў: праблема ж гэта ўсіхняя, агульнанацыянальная, чаму б не абмяняцца «вопытам»?**

...Пачынаўся верасень. Наблізілася Скарынава свята, якое з ласкі ЮНЕСКА шырока адзначалася на сусветным узроўні. 500-годдзе слыннага першадрукара Францішка Скарыны святкавалася і ў яго родным Полацку. Гэта было свята са святаў, якое не мела аналагаў у мінулым, непаўторнае ў сваёй вабнасці. Як аматара - краязнаўцу мяне здавён цікавіць усё, звязанае са Скарынай, усё, напісанае пра яго: навуковыя публікацыі, мастацкія творы, нават дробная інфармацыя. Дапаўняючы адно аднае, сабраныя матэрыялы паступова, больш выразна фарміруюць сапраўднае творча - жыццёвае аблічча вялікага нашага земляка. Апошнім жа часам, асабліва напярэдадні свята, многія, нібы спаборнічаючы паміж сабой, змясцілі небывалую колькасць значных і цікавых публікацый пра Ф. Скарыну і ягоны час, інфармавалі пра шматлікія захады і мерапрыемствы з нагоды шаноўнай падзеі. Не адстала і наша Дзяржтэлерадыё, не менш за друк спрыяючы папулярызацыі свята. І толькі кінематаграфісты як бы ўбаку аказаліся. Праўда, іх і абвінавачваць — марнаванне энергіі: даўно ж вядома, беларускае кіно пакуль існуе, у асноўным, у шыльдавым азначэнні — «Беларусьфільм». Таму зусім нечаканай для мяне з'явілася інфармацыя ў «Віцебскім рабочым» пра дэманстрацыю ў кінатэатры «Беларусь» новага фільма «Францыск — сын Скарыны». Гэтую назву, надрукаваную драбнюткім шрыфтам у газетнай кінапраграмцы, проста пашчасціла заўважыць, асобна ж гэты фільм у Віцебску нікім не рэкламаваўся. Адзіны сеанс у малой зале «Беларусі» (спланаваны няўдала) пачынаўся ў 14.30. Адклаўшы іншыя справы, я выправіўся ў кіно значна раней, баючыся глядацкай канкурэнцыі. На жаль, дарэмна спяшаўся. У касе кінатэатра мне нават білета не прадалі, матывуючы адмову меркантыльнай прычынай. Маўляў, з-за адзінага аматара паліць электраэнергію не збіраюцца. Засмучаны няўдачай, страціўшы гэтулькі каштоўнага часу, я вярнуўся дахаты з прыкрым пачуццём зняважанай годнасці. І скардзіцца быццам бы няма на каго, усё заканамерна, а на душы гідка...

Праз тыдзень пасля Скарынава свята (мусіць, падарунак лёсу) зноў з'явілася магчымасць паглядзець памянёную кінастужку. 16 верасня, інфармаваны праграмкай «Віцебскага рабочага» пра дэманстрацыю фільма «Францыск—сын Скарыны» ў кінатэатры «Бригантина» (зноў на адзіным

# ШАНЦ ВЫЖЫЦЬ І ЖЫЦЬ

## Некалькі слоў пра тэлевізійны тэатральны «сезон»

Выпадковы сумоўца аднойчы спытаў, пра што я пішу. Пачуўшы ў адказ, што пра беларускі тэлевізійны тэатр, шчыра здзівіўся: «Значыць пра тое, чаго няма?» І ў каторы раз я пачала перабіраць усё «за» і «супраць».

Мы часцей «атакуем» тэлетэатр з пункту гледжання... тэатра. Безумоўна, пэўныя тэатральныя традыцыі, агульны ўзровень сцэнічнага майстэрства з'яўляюцца і падставай, і трамплінам для ўзнікнення на тэлеэкране самастойных арыгінальных твораў. Аднак жа мы звычайна забываемся на тое, што тэлетэатр яшчэ мае і тэлевізійныя карані, а значыць—і адпаведную эстэтычную спецыфіку...

Традыцыйна склалася так, што глядацкія ўяўленні пра тэлетэатр абмяжоўваюцца тэлевізійным спектаклем. Менавіта ён лічыцца бясспрэчным «чыстым прадуктам» электроннага тэатра; менавіта ён нясе ў сабе «гены» тэатра, кіно, тэлебачання, якія з рознай актыўнасцю ўплываюць на мастацкую прыроду кожнай асобнай тэлепастаноўкі.

Калі ўзяць, напрыклад, тэлеспектаклі Н. Арцімовіч, Л. Тарасавай, Н. Гаркуновай, дамінуючымі аказваюцца мастацкія прыёмы тэлебачання. Калі прааналізаваць творы В. Карпілава, У. Забэлы, В. Мацюшэўскага, В. Акімушкіна, адчуваеш у іх пераадольваючую сілу сцэнічнага мастацтва. Тэлеспектаклі А. Гутковіча (асабліва яго раннія творы), Г. Краўчанкі, А. Астравуха большасцю «апрануты» ў кінаапратку. (Такі падзел пастановак Беларускага тэлебачання досыць умоўны і адлюстроўвае толькі напрамак схільнасцей, стылістычныя «дыялекты» аўтараў).

Апошнім часам творчы пошук рэжысёраў рэспубліканскага тэлебачання скіроўваецца на «тутэйшасць». Менавіта тут чэрпаюцца тэмы, сюжэты, героі для новых тэлепастановак. Калі прасачыць дынаміку змен у «рэпертуарнай афішы» нашага тэлетэатра, дык ясна азначацца наступныя прапорцыі. У 1987 г. па творах беларускіх пісьменнікаў было каля 30% прэм'ер, у 1988 г. гэтая лічба ўзнялася да 71%, у 1989 г.—да 86%. 1990 г. стаў для рэспубліканскага тэлетэатра стопрацэнтным «нацыянальным» годам.

З публіцыстычным запалам ці ў паэтычным летуценні аўтары дакрануліся да роднай гісторыі: «Апошняя ноч Алаізы», «Заўсёды Ваш Тарыч», «Давыд Гарадзенскі», «Я, Іван Дамінікавіч...», «Лісты так доўга ідуць...» З пэўнымі акцэнтуацыямі адольвалі беларускую драматургію: «Дыхайце эканомна», «Мілы чалавек», «Чалавек з мядзведжым тварам». Шукалі героя ў сучаснай беларускай прозе: «Мая душа, як ястраб дзікі...», «Клетка з папугаем».

Гэта ўсяго просты пералік часткі беларускіх тэлепастановак апошніх пяці гадоў. Ёсць тут пэўныя мастацкія з'явы і паслужлівыя «рэверансы», кволыя зярняты і «крапіўнае семя». Пакуль што адзначым адно: беларускі тэлевізійны тэатр, што б ні казалі, жыве: выдае ў «сезон» па 6—7 прэм'ер! У гэтым сэнсе ён мае прыярытэт перад сучаснай рэспубліканскай сцэнай.

Тым не менш, хоць нішто і не прадвяшчае заняпаду тэлетэатра, складаецца ўсё ж уражанне, што ён адыходзіць да «зімовай спячкі». Яшчэ там-сям бліскане восеньская раскошная жаўцізна, але ўсё настойлівей чуецца шоргат сухога лісця і подых першага марозіку.

Перш за ўсё, у тэлетэатры павінны побач ужывацца класічная драматургія і фантастыка, мініяцюра і эпас, публіцыстыка і паэзія. Ён павінен мець некалькі пастаянных рубрык у тэлепраграме, а не быць пасынкам рэспубліканскага вяшчання. Толькі тады рэжысёры тэлебачання змогуць праяўляць свае мастакоўскія здольнасці і запатрабаванні, інтуіцыі і капрызы. Менавіта апошнім тэлетэатр і павінен падпарадкоўвацца, а не праграмнаму дыктату сродку масавай інфармацыі.

На БТ, як усюды, ёсць сапраўдныя прафесіяналы і мастакі. Разам з тым, многія рэжысёры рэспубліканскага тэлеэкрана гадамі чакаюць «літасці ад...» для ажыццяўлення сваіх мастацкіх ідэй. Бадай, на адной руцэ хопіць пальцаў, каб пералічыць тэлеспектаклі Л. Тарасавай ці В. Мацюшэўскага, Н. Гаркуновай ці Н. Арцімовіч, а зрабіць яны маглі б удвая-ўтрая больш. Дайце веры, але тэлеспектакль—гэта хутчэй хобі для рэжысёра тэлебачання (асабліва калі ён працуе не ў літаратурна-драматычнай рэдакцыі). Яго службовы абавязак—рабіць тэлеперадачы.

...У канцы 50-х прамень тэлебачання ўрэзаўся ў тэатральнае царства. Мельпамена ледзь не стала ахвярай наваяўленай электроннай музы. Наступіла эра тыражаванага тэатра. Сцэнічныя творы нібыта «высмокталіся» тэлекамерамі з глядзельнай залы ў хатнюю прастору тэлегледача. Нямала было спрэчак вакол мастацкага права тэлебачання на рэпрадукцыю, фіксацыю сцэнічных твораў. Аднак у любым выпадку не трэба забывацца на тое, што толькі тэлебачанне зрабіла тэатр агульнадаступным у простым сэнсе гэтага слова.

Першым крокам на шляху ўзаемадзеяння сцэны і тэлебачання была трансляцыя. На жаль, рэспубліканскае вяшчанне даўно ўжо не дае такога відовішча: перашкаджаюць «касавыя інтарэсы» тэатра. Лічу, што прамая трансляцыя з глядзельнай залы — не «дзіцячая хвароба тэлетэатра, а ягоны святы абавязак. Гэта асабліва слушна ў адносінах да гастрольных паказаў. Беларускаму

сеансе ў 16.15), я выйшаў з дому загадзя. Думалася: дзень выхадны — нядзеля, і на адзіны сеанс з усяго Віцебска збярэцца гледачоў звыш нормы. Тут хоць на якое б месца прыдбаць білет, абы паглядзець новае тварэнне «Беларусьфільма», якое завочна для мяне ўжо трапіла ў лік загадкавых. На маё здзіўленне, білет я купіў без аніякіх перашкод, прытым на самае прэстыжнае месца. І яшчэ з гадзіну да пачатку сеанса ўрачыста шпацыраваў ля кінатэатра, потым—у прасторным фае. Я тады, дзівак, нават не здагадваўся, што не скончыліся мае выпрабаванні...

**Ужо фільм быў павінен пачынацца, а дзверы ў Малую залу заставаліся зачыненымі... Бывае ж, людцы добрыя, Гінеса першынство, адзінае, непаўторнае, як некалі палёт Ю. Гагарына ў космас. Прыблізна тое сталася і са мной. Раптам аказалася, што я адзіны глядач на адзіны ў Віцебску сеанс гэтага фільма! Дзяжурная, запознена зразумеўшы пікантную сітуацыю, напачатку ветліва прапанавала мне паглядзець іншы фільм у Вялікай зале. Але той кінатвор я ўжо паглядзеў. Цвяроза асэнсоўваючы абставіны, я ўжо не настойваў на сваім глядацкім праве, чартыхаючыся ў душы з нагоды чарговай няўдачы. Мо адчуўшы па-чалавечы маю відавочную разгубленасць, дзяжурная папрасіла пачакаць крыху, сама ж хуценька пакіравала да дырэктаркі за парадай. Доўга не затрымалася, ветліва прапанавала заходзіць у залу, займаць сваё месца.**

**Упершыню ў жыцці (хто ведае, мо і першы з простых смяротных) у даволі прасторнай зале, у поўнай адзіноце, я глядзеў новы фільм, да таго ж вельмі цікавы, прыгожа зняты, такі жаданы — пра свайго знакамітага земляка Ф. Скарыну. Даўно мне так прыемна не пачувалася ў кіно. Звычайныя, апрыклыя тэмы сённяшняга кінапракату: секс, злачыннасць і да т. п. ужо давялі цярплівасць да крытычнай мяжы. А тут на экране — багата насычанае вялікім сэнсам прыгожае жыццё, выключныя ўзнёслыя падзеі, краявіды родных мясцін першадрукара, яго замежных вандровак: Кракава, Прагі, Венецыі, Падуі... І пра ўсё распавядаецца наймілагучнейшай беларускай мовай. Я быў настолькі моцна загіпнатызаваны фільмам, што зусім забыўся на сваю адзіноту, не заўважыў, як прабег час сеанса. Асалоду атрымаў рэдкасную.**

Ужо на вуліцы, пасля ўсяго ўбачанага, пачутага, пераасэнсаванага, апанавалі мяне розныя думкі-пытанні, думкі-пажаданні.

Як дапамог бы гэты жыццесцвярджальны фільм сённяшнім настаўнікам больш плённа і цікава правесці, напрыклад, Скарынавы ўрокі (пра якія паведамлялася ў друку, хоць і не верыцца, што прайшлі яны паўсюль), дапоўніў бы іх своеасаблівай мудрай узнёсласцю. Дык чаму ж тады настаўнікі не прыйшлі паглядзець гэткі змястоўны фільм, да таго ж, неабходны ім для паглыблення прафесійных ведаў: што ў іх, душы закамянелыя? Відаць, абыякавасць апанавала.

Эх, людзі, людзі, землякі мае! На каго ж мы сёння спадзяёмся, куды падзеўся культурны інтэлект нашага нацыянальнага «я»? Чаму не цікавімся шчодрым плёнам нашай багацейшай спадчыны? Не ўсе ж з нас зрабіліся заўзятымі нігілістамі ці адпетымі манкуртамі. Існуе, ведаю добра, і значная колькасна, свядомая праслойка ў грамадскасці Віцебска з ліку лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, рабочых. Дык чаму ж мы «спім у шапку», як кажуць?

Сённяшнюю масавую няўвагу віцебскай грамадскасці да Скарыніяны, у прыватнасці, да новага фільма «Францыск — сын Скарыны», у застойныя часы можна было б і драбязой палічыць і «спісаць» на выпадковы момант. Але зараз усё так цесна пераплятаецца, — пытанні палітычныя, эканамічныя, культурныя. Усё ўзаемазвязана, і рашаць праблемы можна толькі комплексна.

І як тут не нагадаць пра яшчэ адну праяву абыякавасці — на гэты раз афіцыйную, вельмі ўплывовую і ўладарную, непасрэдна суаднесеную з вытокамі абыякавасці грамадскай.

Абласны цэнтр практычна застаўся ўбаку ад правядзення Скарынавага свята. Не адбылося аніякага масавага ўшанавання памяці слыннага земляка, не зроблена належнага мастацкага афармлення, адсутнічалі ў продажы юбілейныя сувеніры (пра іх існаванне і разнастайнасць я даведаўся толькі ў Полацку). Словам, не адчувалася ў горадзе святочнага настрою з такой вялікай нагоды...

А, можа, у Віцебску адшукалася больш упарадкаваная вуліца, каб надаць ёй імя Ф. Скарыны? Бо тая, што завецца гэтым імем сёння, ускраінная, занядбаная, не адпавядае культурнай існасці шаноўнай назвы.

Ці, можа, прынялі рашэнне ўзвесці помнік Першадрукару (па нашай сённяшняй беднасці—хоць бы памятны знак)?

А, можа, імя Ф. Скарыны нададзена якой-небудзь культурнай установе або школе Віцебска?

Не, не і не! Абыякавасць афіцыйная спрацавала. Не зроблена амаль нічога пэўнага ў справе ўшанавання імя Ф. Скарыны ў Віцебску. Быццам славуты зямляк — паняцце адноснае для нашага старажытнага горада. Калі б не высокапатрыятычная дзейнасць рэдакцыі «Віцебскага рабочага» ў час падрыхтоўкі і правядзення 500-х угодкаў Ф. Скарыны, абыякавасць афіцыйную можна было б лічыць стопрацэнтнай.

Абыякавасць афіцыйная адгукнулася прыкрай аналогіяй у масах, занятых вырашэннем абвостраных сацыяльных і гаспадарчых пытанняў. Маўляў, ці да культурных цяпер праблем пры будзённых дэфіцытах, ды й зверху да культуры не накіроўваюць. Такім чынам, абыякавасць афіцыйная лёгка ўспрымаецца, пераходзіць у абыякавасць грамадскую дзякуючы застарэлай безыніцыятыўнасці «нізоў», іх няразвітай нацыянальнай свядомасці...

А вось і некалькі свежых прыкладаў (па якія хадзіць далёка не трэба — яны пад бокам у кожнага віцябляніна), як беспрынцыпна ігнаруецца ў Віцебску закон аб мовах. Дагэтуль не пераведзены на беларускую рускамоўныя шыльдачкі назваў віцебскіх вуліц, дый многія назвы даўно трэба ўдакладніць, а то і замяніць больш адпаведнымі. З пяці шыльдаў ля ўвахода ў гарадскі Дом культуры толькі адна мае беларускі пераклад, астатнія зроблены ў рускамоўным варыянце: «Народный ансамбль танца «Лявониха», «Народный симфонический оркестр», «Городской методический центр по культурно - просветительной работе и народному творчеству», «Городская организация общества любителей книги». Пры ўваходзе ў бібліятэку (вул. Дзяржынскага), якая носіць імя славутага беларускага песняра, таксама адзіная шыльда з тэкстам на рускай мове: «Городская библиотека им. Янки Купалы». Гэткія зневажальныя адносіны да беларускай мовы сведчаць не толькі пра абыякавасць афіцыйную, яны — нямы дакор усёй грамадскасці віцебскай!

**Мікола ПЛАВІНСКІ.**

г. Віцебск.

тэлебачанню павінна рупіць усе рэспубліканскія гледачы. Дык чаму не ашчасліваць правінцыю спектаклямі завітаўшага ў Мінск «зоркавага» тэатра? Гэта ж і выгадна: і плёнка не патрэбная, і тэлеглядач «працісне́цца» ў перапоўненую залу. Дадаць інтэрв'ю ці бліц-апытанне ў антракце,—вось вам і «неверагодная прыгода»!

Што да сваёй крэўнай нацыянальнай сцэны, дык у беларускім тэлетэатры склалася практыка «фільмавання» спектакляў. Безумоўна, фіксацыя на плёнку твораў беларускага тэатра—лепшае выйсце. Для духоўнага фонду нацыі тэлетэатр Беларусі захоўвае шматлікія пастаноўкі («Людзі на балоце», «Сымон-музыка», «Макбет», «Паўлінка» і інш.).

Але, тэлетэатр не можа капіраваць, узнаўляць мастацтва тэатра. Ён здольны толькі зафіксаваць, захаваць і перадаць жыццё сцэны ў шматлікіх формах яго праяўлення. Тэатральны працэс у тэлевізійным адлюстраванні набывае відавочны аб'ём і знаходзіць новую зону развіцця і ўдасканалення. Вось чаму перадачы пра тэатр лічу арганічнай часткай агульнатэатральнага працэсу. Разам з тым адношу іх у сферу дзейнасці тэлетэатра, што абавязвае бачыць у кожным падобным намаганні тэлетвор.

У нетрах тэлевізійнага тэатра Беларусі пахавана нямала цыклаў, рубрык, асобных перадач. Адны з іх, як рубрыка «У святле рампы», давалі інфармацыйны агляд навін тэатральнага жыцця рэспублікі. Іншыя («Тэатральная гасціная», «Сустрэча для вас») неслі атмасферу «тэатральнага дома» і радасць спазнання асобы.

Нельга сказаць, што зараз БТ не цікавяць тэатральныя справы. Летась (калі параўнаць з 1989 годам) стала больш устойлівай у рэспубліканскай праграме перадача «Тэатр і час». Але яна на вачах робіцца нейкай разбалансаванай, дэфармаванай, распыленай. Пад шыльдай «Тэатр і час» апошнія два гады «грувасціцца», «прасуецца» ўвесь масіў тэатральнага жыцця рэспублікі. Намагаючыся высвятліць шматлікія сцэнічныя праблемы, аўтары перадачы ці набіраюць непасільны разбег, ці бавяцца дробязямі. Размова блытаецца, слізгае па паверхні, а заяўленая тэма звычайна застаецца фармальнай.

Калі я не памыляюся, рубрыка «Тэатр і час» узнікла па ініцыятыве мастацтвазнаўцы В. Ракіцкага і рэжысёра В. Мацюшэўскага гады тры таму. Яна мае безумоўны шанц выжыць, яна павінна выжыць, але дзеля таго ёй прыйдзецца «адпачкаваць» некалькі парасткаў — іншых цыклаў: напрыклад, «Тэатральныя мемуары», тэлевізійныя рэцэнзіі «Пасля прэм'еры» і іншыя. Уласныя акцэнты вядучага, як мне падаецца, лепш сканцэнтраваць на праблеме ўзаемадзеяння нацыянальнага тэатра і грамадства ў Часе. Здаецца, гэта і было першапачатковай мэтай фундатараў перадачы.

Не магу абысці ўвагай дзве перадачы ў рэспубліканскім тэлетэатры, прысвечаныя беларускім акцёрам.

Першая — «Запрашаем у тэатр» — тэлевізійны дывертысмент: У. Шэлестаў выконвае шэраг маналогаў са спектакляў рускага тэатра. Кожны асобны «нумар» (маналог) звязаны з папярэднім і наступным сэнсавай ніццю ці перакідным мастком—радкамі з паэзіі М. Лермантава. Зробленая далікатнай манерай рэжысёра, перадача атрымалася цэласнай паводле думкі і паводле кампазіцыі. Аўтары (рэжысёр Н. Арцімовіч, мастак А. Шкаева, аператар В. Баранаў) намагаліся прыўнесці своеасаблівыя мастацкія нюансы, аб'ядноўваючы сэнс. Гэтая перадача, як монаспектакль,—абсалютнае царства акцёра, гэткі своеасаблівы экстракт творчага лёсу У. Шэлестава. Аднак зараз, успамінаючы свае ўражанні, вымушана сказаць, што гэты тэлетвор быў пазбаўлены ўнутранай натхнёнай усхваляванасці. У. Шэлестаў спакойна і раўнамерна быццам намотваў клубок прафесійнай справаздачы.

Творчы партрэт Г. Гарбука (аўтар сцэнарыя і вядучая мастацтвазнаўца Н. Крывашэева) быў прадстаўлены на леташнім рэспубліканскім тэлеэкране на пачатку кастрычніка. Мне здалося, што аўтары перадачы



«Дыхайце эканомна» А. МАКАЁНКА. Сцэна са спектакля.
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

імкнуліся, абапіраючыся на канкрэтны творчы лёс Г. Гарбука, выйсці да абагульняючай думкі пра крэўную нацыянальную сувязь акцёраў і кінематографа Беларусі. Менавіта гэты вузел праблем апынуўся ў цэнтры размовы, і стрыжань перадачы склалі кінаролі Г. Гарбука. Таму тут багата было ўрыўкаў з фільмаў, а гаворку аб чалавечых і прафесійных здольнасцях акцёра вялі яго паплечнікі па кіназдымачнай пляцоўцы: Л. Сакалова, У. Хаціненка, М. Пташук. А вось моманты тэатральнай біяграфіі Г. Гарбука даволі скупа ўштукаваны ў гэты тэлевізійны партрэт. Калі Г. Гарбук успомніў сваю першую вялікую ролю Васіля Дзятліка з тэлеспектакля А. Гутковіча «Людзі на балоце» (1965 г.), я ўзрадавалася: вось, нарэшце, закране велізарны пласт работы ў тэлетэатры... Аднак дарэмна.

Пастаўленыя побач два тэлетворы зусім розныя па сваёй мове. Аднак яны супадаюць у метадзе. І ў той, і ў другой перадачы позірк скіраваны ў мінулае акцёра. Мне здаецца вельмі цікавым і правамоцным на тэлебачанні вызначэнне, «намацванне» творчай будучыні выканаўцы. Гэта значыць, што паралельна з аналізам створаных вобразаў неабходна здымаць перадачы, у якіх раскрываўся б мастацкі густ акцёра, яго прафесійны патэнцыял. Словам, даць магчымасць іграць эпізоды з запаведных твораў. Штосьці падобнае на бенефіс ці на «тэлеспробу»...

**Наталля АГАФОНАВА.**

**НАВАГОДНЯЯ ПАШТОЎКА**

# ШУКАЦЬ ПАДЗВІЖНІКАЎ!

Я ВЫПІСВАЮ ШТОТЫДНЁВІК больш за 10 гадоў і такім чынам маю магчымасць сачыць за яго эвалюцыяй. І спадзяюся, яна не спыніцца.

Што падабаецца? Па-першае, спалучэнне ў матэрыялах газеты надзённасці, таго, што мінае, але без чаго, на жаль, не абысціся, — і (гэта галоўнае) **адвечнага** (гістарычных дакументаў, філасофскіх роздумаў, сур'ёзных, хоць часам і спрэчных, даследаванняў).

Па-другое, падборкі паэзіі і прозы, якія раптоўна адкрываюць нейкі іншы бок творчасці нават вядомага літаратара. І трэба сказаць, што часцей гэта прыемныя нечаканасці. З апошніх магу назваць публікацыі А. Разанава і Р. Баравіковай, якія ўразілі мудрасцю, сталасцю перажыванняў.

Па-трэцяе, з усіх нашых газет «ЛіМ» адзіная, якая на працягу некалькіх апошніх гадоў (здаецца, з прыходам А. Вярцінскага) зрабілася, калі можна так сказаць, аддушынай для ледзьве дыхаючай беларускай інтэлігенцыі. На «ЛіМе» не адчуваецца прэс усемагутнай партакратыі.

Чаго б хацелася... Для мяне як для музыканта вялікі боль — масавы адыход людзей, можна сказаць, адыход грамадства ад сапраўднай музычнай культуры ды і ад мастацтва наогул. Хацелася б, каб музыцы больш увагі аддавалася ў газеце. Не толькі інфармацыі пра музычныя падзеі ў рэспубліцы, гэтага хапае. Але і матэрыялам, так бы сказаць, **асветніцкім.** Бо апошні (і, здаецца, адзіны) агульны пленум кампазітараў ды пісьменнікаў паказаў, што і самыя добрыя літаратары, амаль без выключэння, разумеюць і ўспрымаюць музыку толькі на ўзроўні эстраднай песні. Сумна.

Што мне як чытачу не падабаецца? Безумоўна, пазіцыя газеты выяўляецца ўжо ў падборцы і адборы самога матэрыялу і не вымагае нейкіх асаблівых каментарыяў. Але калі амаль што на першай старонцы выдання творчай інтэлігенцыі чытаеш пагардлівае: маўляў, «беларуская інтэлігенцыя корміцца з беларускай культуры» (без аніякага рэдакцыйнага каментарыя, заўвагі) — дык гэта бянтэжыць. Каму, як не «ЛіМу», абараняць гэтую гаротную інтэлігенцыю, якую заўсёды штурхалі і працягваюць штурхаць з усіх бакоў?

Наогул, часам істэрычныя ноткі, нецярпімасць да іншых поглядаў у некаторых публікацыях уражваюць вельмі непрыемна. Кідаецца ў вочы і вялікая колькасць скаргаў у пісьмах, асабліва па праблемах вывучэння беларускай мовы: скаргі, скаргі, скаргі... А так хочацца прачытаць, нарэшце, пра ўчынак і плён хоць бы аднаго чалавека: узяў ды зрабіў, навучыўся сам, навучыў сваё дзіця — ужо добра. Быццам бы няма падзвіжнікаў і падзвіжніцтва. Хай бы газета больш гаварыла пра іх, шукала, звяртала на іх увагу.

Пажадаць нашай газеце на пачатку новага года хацелася б усяго самага добрага, але калі адным словам — інтэлігентнасці. Бо «ЛіМ» жа адзіны друкаваны орган, да якога горнецца творчая інтэлігенцыя Беларусі...

**Галіна ГАРЭЛАВА,**
**кампазітар.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# НАШ АЙЧЫННЫ САЦЫЯЛІЗМ. ШТО ГЭТА ТАКОЕ?

ДЫСКУСІІ АБ ПРЫЧЫНАХ няўдалага эксперыменту з «будаўніцтвам сацыялізму» яшчэ толькі пачынаюцца. Пытанне аб тым, у якой ступені вінавата сама дактрына, а ў якой яе бяздарныя рэалізатары—застаецца адкрытым. У гэтай сувязі хацелася б выказаць свой пункт погляду на гэтыя праблемы.

Як вядома, Маркс і Энгельс лічылі, што на нейкім этапе развіцця буржуазнага грамадства капіталістычныя вытворчыя адносіны стануць тармазіць развіццё вытворчых сіл. Узнікшы канфлікт будзе вырашаны ў выніку сацыяльнай рэвалюцыі, у ходзе якой пралетарыят, як самы рэвалюцыйны клас грамадства, установіць сваю дыктатуру, абагульніць вытворчасць і ажыццёвіць пераход да больш прагрэсіўнага сацыялістычнага грамадства.

Зыходзячы з гэтай тэорыі, натуральна было б меркаваць, што сацыялістычныя рэвалюцыі адбудуцца ў самых развітых капіталістычных краінах, дзе вытворчыя сілы дасягнулі найбольшай сталасці. На практыцы ж аказалася, што сацыялістычныя рэвалюцыі адбыліся ў адсталых краінах, якія толькі пачалі пераход да капіталістычнай фармацыі: Расія, Кітай, Куба, так званыя краіны сацыялістычнай арыентацыі Азіі і Афрыкі. Пераход да «сацыялізму» адносна развітых краін Усходняй Еўропы нельга лічыць сур'ёзным контраргументам, бо ён быў навязаны ім звонку, і як толькі гэты знешні фактар знік з пачаткам савецкай перабудовы, гэтыя дзяржавы вярнуліся на ранейшы шлях.

**У. І. Ленін паспрабаваў растлумачыць такі парадокс тым, што сацыялістычныя рэвалюцыі адбываюцца ў краінах, якія з'яўляюцца найбольш слабым звяном у ланцугу імперыялізму. Але такая высновa непераканаўчая і нічога не тлумачыць.**

**Нам уяўляецца, што класікі марксізму памыліліся ў аналізе капіталістычных вытворчых адносін, якія зусім не з'яўляюцца тормазам развіцця вытворчых сіл. Маркс і Энгельс неабгрунтавана перанеслі заканамернасці папярэдніх капіталізму фармацый на само капіталістычнае грамадства. Справа ў тым, што ў папярэдніх фармацыях старыя вытворчыя адносіны, якія сталі тормазам развіцця вытворчасці, ліквідаваліся ў выніку САЦЫЯЛЬНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ, вынікам якой было стварэнне новых прагрэсіўных вытворчых адносін. Ніякім іншым шляхам гэтая супярэчнасць вырашыцца не магла.**

Але пры капіталізме гэтая адкрытая заснавальнікамі марксізму заканамернасць мае прынцыповую асаблівасць. Яна заключаецца ў тым, што капіталізм з'яўляецца грамадствам, якое самарэгулюецца, здольнае вырашыць супярэчнасці паміж вытворчымі сіламі і вытворчымі адносінамі без сацыяльнай рэвалюцыі, шляхам пастаяннага іх удасканалення. Важнейшае якаснае адрозненне капіталізму ад папярэдніх фармацый (і ад савецкага «дзяржаўнага сацыялізму») заключаецца ў тым, што тут пануе канкурэнцыя незалежных таваравытворцаў на свабодным (а ў XX ст. рэгулюемым дзяржавай) рынку. Уся справа ў тым, што рынак з'яўляецца механізмам, здольным саманастройвацца, самаўдасканальвацца, самакарэкціравацца. Гэта яго здольнасць узрасла ў шмат разоў, калі на дапамогу прыйшла дзяржава. Дзякуючы рынку, капіталізм параўнаўча хутка ажыццявіў пераход ад свабоднай канкурэнцыі да манапалістычнай, а потым—да дзяржаўна-манапалістычнай стадыі, лёгка ўпісаўся ў навукова-тэхнічную і тэхналагічную рэвалюцыі.

**Праўда, мне могуць запярэчыць, што два разы за сваю гісторыю капіталізм перажыў вострыя крызісы, якія паставілі пад сумненне яго жыццяздольнасць: у 1917 — 1923 і 1929 — 1933 гг. Што можна адказаць на гэтае пярэчанне? У першым выпадку гаворка ішла пра рэвалюцыйны крызіс, выкліканы першай сусветнай вайной. Гэта значыць, не тармажэннем старых форм уласнасці, а тым, што спусташальная вайна спарадзіла найвастрэйшы эканамічны, сацыяльны і палітычны крызіс, рэвалюцыйную сітуацыю. Так, вядома, вайна з'явілася вынікам развіцця капіталізму, выцякала з яго сутнасці, але, пры гэтым, вядомае палажэнне аб войнах як «непазбежным спадарожніку імперыялізму» нельга лічыць аксіёмай. Развіццё капіталізму пасля другой сусветнай вайны паказала, што ён можа досыць паспяхова існаваць і без вайны, і без калоній у традыцыйным сэнсе.**

**Што датычыць крызісу 1929 — 1933 гг. і, як адзін з вынікаў яго, другой сусветнай вайны, то сапраўды, гэтыя падзеі былі выкліканы тым, што капіталізм вычарпаў магчымасці развівацца ў старых формах. Вычарпаў сябе механізм свабоднай канкурэнцыі. Пераход да новага механізма з дзяржаўным рэгуляваннем быў вельмі хваравіты. У Еўропе ён пайшоў па шляху ўстанаўлення фашысцкіх дыктатур, прывёў да другой сусветнай вайны. Але вопыт пасляваеннага развіцця і асабліва апошніх гадоў пераканаўча паказаў, што найбольш аптымальнай мадэллю для функцыянавання капіталістычнага грамадства з'яўляецца дэмакратыя, а не дыктатура.**

**Той факт, што кожны раз крызіс даваў штуршок больш хуткаму развіццю вытворчых сіл і з яго капіталізм выходзіў абноўленым, сведчыць пра яго жыццяздольнасць як сістэмы. Таму не патрабуе сур'ёзнага абвяржэння доўга прапагандуемы нашым грамадазнаўствам тэзіс пра «агульны крызіс капіталізму», які разумеўся як немагчымасць далейшага развіцця гэтага грамадства ў існуючых рамках.**

Такім чынам, прадбачанне Маркса і Энгельса аб непазбежнасці гібелі капіталізму ў выніку немагчымасці забяспечыць прагрэсіўнае развіццё вытворчых сіл аказалася памылковым. Ідэя пераходу да сацыялізму ў выніку пралетарскай рэвалюцыі была заснавана на лжывай выснове, і любая спроба ажыццявіць яе на практыцы непазбежна рабілася гвалтам над натуральным гістарычным працэсам. Гэта і пацвярджае вопыт так званага «рэальнага сацыялізму». Дарэчы, мы дагэтуль да канца не асэнсавалі палажэнне Леніна, вылучанае ім пры пераходзе да НЭПу, пра будаўніцтва сацыялізму капіталістычнымі метадамі.

У Маркса сацыялізм — гэта посткапіталістычнае грамадства. Ён пісаў, што «ни одна общественая формация не погибает раньше, чем разовьются все производительные силы, для которых она дает достаточно простора, и новые более высокие производственные отношения никогда не появляются раньше, чем созреют материальные условия их существования в недрах самого старого общества».

У рэальнасці ж сацыялістычныя рэвалюцыі адбыліся ў краінах «недозревшего» капіталізму. Іх перамога з'явілася вынікам супярэчнасцей не капіталістычнага развіцця, а дакапіталістычных структур, паўфеадальных перажыткаў. І можна пагадзіцца з прафесарам А. Бутэнкам, што «будаўніцтва сацыялізму»—гэта спроба прарыву слабаразвітых краін ад дакапіталістычнага ці раннекапіталістычнага грамадства да індустрыяльнага. Спроба валявым шляхам скараціць часавы інтэрвал і зрабіць скачок за кошт канцэнтрацыі ў руках дзяржавы эканамічнага патэнцыялу.

Ужо само палажэнне аб тым, што сацыялізм трэба «будаваць», супярэчыла тэорыі Маркса. У паняцце «будаўніцтва сацыялізму» ўкладалася перш за ўсё неабходнасць стварэння «матэрыяльна - тэхнічнай базы сацыялізму». Але ж, зыходзячы з логікі Маркса, без такой базы, створанай яшчэ ва ўмовах капіталізму, па-першае, сацыялістычная рэвалюцыя немагчыма. Па-другое, і ажыццяўляць такую рэвалюцыю няма сэнсу, бо яна не зможа дасягнуць сваіх мэтаў. Успомнім пункт гледжання Маркса на тэорыю рускіх народнікаў аб пераходзе да сацыялізму мінуючы капіталізм.

**Канцэнтрацыя ў руках дзяржавы эканамічнага патэнцыялу не магла не нарадзіць таталітарную сістэму. У такой сістэме пры адсутнасці эканамічных стымулаў менавіта ідэалогія з'яўляецца адным з важнейшых фактараў развіцця вытворчасці. І вось тут-то марксісцкая ідэалогія прыйшлася вельмі дарэчы. У ёй ёсць цэлы шэраг рысаў, якія давалі магчымасць ператварыць яе ў разнавіднасць рэлігіі, у ідэалагічнае абгрунтаванне таго грамадства, якое мы сёння называем «адміністрацыйна - каманднай сістэмай».**

У выніку атрымалася грандыёзная містыфікацыя, у якую аказалася ўцягнута каля трэці чалавецтва. Краіны, якія ўваходзілі ў «сусветную сістэму сацыялізму», на самай справе не з'уляліся сацыялістычнымі. Бо, паводле марксісцкай тэорыі, сацыялістычнае грамадства павінна быць куды больш прагрэсіўным, чым капіталістычнае, пераўзыходзіць яго па ўсіх параметрах: развіцці вытворчасці, узроўні жыцця, дэмакратыі і г. д. У рэальнасці ж «сацыялістычныя» краіны не дараслі да ўзроўню капіталізму.

Таму размовы пра «дэфармацыі сацыялізму» не маюць пад сабой навуковага грунту. З іх вынікае, што нібыта канцэпцыя класікаў марксізму аб пераходзе да сацыялізму была правільнай, але ў ходзе яе ажыццяўлення былі дапушчаны памылкі, «дэфармацыі». У тым-то і справа, што быў, мякка кажучы, з істотнымі дэфектамі пачатковы праект. Сацыялістычная ідэя можа ажыццявіцца толькі ў выніку натуральнай эвалюцыі капіталістычных вытворчых адносін.

Неабходна хутчэй адмовіцца ад догмаў, самападману, заклінанняў аб вернасці «прынцыпам» і стаць на шлях стварэння грамадства, якое развівалася б па натуральных законах.

**В. КАРБАЛЕВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**
г. Мінск.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

# ВЯРТАННЕ Ў ВІЛЬНЮ

**(Пачатак на стар. 5).**

больш спадзявацца на сваю прадпрымальнасць, уласныя сілы і вынаходлівасць. Літва сёння не палітычная, ці, лепш сказаць, не палітызаваная: бізнес — вось што ўладарна заваёўвае грамадскія інтарэсы. У Вільнюсе сёння не здзіўляюцца куплі кватэр за 100 тысяч «драўляных», легкавых аўтамабіляў за 97 тысяч на аўкцыёне. Гэта ўжо робіцца правілам. У афіцыйнай «белай» прэсе безліч матэрыялаў на адну тэму: як зрабіць грошы? «Жоўтая» прэса таксама ўмерыла палітычны імпэт і занялася вучобай бізнесу.

Можа, я памыляюся, але нашыя сродкі масавай інфармацыі працягваюць разглядаць Літву такой, якой яна на самай справе ўжо не з'яўляецца. У літоўцаў адбылася змена светапогляду. У канцы лістапада штотыднёвік «Летувас Ритас» («Раніца Літвы») паведаміў вынікі вывучэння грамадскай думкі. Насельніцтва ацэньвае стан рэспублікі як «пасткамуністычнае грамадства, ахопленае смагай свабоды». Менавіта на такой аб'ектыўнай вартасці грамадскай свядомасці грунтуецца, на першы погляд, «нягнуткая» палітыка кіраўніцтва ЛР. Таму і закон аб палітычных партыях у Літве зусім натуральны. Згодна яму партыі пастаўлены на ўзровень, які яны і павінны займаць у прававой дзяржаве: дэпартызавана вытворчасць, дзяржаўныя органы, войска. Партыйныя арганізацыі КПСС увогуле дыхаюць на ладан: з Новага года іх дзейнасць не дазваляецца, бо гэта «партыя замежнай дзяржавы». Не кажу ўжо пра іранічнасць, з якой у Вільні ўспрымалі мае пытанні наконт КПСС і КПЛ. Зрэшты, здаецца, такая манера становіцца правілам добрага тону.

І калі тамтэйшыя «бальшавікі» імкнуцца навязаць кіраўніцтву Літвы блізкі крах, урад і парламент рэспублікі метадычна будуюць сваю «абарону краю», свае дыпкорпус, заканадаўства.

Магчыма, «эканамізацыя» літоўскага грамадства напярэдадні агульнага крызісу Саюза якраз дасць фору жыхарам рэспублікі ў яго пераадоленні. Гэта мы, стоячы ў маўзалейных мінскіх чэргах, можам яшчэ памятаць пра «літоўскіх сепаратыстаў», маючы горшае становішча...

## Пра «тралейбусную псіхалогію»

Гэта — самая балючая старонка дыярыуша, бо — або добра, або — праўду.

Так, мы не знойдзем законаў ЛР, якія б забаранялі карыстанне рускай, беларускай і іншымі мовамі. Але «хуткатэрміновы» закон аб дзяржаўнасці літоўскай мовы не ўлічыў, што прызнана ў лістападзе парламентам, благога стану вывучэння мовы ў нелітоўскіх школах, выпускнікі якіх валодалі ёю гэтак жа, як іх калегі ў нас беларускай. Цяпер тэрміны вывучэння дзяржаўнай мовы павялічыліся да 5 гадоў, змякчыліся крытэрыі валодання мовай у раёнах, дзе «іншамоўнага» жыхарства большасць.

Але за год ужо наламана дроў на моўнай глебе, і ў большасці выпадкаў па самаініцыятыве кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў. Гэта і скарачэнне штатаў за лік «іншамоўных», і ліхаманкавае знікненне рускіх надпісаў на прыпынках грамадскага транспарту (а ў Вільні каля 50 % менавіта нелітоўцаў), і іншыя выбрыкі, пра якія мне давялося пачуць ад рускай жанчыны, што ўсё жыццё жыве і працуе ў Вільнюсе.

— Нават сталыя «іншамоўныя» жыхары пачалі адчуваць хваравітую ўвагу да іх з боку спрадвечных суседзяў-літоўцаў у доме, на працы, у грамадскім транспарце. У тралейбусе на зварот прабіць квіточак (па-руску) нейкае зацятае маўчанне, ці буркатанне па-літоўску не зусім у дружалюбным тоне. На працы літоўцы пачалі гуртавацца, «не заўважаць» іншамоўных. Могуць насмяяцца з памылак, якія робім, размаўляючы па-літоўску, заміж папраўкі. Такія з'явы Ландсбергіс называе «тралейбуснай псіхалогіяй» і заклікае не атаясамліваць яе з палітыкай кіраўніцтва, але мы жывём не ў парламенце, а якраз у тралейбусе, магазіне, натоўпе, дзе і нараджаюцца нашыя крыўды, а што можа быць больш балючае за іх?

Сапраўды, што можа быць больш балючае за крыўды? І мне застаецца толькі шчыра пажадаць літоўцам пазбавіцца «тралейбуснай псіхалогіі» і іншых грымас незалежніцкага руху, пакуль гэтыя грымасы не пачалі ўсур'ёз успрымацца за існасць новага палітычнага ладу ў Літве. Толькі тады янтарная рэспубліка будзе мець шанц урэшце наталіць смагу Свабоды.

●

Калі ўжо накіраваўся да вакзала, здарылася нечаканая паломка на тралейбуснай лініі, і прыйшлося лёгкім бегам, каб не спазніцца, дабірацца на цягнік (таксі цяпер — не па камандзіровачнай кішэніі). На вуліцах — гадзіны пік, усе прыпынкі запоўнены людзьмі, якія закончылі працоўны дзень. Але вільнюсцы не спяшаліся ісці дадому пехатою — бавілі час у гутарках, тым больш, што выдаўся цудоўны снежаньскі вечар з прыемным марозікам. Вільня любавалася сваёй ціішу і памяркоўнасцю, у якой мне заўжды мроіцца схаваная здань Пагоні.

# ВЫДАТНЫ ВУЧОНЫ-СЛАВІСТ

### Да 130-годдзя з дня нараджэння акадэміка Яўхіма КАРСКАГА

Яўхім Карскі — заснавальнік беларускай філалогіі, адзін з буйнейшых даследчыкаў рускай і іншых славянскіх моў, выдатны палеограф, гісторык, тэкстолаг, вядомы этнограф і фалькларыст. З яго імем звязана цэлая эпоха ў развіцці айчыннай і замежнай славістычнай навукі, у даследаванні кардынальных праблем агульнаўсходнеславянскага, а таксама заходне- і паўднёваславянскага мовазнаўства. Незвычайна плённымі з'яўляюцца здабыткі Я. Карскага ў галінах этнаграфіі і фалькларыстыкі славянскіх народаў. Яму належыць звыш 700 навуковых прац, у якіх асвятляюцца разнастайныя праблемы паходжання славянскіх народаў і моў, шляхі іх гістарычнага развіцця і ўзаемадзеяння. Сярод іх вылучаюцца фундаментальныя даследаванні па славянскай палеаграфіі — навуцы пра старажытную пісьмовую культуру славянскіх народаў, па мове найбольш вядомых пісьмовых помнікаў эпохі Кіеўскай Русі і пазнейшага перыяду, па гісторыі ўзнікнення і фарміравання мовы, вусна-паэтычнай творчасці, літаратуры і этнаграфіі беларусаў. Я. Карскі ўпершыню ў славянскай філалогіі стварыў абагульняючыя працы «Нарыс славянскай кірылаўскай палеаграфіі» і «Узоры славянскага кірылаўскага пісьма з X па XVIII ст.» (1901).

Вучоны жыва цікавіўся гісторыяй украінскай мовы і гістарычным мовазнаўствам, разглядаў факты роднасці ўкраінскай і іншых усходнеславянскіх моў. Ён глыбока вывучаў і даследаваў польскую, чэшскую, сербахарвацкую, балгарскую, старажытнацаркоўнаславянскую і іншыя мовы, пісаў артыкулы і рэцэнзіі па гэтых мовах.

**Але асаблівы інтарэс праяўляў вучоны да роднай яму беларускай мовы. Заслугі Я. Карскага перад беларускай філалогіяй выключныя. Фундаментальнае даследаванне «Беларусы» (т. 1—3, у 6-і кн., 1903—1922) — сапраўдная энцыклапедыя беларускага народа, роўнай якой, паводле агульнага прызнання аўтарытэтных вучоных, не было ні ў аднаго славянскага народа.**

Незвычайна каштоўныя працы акадэміка ў галіне вывучэння беларускай народнай мовы. Па сутнасці, ён першы сістэматычна і па адзінай, навукова строгай праграме абследаваў важнейшыя беларускія гаворкі і стварыў першую дыялектную карту Беларусі, што ў значнай меры садзейнічала далейшаму паспяховаму вывучэнню дыялекталагічных праблем. Грунтоўную распрацоўку атрымалі таксама пытанні фанетыкі, лексікі, марфалогіі і сінтаксісу беларускай мовы.

Шмат зроблена вучоным па даследаванні беларускай літаратурна-пісьмовай мовы, па вывучэнні моўных асаблівасцей мастацкіх твораў А. Рыпінскага, Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, творчай дзейнасці В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Лучыны, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Я. Купалы і іншых пісьменнікаў.

Усё гэта велічэзнае багацце ведаў пра беларускую мову, літаратуру і фальклор Я. Карскі зрабіў здабыткам сусветнай славістычнай навукі яшчэ ў канцы XIX — пачатку XX ст. На ўсім працягу творчага шляху ён быў верны прагрэсіўным кірункам у навуцы, заўсёды абапіраўся на дакладныя факты жывых моў і пісьмовых помнікаў, на даныя сумежных навук.

Вучоны валодаў выключнымі арганізатарскімі здольнасцямі, якія асабліва праявіліся ў гады яго дзейнасці ў Варшаўскім універсітэце і ў Акадэміі навук СССР. Ён выступаў за арганізацыю універсітэцкай адукацыі ў Беларусі, удзельнічаў у стварэнні Белдзяржуніверсітэта, запрашаў прафесараў для работы ў гэтай установе, падараваў універсітэту сваю унікальную бібліятэку. Прызнаннем вялікіх навукова-грамадскіх заслуг Я. Карскага было яго накіраванне на Міжнародны з'езд этнографаў (Прага, 1924), выбранне правадзейным членам Чэшскай Акадэміі навук (1929) і шматлікія акадэмічныя ўзнагароды і прэміі навуковых таварыстваў.

Я. Карскі памёр у 1931 г. на 71-м годзе жыцця.

Беларускі народ, навуковая грамадскасць аддаюць належнае высакародным заслугам і таленту вялікага вучонага. У рэспубліканскім і саюзным друку публікуюцца навуковыя працы, артыкулы, даведнікі аб ім. Прафесарам М. Булахавым падрыхтавана манаграфія аб жыццёвым і творчым шляху даследчыка. Дзейнічае школьны мемарыяльны музей Я. Карскага ў вёсцы Лошы Гродзенскага раёна, дзе нарадзіўся, вучыўся і жыў будучы вучоны. Лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР М. Рыжанковым створаны скульптурны партрэт акадэміка.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ.**



## ВІНШУЕМ!

**Споўнілася 50 гадоў беларускаму пісьменніку Міхасю Зарэмбу. «ЛіМ» зычыць юбіляру новых творчых поспехаў, здзяйснення ўсіх задум.**

# ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ

*Барыс Сачанка*

### (З цыкла «Постаці»)

**Сярод слаўных сыноў нашай Бацькаўшчыны імя Мітрафана Доўнар-Запольскага займае асаблівае месца, яно ўпісана залатымі літарамі ў культуру і навуку адразу трох народаў-братоў — беларускага, украінскага і рускага, як бы яшчэ раз іх збліжаючы, яднаючы. Па горкай іроніі лёсу, можа, таму ні адзін з гэтых народаў па-належнаму не ўшанаваў свайго выдатнага дзеяча, няйнакш, спадзеючыся, што гэта зробіць за яго хтосьці з суседзяў. Даўно не перавыдаюцца ні ў Мінску, ні ў Кіеве, ні ў Маскве і яго кнігі, хоць каштоўнасць іх была прызнана і пры жыцці аўтара, і пасля яго смерці. І імя шырокавядомага ў свой час і на Украіне, і ў Расіі, і ў Беларусі вучонага і педагога паступова забываецца, згадваецца ўсё радзей і радзей. Іншы раз нават ужо чуюцца пытанні: «А хто гэта такі Доўнар-Запольскі! Што ён зрабіў!..»**

НАРАДЗІЎСЯ Мітрафан Доўнар-Запольскі 14 чэрвеня 1867 года ў Рэчыцы.

**Рэчыца ў той час не была нават павятовым горадам. Павятовым горадам яна стала значна пазней. У канцы XIX стагоддзя Рэчыца ўваходзіла ў склад Мінскай губерні Расійскай імперыі і мела, калі верыць «Энциклопедическому словарю» Бракгаўза і Эфрона, «жыхароў 9332 (4620 мужчын і 4712 жанчын), з іх праваслаўных 37%, яўрэяў 59%, астатніх веравызнанняў каля 4%». У горадзе былі 2 праваслаўныя царквы, сінагога, прыходскае вучылішча, двухкласнае яўрэйскае вучылішча і некальні хедараў. «Россия. Полное географическое описание нашего Отечества», т. IX (С. -П., 1905) паведамляе, што «ў канцы XII ст. горад, які знаходзіўся на зямлі дрыгавічоў, ужо існаваў, быў умацаваным пунктам і належаў да Валынскага княства; потым ім авалодалі чарнігаўскія князі, а ў 1214 г. ён быў зусім знішчаны князем Мсціславам наўгародскім. У час Гедыміна Рэчыца ўвайшла ў склад літоўскай дзяржавы, а пазней неаднойчы бывалі ў Рэчыцы перакопскія татары». Асабліва цяжкія выпрабаванні выпалі на гэты горад у XVII ст., калі ішла вызваленчая барацьба украінскага народа супраць польскіх заваёўнікаў. Тады горад некалькі разоў бралі казакі, але кожны раз адступалі пад націскам літоўскага войска. У 1650 годзе Рэчыцу занялі казацкія загоны Небабы, але хутка пакінулі горад і ў бітве, якая адбылася непадалёку, пацярпелі паражэнне: сам Небаба загінуў. Літоўскае войска пасля гэтага ў Рэчыцы мела сваю галоўную стаўку, і тольні ў 1652 г. пакінула горад, кіруючыся пад Оршу, дзе яно было разбіта войскамі цара Аляксея Міхайлавіча; сама ж Рэчыца была далучана да Расіі.**

У бацькі Мітрафана Віктара Доўнар-Запольскага — дробнага ўрадоўца было тры дачкі і два сыны. Каб пракарміць сям'ю, ён вымушаны быў слухацца начальства. А яно рэдка было літасцівым да падначаленых. Невыпадкова рускі пісьменнік А. Грыбаедаў уклаў у вусны аднаго са сваіх герояў словы: «Служить бы рад, прислуживаться тошно». Неўзабаве пасля нараджэння Мітрафана бацьку перавялі на службу ў Мазыр — горад не на багата большы тады за Рэчыцу. Пераехала да бацькі і сям'я Доўнар-Запольскіх. Аднак папрацаваць у гэтым горадзе доўга бацьку не давялося — памёр. Маці і пяцёра дзяцей засталіся ў страшэннай нястачы. Невядома, як бы жылося на новым месцы Мітрафану, ці змог бы ён вучыцца, калі б не старэйшая сястра Аляксандра. Яна якраз выйшла замуж і пераехала з мужам у Баранавічы. Каб хоць нечым дапамагчы маці, яна забрала з сабою і меншага свайго брата Мітрафана. Там, у Баранавічах, Мітрафан вучыўся спярша ў гарадской школе, потым — у прагімназіі.

НАВУКОВЫЯ інтарэсы ў Доўнар-Запольскага выявіліся рана. Яшчэ будучы семнаццацігадовым юнаком, ён пачаў вандраваць па вёсках і запісваць народныя песні, казкі, прымаўкі. Вядома, ходзячы ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты, бываючы ў самых розных сем'ях, ён не мог не бачыць, у якіх умовах, як цяжка, у штодзённых нястачах, галечы бядуюць людзі. І не толькі ў сельскай мясцовасці, але і ў горадзе, які ён таксама добра ведаў, бо ўжо тады, каб памагчы сястры і маці, зарабляў сабе на хлеб настаўніцтвам і чытаннем лекцый. Ці не гэта і прымусіла Доўнар-Запольскага задумацца над сэнсам жыцця, шукаць шляхоў выхаду з такога бядотнага становішча. Ён знаёміцца з радыкальна-настроенай моладдзю, уступае ў адну з арганізацый, якая стаяла на пазіцыях, блізкіх да «Народнай волі». Гэтая арганізацыя была раскрыта царскай ахранкай, і Мітрафана Віктаравіча пазбаўляюць магчымасці вучыцца далей. Але ён не ўпаў духам. Звязаўшыся з рэдакцыяй газеты «Минский листок», пачаў пасылаць туды свае артыкулы па гісторыі і этнаграфіі роднага краю. Менавіта тады ў нарысе «Ад Кіева да Рагачова» («Минский листок», 1887, № 64) ён піша пра неабходнасць выдаваць літаратуру на беларускай мове. Праўда, робіць гэта асцярожна — свае думкі і словы ўкладвае ў вусны селяніну. У 1888 г. Доўнар-Запольскі выдае ў Маскве «Северо-Западный календарь» — у ім малады вучоны змяшчае вялікую колькасць сваіх прац на самыя розныя тэмы. (Частку іх ён перадрукаваў потым у кнізе «Исследования и статьи», т. 1 (Кіеў, 1909), агаварыўшыся, што «аўтар не можа не ўсведамляць вядомага роду няёмкасці, звязанай з перавыданнем прац, што з'явіліся ўпершыню даволі даўно, пры вялікай беднасці літаратуры, і недапоўнены навейшымі матэрыяламі, якія іншы раз абапіраюцца на вывады навукі, што цяпер аспрэчваюцца; [. . .] не без вагання аўтар сабраў у адзін том артыкулы, частка якіх прызначалася для мясцовых газет і, значыцца, падвергнута была вядомай паспешлівай рабоце і нават больш—усё гэта артыкулы, якія адносяцца да вельмі ранняга перыяду навуковай дзейнасці іх аўтара».)

Што ж гэта былі за працы? Перш за ўсё яны прысвячаліся даследаванню вуснай народнай творчасці мовы, побыту і абрадаў беларусаў, іх самабытнасці культуры. Былі там і артыкулы пра мастацкую літаратуру, створаную беларусамі на іх роднай мове — напрыклад, артыкул пра вершаваную аповесць В. Дуніна-Марцінкевіча «Гапон» з фактычна поўным яе перадрукам («Гапон», аповесць у вершах на беларускай мове В. Дуніна-Марцінкевіча. З гісторыі беларускага пісьменства). Варта вылучыць некаторыя думкі і вывады маладога вучонага (тады яму было 21 год!) якія ён прапаведаваў у сваіх працах, а. найперш, што беларуская мова не з'яўляецца «сумессю» польскай мовы з вялікарускай, а «складае, як паказалі вучоныя даследаванні, самастойную галіну славянскай мовы». Гэта было даволі смелае, рэвалюцыйнае сцвярджэнне асабліва калі ўлічыць, што беларускай мове адмаўлялі ў праве на існаванне, яе ўжываць у друку забараніў цар Мікалай I спецыяльным указам, і мова беларуская інакш і не называлася, як «наречие».

Доўнар-Запольскі вельмі ўважліва чытае ўсё, што пісалася пра родны яму край, сочыць за развіццём поглядаў на Беларусь як рускіх, так і польскіх, украінскіх вучоных. У «Виленским вестнике» (1889, № 81) ён піша: «Палякі лічылі іх амаль што не Польшчаю, вялікарусы Вялікарасіяй і нават маларусы, у асобе львоўскага праф. О. Аганоўскага (у яго «Гісторыі маларускай літаратуры»), прызнавалі беларусаў амаль маларусамі». Ён вітае новыя этнаграфічныя працы Пыпіна, Шэйна, Раманава, Карскага, Янчука, якія далі аб'ектыўнае ўяўленне аб Беларусі і беларускім народзе, радуецца, што вывучэннем свайго краю пачынаюць займацца самі беларусы. «Навука беларуская слабая, яшчэ толькі ў зародку, прытым у большай частцы ўрывачная, выпадковая і раскіданая, няма агульнай ідэі, якая была б кіруючай у гэтых работах, няма ядра, каля якога маглі б групавацца дзеячы, нарэшце, нямала перашкаджаюць справе аднабакова-тэндэнцыйныя погляды на Беларусь, што паявіліся ў польскай і рускай літаратурах». Але разам з тым, адзначае ён, у працах беларускіх вучоных ёсць тое, чаго няма ў працах польскіх, рускіх і ўкраінскіх вучоных, а менавіта — у іх працах ёсць «сімпатычныя, любоўныя адносіны да справы і краіны, што даходзяць іншы раз да самаахвярнасці», ёсць «аб'ектыўнасць» і «навуковы пункт погляду». Каб паспяхова развівалася беларуская навука, неабходна стварыць на Беларусі навуковыя таварыствы, адкрыць свой універсітэт, які стаў бы мясцовым навуковым цэнтрам.

У 1890—1891 гг. Доўнар-Запольскі праводзіць надзвычай плённую экспедыцыю па Мінскай і Гродзенскай губернях, вывучае па даручэнні Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі фальклор і побыт жыхароў гэтых губерняў, бо, як ён пісаў, «у вывучэнні быту народаў і заключаецца галоўны інтарэс гісторыі». У выніку гэтай экспедыцыі на старонках «Віленскага вестника» (1890—1891) з'явіліся яго «Нататкі з вандраванняў па Беларусі», у якіх разглядаюцца важнейшыя пытанні жыцця і культуры беларускага народа, паказваецца тое невыносна цяжкае становішча, у якім апынуліся беларусы, трапіўшы з аднаго сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту — польскага — у другі — царскі, рускі. Вучоны і грамадзянін — сын свайго народа Мітрафан Доўнар-Запольскі абараняе селяніна, піша, што селянін толькі з тым будзе шчыры, хто падыдзе да яго «не як «пан», а як звычайны смяротны. «Безумоўна, гаварыць пра тое, што ў нашага селяніна «ёсць сэрца» ці «няма сэрца», пра што спрачаліся польскія этнографы, на нашу думку, нават смешна. Быццам селянін у маральных адносінах не такі ж чалавек, як і ўсе мы»,— восб да якога вываду прыходзіць вучоны.

Імя Мітрафана Віктаравіча Доўнар-Запольскага робіцца вядомым у навуковых колах. Яму даззваляюць здаць экзамены на атэстат сталасці, і ў 22 гады ён, нарэшце, паступае на гісторыка-філалагічны факультэт Кіеўскага універсітэта.

**(Працяг на стар. 14—15).**

# ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ

(Пачатак на стар. 13).

**Кіеўскі універсітэт, ці, як тады яго называлі, універсітэт Святога Уладзіміра, перажываў свае лепшыя гады. У ім працавалі многія выдатныя вучоныя, сярод іх і аўтар грунтоўных даследаванняў «Аб казацтве», «Аб уніі», «Аб прамысловасці Паўднёва-Заходняга краю», «Аб курганах» і інш. Уладзімір Баніфацыевіч Антановіч, у семінары якога і займаўся Мітрафан Доўнар-Запольскі. Менавіта па заданні У. Б. Антановіча ён напісаў у тыя гады «Нарыс па гісторыі крывіцкай і дрыгавіцкай зёмляў да канца XII ст.», за які быў узнагароджаны залатым медалём.**

Як вучоны Доўнар-Запольскі прымыкаў да так званай «Западно-русской школы», у якой былі два накірункі. Правае яе крыло,— спярша Гаворскі, Каяловіч, потым Саланевіч, Пшчолка, Кулакоўскі, Бажэлка, Кавалюк і інш.— выдавалі пры падтрымцы царскага ўрада газеты і часопісы («Вестник Западной России», «Крестьянин», «Окраина России», «Северо-Западная жизнь»), на старонках якіх даказвалі, што Беларусь — край цалкам рускі і яго трэба як найхутчэй вярнуць у «русское лоно». Што ж датычыць левага крыла, у якое ўваходзілі Насовіч, Нікіфароўскі, Шпілеўскі, Сапуноў, Раманаў, Любаўскі, Даўгяла, Доўнар-Запольскі і іншыя, дык яно не мела ніякай падтрымкі з боку царскіх улад, свае працы гэтыя вучоныя выдавалі, як правіла, за свой кошт, бо спрабавалі даказаць і польскім вучоным, і некаторым «северо-западникам», што край беларускі — гэта своеасаблівы край, і беларусы — самастойнае адгалінаванне славянства. Яны захапляліся беларусамі, якія, нягледзячы на стагоддзі ўціску як з боку польскіх паноў, так і з боку рускіх чыноўнікаў, не страцілі самабытнасці, захавалі сваю мову і культуру. Гэтыя вучоныя — не дылетанты, палітыканы, а сапраўдныя, «божай міласці», запісвалі песні і казкі, даследавалі абрады, побыт, складалі слоўнікі, імкнуліся паказаць, наколькі самастойныя ў беларусаў духоўная і матэрыяльная культура, што ў беларусаў ёсць не «наречие», а свая мова, якая адрозніваецца і ад рускай мовы, і ад польскай, і тым самым абуджалі свядомасць, заклікалі беларусаў да нацыянальнага і культурнага адраджэння. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што, калі Доўнар-Запольскі скончыў універсітэт, яму не дазволілі займацца педагагічнай дзейнасцю ў Кіеўскай навучальнай акрузе, дзе нацыянальнае пытанне стаяла не менш востра, чым у Беларусі. Што было рабіць? Доўнар-Запольскі паехаў у Маскву, каб пакапацца ў архівах, падрыхтавацца да абароны дысертацыі. Даводзіцца толькі здзіўляцца, колькі і як плённа працаваў гэты чалавек! Архівы далі надзвычай багаты матэрыял для яго навуковых даследаванняў. Асабліва захапілі яго матэрыялы з гісторыі Беларусі часоў Вялікага княства Літоўскага. Адна за адной выходзяць яго кнігі — «Документы Московского Архива Министерства юстиции», т. I (М., 1897), «Польско-Литовская уния на сеймах до 1569 года» (М., 1898), «К истории поземельной реформы в Ливонии 1580—1582 гг.» (М., 1899).

У ГЭТЫЯ ГАДЫ Доўнар-Запольскі некалькі разоў наведвае Беларусь, працуе ў бібліятэцы і архівах Храптовічаў. Як вынік гэтых надзвычай плённых паездак у родныя мясціны з'явіліся яго працы па беларускай этнаграфіі на старонках «Этнографического обозрения». Доўнар-Запольскага выбіраюць рэдактарам часопіса «Труды», які быў заснаваны па яго ж ініцыятыве Археаграфічнай Камісіяй Імператарскага Рускага Археалагічнага таварыства. Аднак Доўнар-Запольскі не задавальняецца гэтым, а, наадварот, пашырае сваю навуковую дзейнасць. У 1900 г. ён друкуе «Акты Литовского государства» (т. I), а ў 1901 г.— «Государственное хозяйство Великого княства Литовского при Ягеллонах». Абараняе магістарскую дысертацыю і адразу ж бярэцца пісаць доктарскую, якую таксама неўзабаве абараняе з поспехам.

Сваю навуковую працу ён спрабуе спалучаць з педагагічнай — выкладае ў жаночых гімназіях Масквы, у Маскоўскім універсітэце, а потым, праз некаторы час, вярнуўшыся ў Кіеў, выкладае гісторыю ў той самай установе, якую некалькі гадоў таму назад скончыў,— ва універсітэце Святога Уладзіміра.

Круг інтарэсаў Доўнар-Запольскага тым часам пашыраецца і пашыраецца. Разам з даследаваннем гісторыі роднага краю ён шмат увагі аддае вывучэнню тайных архіваў, да якіх якраз у гэтыя гады быў дазволены допуск,—яны датычылі дзекабрыстаў. Яго працы—«Идеалы декабристов» (М., 1907), «Мемуары декабристов (Записки, письма, показания, проекты конституций, извлеченные из следственного дела, с вводной статьей)» (К., 1907), «Тайное общество декабристов» (М., 1907) і інш. чытаюцца наўзахапкі ўсёй перадавой інтэлігенцыяй Расіі, а яго лекцыі пра «тайныя таварыствы» прыносяць яму небывалы поспех сярод студэнцкай моладзі. Леў Талстой, які апублікаваў у 1884 г. раздзелы з незакончанага рамана «Дзекабрысты», меў некалькі сустрэч і працяглых гутарак з Доўнар-Запольскім на тэму, якая яго даўно і глыбока цікавіла, і Мітрафан Віктаравіч у гэты час быў частым госцем у доме Талстых у Хамоўніках. Пазнаёміліся ж яны, калі меркаваць па «Дзённіку» аўтара «Вайны і міра», значна раней і вось пры якіх акалічнасцях.

**З ухвалення і пры гарачай падтрымцы Л. Талстога яго блізкі знаёмы, супрацоўнік «Посредника» П. А. Буланжэ збіраўся выдаваць часопіс «Утро», афіцыйным рэдактарам якога згадзіўся быць М. В. Доўнар-Запольскі. Каб, мабыць, абмеркаваць напрамак і ўсе дэталі гэтага выдання, П. А. Буланжэ 20 жніўня 1890 г. з «рэдактарам» наведаў пісьменніка, пра што той пакінуў запіс у сваім «Дзённіку» («Учора быў Буланжэ з рэдактарам»). На жаль, выданне часопіса было забаронена царскім урадам.**

У 1903 г. Доўнар-Запольскі заснаваў Гісторыка-этнаграфічны гурток, членамі якога былі не толькі студэнты, але і некаторыя прафесары. Гісторыка-этнаграфічны гурток выдаваў «Университетские Известия» і зборнікі навуковых прац. Усяго выйшла 10 такіх зборнікаў.

Рэвалюцыя 1905—1907 гг. садзейнічала росту папулярнасці вучонага. Якраз у гэтыя гады ён разам з іншымі прагрэсіўна настроенымі людзьмі арганізоўвае ў Кіеве Вышэйшыя жаночыя курсы, дзе атрымлівае кафедру, потым, праз год, ён заснаваў Вышэйшыя Камерцыйныя курсы, якія вельмі хутка былі ператвораны ў Камерцыйны інстытут. (Другі ў Расіі!) Дырэктарам гэтага інстытута быў выбраны Доўнар-Запольскі.

Рос яго аўтарытэт і як вучонага. І не толькі ў Расіі, на Украіне, але і ў Беларусі. Пра гэта сведчыць факт выдання яго кнігі «Исследования и статьи», у якую ўвайшлі яго лепшыя працы. Бачыць гэтыя працы сабранымі ў адной кнізе вельмі ж хацеў вядомы даследчык Віцебшчыны, дэпутат Дзяржаўнай Думы А. П. Сапуноў. Жывучы ў Беларусі, А. П. Сапуноў, можа, як мала хто, адчуваў напружанае дыханне, крокі той «агромністай» грамады, пра якую пісаў у 1905—1907 гг. Янка Купала ў вершы-гімне «А хто там ідзе?» (верш гэты, як вядома, адразу ж пасля з'яўлення ў друку, пераклаў на рускую мову Максім Горкі):

**А хто там ідзе, а хто там ідзе,**
**У агромністай такой грамадзе?**
**— Беларусы.**
**. . . . . . . . .**
**А хто гэта іх, не адзін мільён,**
**Крыўды несць навучыў, разбудзіў іх сон?**
***— Бяда, гора.***
**А чаго ж, чаго захацелася ім,**
**Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?**
**— Людзьмі звацца.**

Так, ні Доўнар-Запольскі, ні А. П. Сапуноў, ні некаторыя іншыя вучоныя левага крыла «западно-руссизма» не прымкнулі да таго нацыянальна-вызваленчага руху, што звязаны быў з Беларускай Сацыялістычнай Грамадой і выданнем газеты «Наша Ніва». Але яны, гэтыя вучоныя, рабілі ўсё магчымае, каб рух гэты нарадзіўся, пашыраўся, аказвалі яму ўсякую падтрымку і дапамогу. Невыпадкова гісторык Савецкай Беларусі, акадэмік В. К. Шчарбакоў у трыццатыя гады, калі ішоў у рэспубліцы пагром усяго нацыянальнага, яднаў імёны Доўнар-Запольскага, А. П. Сапунова і іншых вучоных левага крыла «западно-руссизма» з імёнамі кіраўнікоў нацыянальна-вызваленчага руху Ластоўскім, Цвікевічам, Ігнатоўскім.

**«Ужо ў 1910 г. у Вільні выйшла першая кніжка вядомага контррэвалюцыянера Ластоўскага — «Кароткая гісторыя Беларусі», — пісаў ён. — Некалькі пазней, у 1917 г., пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1918 г. і ў пазнейшыя часы следам за Ластоўскім выступае цэлы рад другіх беларускіх гісторыкаў-нацыяналістаў, гісторыкаў нацыянал-дэмакратаў. Самымі віднейшымі і контррэвалюцыйнымі гісторыкамі нацыянал-дэмакратамі былі: Ластоўскі, Доўнар-Запольскі — былы гісторык-вялікадзяржаўнік, Цвікевіч, Ігнатоўскі, Турук і цэлы рад іншых іх вучняў...**

**Беларускія гісторыкі нацыянал-дэмакраты ідэалізавалі далёкае мінулае Беларусі, паказваючы яго як самыя шчаслівыя часы, як ідэал жыцця. Рабілі яны гэта зноў толькі для таго, каб падкрэсліць, што цяперашняя ўлада і цяперашнія парадкі, г. зн. савецкая ўлада, дыктатура пралетарыяту, не падыходзяць быццам для цяперашняга насельніцтва. Гэтыя гісторыкі паказвалі ў лепшых фарбах, ідэалізавалі дробнабуржуазныя нацыяналістычныя беларускія партыі, напрыклад, такую, як БСГ, ідэалізавалі буржуазную беларускую інтэлігенцыю, герояў беларускага шляхецтва накшталт Кастуся Каліноўскага...**

**І недарма амаль усе гэтыя гісторыкі з'яўляліся членамі контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, раскрытай у нас у 1930 і ў 1931 гг...**

**Характэрна адзначыць, што беларускія гісторыкі нацыянал-дэмакраты пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працавалі рука аб руку з рускімі буржуазнымі гісторыкамі-вялікадзяржаўнікамі... Звярыная нянавісць і тых і другіх да савецкай улады і пралетарскай рэвалюцыі згуртоўвала іх у адзін лагер контррэвалюцыйных гісторыкаў. І недарма рад былых гісторыкаў-вялікадзяржаўнікаў, папаўшых да нас у Савецкую Беларусь пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, перайшлі на службу да нацыянал-дэмакратаў.**

**Такімі гісторыкамі з'яўляюцца: Доўнар-Запольскі, Пічэта. Гісторыкі нацыянал-дэмакраты хвалілі, працягвалі рукі гісторыкам-вялікадзяржаўнікам, напрыклад, Карскаму, таму ж Любаўскаму, А. Цвікевіч гісторыкаў-чарнасоценцаў, судзеячоў Мураўёва-вешацеля, паказваў нават як заснавацеляў беларускага нацыянальна-культурнага руху.**

**Работы ўсіх гэтых варожых нам гісторыкаў мы павінны адкінуць». (В. К. Шчарбакоў, «Нарыс гісторыі Беларусі», ч. 1, Мн., 1934, стар. 13—15).**

З прыкладна такімі ж абвінавачваннямі на адрас Доўнар-Запольскага, толькі на два гады раней, выступіў яшчэ адзін вульгарызатар і граміла беларускай культуры С. Вальфсон, называючы яго «ідэёвым бацькам» нацдэмаў, вялікім рамантыкам нацдэмаўскага адраджэння» («Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі», Мн., 1932, стар. 72).

**«Найбольш яскравым прыкладам таго, як дзівосна злучаюцца і ўжываюцца часамі нават у адной асобе расійскі і беларускі шавінізм, можа служыць фігура Доўнар-Запольскага, аб якім можна сказаць словамі Фауста, што дзве душы жывуць у яго грудзях, — пісаў С. Вальфсон. — Пры гэтым нават цяжка сказаць, якая з душ Доўнар-Запольскага сапраўдная, нутраная: вялікадзяржаўная ці нацдэмаўская. Настолькі трывала ў гэтым прафесары амальгама дзвюх надворна-працілеглых, але па сутнасці справы глыбока родных адна другой, аб'яднаных адзінаю клясаваю прыродаю, нацыяналістычных ідэалогій». (Тамсама, стар. 84).**

В. Шчарбакоў, С. Вальфсон і ім падобныя ведалі, што рабілі. Бо той жа, як яго называе В. Шчарбакоў, «гісторык-чарнасоценец», «вялікадзяржаўнік» А. Сапуноў, напрыклад, будучы дэпутатам Дзяржаўнай Думы, куды яго выбралі дзякуючы настаўнікам, знайшоў у сабе мужнасці не пагадзіцца са Сталыпіным, які 27 красавіка 1911 г. з трыбуны 3-й Думы заявіў: «Заходні край ёсць і будзе краем рускім назаўсёды, навекі!» Вось што адказаў яму «чарнасоценец», «вялікадзяржаўнік» А. Сапуноў: «Усе, нават самыя малыя народнасці, імкнуцца цяпер да самавызначэння; за імі ўсе прызнаюць права на гэта. Толькі адна народнасць, народнасць беларуская, не смее думаць пра гэта». Ён жа, той самы «чарнасоценец», «вялікадзяржаўнік» А. Сапуноў, у сваім рэфераце «Белоруссия и белорусы», прачытаным у Віцебскай Архіўнай Камісіі 26 кастрычніка 1910 г. (выдадзены асобным выданнем, Віцебск, 1910), казаў: «Я заклікаю Беларусь да самавызначэння, да нацыянальнага ўсведамлення, да адроджанай будучыні, якая будзе ў руках у беларусаў».

Доўнар-Запольскі, А. Сапуноў, іншыя гісторыкі левага крыла «западно-руссизма» рабілі ўсё, што было ў іх сілах, каб Беларусь і беларусы занялі свой пачэсны пасад між краінамі і народамі. А паколькі гэта непатрэбна было ні В. Шчарбакову, ні С. Вальфсону, то яны і грамілі, не выбіраючы вельмі слоў і не шукаючы доказаў у пацвярджэнне сваіх думак усіх, хто ім хоць чымсьці не падабаўся.

АЛЕ ВЕРНЕМСЯ да Доўнар-Запольскага, яго кнігі «Исследования и статьи». У яе ўвайшло каля 20 прац вучонага пра родны край—даследаванні па этнаграфіі, сацыялогіі, звычаёваму праву, статыстыцы, беларускаму пісьменству. Каштоўнасць гэтых прац нельга пераацаніць, большасць іх і цяпер чытаюцца, быццам толькі што напісаныя. Вось толькі назвы некаторых з іх: «Нарысы сямейнага звычаёвага права сялян Мінскай губерні», «Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках», «Рытуальнае значэнне каравайнага абраду ў беларусаў», «Жаночая доля ў песнях пінчукоў», «Гапон», аповесць у вершах на беларускай мове В. Дуніна-Марцінкевіча (з гісторыі беларускага пісьменства), «Беларусы. Этнаграфічны нарыс», «Заўвагі аб беларускіх гаворках» і інш.

У 1910 г. Доўнар-Запольскі заснаваў у Кіеве таварыства Аматараў сацыяльных ведаў, членамі якога сталі выдатныя дзеячы тагачаснай навукі. Пры таварыстве ўзнікла некалькі секцый — гістарычная, педагагічная, права. Вялікая і разнастайная арганізатарская і педагагічная дзейнасць на перашкаджала навуковай працы. Паралельна з кнігамі, прысвечанымі дзекабрыстам, выходзілі іншыя яго кнігі, такія, напрыклад, як «Материалы для истории крепостного права в России» (К., 1905), «Украинские староства в первой половине XVI ст.», (К., 1908), «Баркулабовская летопись» (М., 1909). «Из истории общественных течений в России» (К., 1910), «Белорусское Полесье. Пинчуки», т. I (К., 1911), «Обзор новейшей русской истории», т. I (К., 1912). У 1910—1914 гг. пад яго рэдакцыяй выйшлі тры тамы «Русской истории в очерках и статьях» і «Историко-культурный атлас по русской истории» Н. Палонскай.

Першая сусветная вайна, якая ўспыхнула ў 1914 г., перапыніла плённую навуковую і педагагічную дзейнасць Доўнар-Запольскага. Камерцыйны інстытут і універсітэт, як толькі фронт наблізіўся да Кіева, пераехалі ў Саратаў. Разам з гэтымі ўстановамі вымушаны быў пераехаць у Саратаў і Доўнар-Запольскі. Сям'і з сабою ён не браў, няйнакш меркаваў, што пераезд гэты будзе нядоўгі. Яго жонка Надзея Маркелаўна (дзявочае прозвішча Зайферт) засталася ў Кіеве. У Кіеве засталіся дачка і два сыны Доўнар-Запольскага — Вячаслаў і Ўсевалад.

ПА СВАІХ ПОГЛЯДАХ Доўнар-Запольскі быў перадавы чалавек, вельмі часта цярпеў за гэта ад кансерватыўных сіл. І калі вучыўся, і потым, калі працаваў. З прыходам жа рэвалюцыі становішча памянялася — яго раптам залічылі ў стан ворагаў. Што гэтаму пасадзейнічала? Па-першае, яго дырэктарства ў Камерцыйным інстытуце. Справа ў тым, што пакуль Камерцыйны інстытут не быў дзяржаўнаю ўстановаю, там было куды больш розных вольнасцей, чым у іншых навучальных установах. Напрыклад, у інстытут прымалі без абмежаванняў яўрэяў (ва ўсіх дзяржаўных установах прытрымліваліся так званай працэнтнай нормы). Калі ж па настаянні студэнтаў і выкладчыкаў інстытут быў зарэгістраваны як дзяржаўны, давялося ліквідаваць многія вольнасці, у тым ліку абмежаваць паводле ўстаноўленых нормаў і прыём у інстытут яўрэяў... Па-другое, два яго сыны прымкнулі да бальшавікоў, сталі актыўнымі рэвалюцыянерамі. Гэта адбылося не без уплыву аднаго з кіраўнікоў бальшавіцкага падполля В. Затонскага, які ў адсутнасць самога Доўнар-Запольскага зачасціў у іх дом, бо да яго праяўляла пэўныя сімпатыі Надзея Маркелаўна, жанчына прывабная і экстравагантная. Сыны не прынялі бацьку пасля яго звароту з Саратава. Не толькі дома, але і на вуліцы, на мітынгах пачалі называць яго «чарнасоценцам», «рэакцыянерам». Аднойчы, калі Доўнар-Запольскі прыйшоў у інстытут, ён убачыў дзверы свайго кабінета апячатанымі. Яму забаранілі там працаваць. У яго адсутнасць правялі над ім суд. У віну ставілася, што ён пазбавіў студэнтаў і выкладчыкаў некаторых ранейшых вольнасцей і зменшыў нормы прыёму ў інстытут яўрэяў. Была паднята і яго перапіска з губернатарам, дзе ён прасіў, па прыкладзе іншых навучальных устаноў горада, увесці ў інстытуце прысутнасць паліцыі. Акт абвінавачвання і прысуд былі перададзены ў Савет салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Сябрам і знаёмым з вялікай цяжкасцю ўдалося прыпыніць справу,

Тое, што здарылася з Доўнар-Запольскім, надта ж узрадавала яго ворагаў. Многія ж з іх лічылі яго самога ледзь не бальшавіком. А тут выявілася: бальшавікі яго не прынялі, вядуць з ім барацьбу. Рэакцыянеры самых розных масцей проста здзекаваліся з вучонага, цкавалі яго. Вялікую непрыемнасць прыносілі і сыны — старэйшы, Усевалад, тады займаў ужо высокае месца ў партыйнай вярхушцы, актыўнічаў і меншы, Вячаслаў. Праўда, развязка з сынамі ў Доўнар-Запольскага адбылася нечаканая і трагічная — меншы сын Вячаслаў памёр вясною 1919 г. ад тыфу, а старэйшы Усевалад загінуў ад куль белагвардзейцаў у пачатку 1920 г.

Жыццё ў Кіеве ўсё больш ускладнялася. Мяняліся ўлады, прыходзілі то адны, то другія заваёўнікі. У снежні 1919 г., калі да Кіева набліжаліся бальшавікі, Доўнар-Запольскі пакінуў горад, паехаў у Новачаркаск, дзе жылі яго дачка і сястра, каб там, у Новачаркаску, прадоўжыць пачатую яшчэ ў Кіеве перапіску з дзеячамі і прафесарамі Сімферопаля аб адкрыцці ў іх горадзе універсітэта. Універсітэт у Сімферопалі быў адкрыты, але... хоць і паводле яго, Доўнар-Запольскага праекта, ды без яго самога: у дарозе ён цяжка захварэў і апынуўся не ў Новачаркаску, як планаваў, а ў Керчы. Выгляд у яго быў не пралетарскі, хутчэй «буржуйскі», і калі Керч занялі бальшавікі, яны арыштавалі вучонага і накіравалі ў Харкаў, які ў той час быў сталіцай Украіны, каб там разабраліся, што з ім рабіць. Зноў з вялікімі цяжкасцямі сябрам і зна-

ёмым удалося вызваліць вучонага з ЧК, уладкаваць на працу ў Інстытут народнай гаспадаркі. Адчуваў сябе Доўнар-Запольскі няўтульна ў Харкаве. Усё ж быў ён не ўкраінец, а да такіх у тыя гады былі там свае адносіны. І, як толькі надарылася магчымасць, ён пакінуў Харкаў, паехаў у Баку, каб там узначаліць кафедру гісторыі ў Азербайджанскім універсітэце.

У Азербайджане Доўнар-Запольскі працаваў не толькі ва універсітэце, але і дырэктарам сельскагаспадарчага і гандлёвага музея, начальнікам кіраўніцтва прамысловасці і гандлю Наркамата прамысловасці і гандлю Азербайджанскай ССР.

НЕ УСЁ, ШТО РАБІЛАСЯ ў тыя гады ў Беларусі, даходзіла тады ў Азербайджан да Доўнар-Запольскага. Падзеленая несправядлівым Рыжскім мірам 1921 г. на дзве часткі — Заходнюю і Савецкую («Нас падзялілі чужынцы ліхія, чорных дарог махляры», — пісаў пра гэта Якуб Колас), яна залечвала раны, нанесеныя ёй імперыялістычнай і грамадзянскімі войнамі. Калі ў Заходняй яе частцы, якая трапіла пад панскую Польшчу, падаўлялася ўсё нацыянальнае, дык у Савецкай ішло будаўніцтва першай у гісторыі беларусаў сваёй самастойнай дзяржавы. Якраз тое, пра што не адзін ён, Доўнар-Запольскі, марыў. Нават быў напісаў і выдаў у 1919 г. у Гародні брашуру «Асновы дзяржаўнасці Беларусі»*.

«Часамі даводзіцца чуць, — пісаў Доўнар-Запольскі ў гэтай брашуры, — як быццам вагаючыся і сумляваючыся галасы: ці можа беларускі народ стварыць сваё асобнае і ні ад кога не залежнае гаспадарства (гасударства) або прынамсі ўвайсці ў саюз гаспадарстваў як федэрацыйная частка?.. Гэткія ваганні і сумлёўкі вынікаюць з незнаёмства людзей з роднай мінуўшчынай і з не даволі поўнай ацэнкі культурнае стойкасці беларускага народа. Часамі також іншыя сумляюцца: дый ці ж было калі нашае беларускае гаспадарства? Праўда, пад гэткім назовам яно не існавала, як не існавала ў цяперашняй форме гаспадарства: Італьянскае, Бельгійскае, Украінскае і інш. Але беларусы становілі крэпкае збудаванае гаспадарства, зложанае з беларускіх пляменняў, так званае Літоўскае Русі, злучаных з Літоўскім княствам. І Беларусь, як зараз убачым, толькі зусім нядаўна ўтраціла сляды свае даўнейшае крэпкае і стойкае гаспадарственнасці (гасударственнасці), меўшай такія праявы развіцця, якімі мы можам толькі пахваляцца з гордасцю і павінны дабівацца аднаўлення іх.

Асновы беларускае гаспадарственнасці глыбока заложаны ў самім беларускім народзе і апіраюцца на моцных фундаментах — гістарычных, этнаграфічных, лінгвістычных і эканамічных. Яны выяўляюцца ўва ўсёй мінуўшчыне Беларусі, яны ёсць у беларусаў і цяпер, захаваны глыбока ў народных масах...»

І Доўнар-Запольскі гэта паказвае на фактах на працягу ўсёй гісторыі існавання беларускага народа. І вывад у яго адзін:

«Увесь беларускі рух апошняга часу ажно да Усебеларускага з'езда ў Мінску ў снежні 1917 года сведчыць аб здольнасці да жыцця беларускае нацыянальнасці і аб крэпкай звязі яе з гаспадарственнай незалежнасцю... Народ, каторы праз колькі сот гадоў самага цяжкага гістарычнага жыцця, нягледзячы на вострую нацыянальную барацьбу і на ўціск урадам наидужэйшага на свеце гаспадарства не ўтраціў свае нацыянальнае самастойнасці — народ, меўшы праз некалькі сталеццяў сваю гаспадарственную незалежнасць — народ каторы мае вытвараную вякамі культуру і літаратуру, свае ярнія асобеннасці этнаграфіі і языка, — такі народ мае і цяпер усе правы на гаспадарственную незалежнасць.

Неаднаразова выступаў Доўнар-Запольскі з артыкуламі на гэту тэму і ў перыядычным друку. Нездарма Максім Гарэцкі пісаў пра яго:

«У часе рэвалюцыі прафесар цвёрда стаў на грунце незалежнай гаспадарственнасці Беларусі, аб патрэбе якой таленавіта і пераканаўча даводзіў у кіеўскай і другіх беларускіх газетах, а таксама ў асобнай брашуры «Асновы дзяржаўнасці Беларусі», надта пашыранай сярод беларусаў і перакладзенай на еўрапейскія мовы». («Гісторыя беларускай літаратуры», М.-Л., ДВ. 1924, стар. 220—221).

І вось мара збываецца — Беларусь, хоць і не ўся, атрымала магчымасць сама ладзіць сваё далейшае жыццё, ствараць сваю дзяржаву. У Мінску быў адкрыты, працаваў ужо Беларускі дзяржаўны універсітэт, Інстытут беларускае культуры, дзяржаўнае выдавецтва і многае іншае. Беларускі савецкі ўрад звярнуўся з адозвай да ўсіх беларусаў, дзе б хто ні жыў, вярнуцца дадому і аказаць дапамогу маладой рэспубліцы ў яе дзяржаўным і культурным будаўніцтве. Аб сваім самароспуску аб'явіў, сабраўшыся ў Берліне, і ўрад БНР. У сталіцу Савецкай Беларусі вярталіся многія вядомыя людзі — вучоныя, гаспадарнікі, тэхнічная інтэлігенцыя, сярод іх і дзеячы БНР і эміграцыі—В. Ластоўскі, С. Некрашэвіч, А. Смоліч, А. Цвікевіч... Быць убаку ад свайго народа ў гэтую пераломную хвіліну яго гісторыі не мог і Доўнар-Запольскі. І як толькі атрымаў ён запрашэнне ад Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Інстытута беларускае культуры ў Мінск, ён пакінуў Азербайджан.

МІНСКІ ПЕРЫЯД жыцця і дзейнасці Доўнар-Запольскага— новая, вельмі цікавая і плённая старонка ў яго біяграфіі. Хоць перыяд гэты цягнуўся ўсяго якіх паўтара года, аднак зрабіў для свайго народа за гэты час нястомны руплівец многае. Гісторыка-археалагічная Камісія, якую ён узначаліў у Інстытуце беларускае культуры і ў задачы якой уваходзіла «падрыхтоўка да выдання гістарычных дакументаў і актаў, распрацоўка паасобных тэм гісторыі Беларусі, яе эканомікі і культуры, а таксама апрацоўка і публікацыя вынікаў археалагічнага даследавання Беларусі», аб'яднала лепшыя сілы тагачаснай беларускай навукі. У яе ўвайшлі такія вядомыя вучоныя, як У. Пічэта, Д. Даўгяла, В. Дружчыц, М. Мялешка, І. Сербаў і іншыя. 17—18 студзеня 1926 г. быў скліканы Першы з'езд даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі, у якім прынялі ўдзел вучоныя з Беларусі, Расіі, Украіны. Пастанова гэтага з'езда, разам з пратаколамі і дакладамі, была выдадзена асобнай кнігаю Інбелкультам пад назваю: «Матэр'ялы да гісторыі і археалогіі Беларусі» сшытак І (Мн., 1926). Галоўнае значэнне з'езда было ў тым, што на ім былі выяўлены сілы беларускіх вучоных і тыя рукапісныя крыніцы па беларускай гісторыі, якія знаходзіліся за межамі БССР. Былі падрыхтаваны да друку першыя выпускі «Беларускага Архіва», «Навуковы зборнік Гісторыка-Археалагічнай Камісіі», у якія ўвайшлі матэрыялы з мінскіх, варшаўскіх, маскоўскіх і магілёўскіх архіваў.

*Брашура выйшла ў перакладах на рускую, польскую, англійскую, нямецкую і французскую мовы. Да яе была прыкладзена карта Беларусі, якую прадставіла беларуская дэлегацыя на Мірную канферэнцыю ў Парыжы.

Была створана асобная падкамісія па вывучэнні «старога Менску», арганізаваны навуковыя камандзіроўкі супрацоўнікаў Інбелкульту ў Кіеў, Адэсу, Маскву і ў іншыя гарады з мэтай пошукаў архіўных матэрыялаў, якія меліся ў тамашніх кнігасховішчах і датычылі гісторыі Беларусі. Дзякуючы дзейнасці камісіі было спынена руйнаванне помнікаў старажытнай Беларусі, некаторыя з іх узяты пад дзяржаўную ахову. Камісія адшукала неацэнны крыж Ефрасінні Полацкай, сабрала неабходныя звесткі для складання гісторыка-археалагічнай карты Беларусі і распрацавала планы рэстаўрацыі і аховы Менскага замчышча і Полацкіх старажытнасцей. Некалькі вельмі цікавых і карысных экспедыцый было праведзена і па вывучэнні этнаграфіі — у Быхаўскі раён (экспедыцыя І. Сербава), у Слуцкі раён (экспедыцыя А. Сержпутоўскага) і інш. Была напісана, абмеркавана на Камісіі і потым змешчана ў друку вялікая колькасць даследаванняў на самыя розныя тэмы мінулага і сучаснага Беларусі. Невыпадкова ў выдадзеным у 1926 г. зборніку Інбелкульта «Гісторыя ўзнікнення, сучасная структура навукова-даследчая дзейнасць» адзначаецца, што «больш энергічна і больш сістэматычна Этнаграфічная секцыя пачала працаваць з пачаткам 1926 г., калі на чале яе стаў Прэзідыум у складзе праф. М. Доўнар-Запольскага, нам. старшыні Г. Аляксандрава і сакратара І. Сербава» (стар. 49—50).

Акрамя працы ў Інстытуце беларускае культуры, Доўнар-Запольскі, як заўсёды, шмат увагі аддаваў педагагічнай дзейнасці — рыхтаваў новыя кадры для навукі і школ рэспублікі. Гэты перыяд у дзейнасці Доўнар-Запольскага пазначаны і новымі навуковымі працамі—«Цэнтралізацыя ці федэрацыя», якая была надрукавана ў часопісе «Полымя» (1925, № 8) і «Народная гаспадарка Беларусі» (выйшла асобнаю кнігаю, Мн., 1927 г.). Напісаў ён і сваю «Гісторыю Беларусі», якая, на жаль, не была выдадзена і па ўсёй верагоднасці загінула. Падараваў ён Беларусі і частку сваёй вялікай бібліятэкі, якую збіраў усё сваё свядомае жыццё — 11000 тамоў.

Аднак прыжыцца ў Мінску Доўнар-Запольскі не змог. Занадта самастойны ён быў у поглядах і рашэннях, занадта смелы ў планах дзяржаўнага і нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Тыя, хто быў пасланы Сталіным у Беларусь, каб яе нішчыць, убачылі ў Доўнар-Запольскім небяспеку. Вось што, напрыклад, пісаў пра Доўнар-Запольскага і некаторых іншых вучоных Р. Выдра:

«Само сабою зразумела, што нацдэмы, аддаўшы так многа ўвагі «гісторыі і археалогіі», паклапаціліся таксама і аб тым, каб даць для «археолёга-гістарычных» даследаванняў адпаведную ўстаноўку і мэтадалогію. З гэтаю мэтаю яны мабілізавалі «лепшыя» свае сілы на з'ездах, на акруговых канферэнцыях, у «Нашым краі», дзе ў радзе вусных і друкаваных выступленняў разгарнулі ва ўсю шырыню сваю «археолёга-гістарычную», спецыяльна да краязнаўства прыстасаваную, праграму. Тутака мы ізноў сустракаемся з Мялешкаю, на дапамогу яму спяшаецца Даўгяла, Доўнар-Запольскі...

Ужо на І Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе Доўнар-Запольскі выступае з дакладам: «Краязнаўчая работа ў галіне гісторыі і археалогіі». Асноўная думка, так сказаць, квінт-эсэнцыя даклада, выражана дакладчыкам вельмі рэльефна:

«Вывучэнне кургаоў і «гарадзішчаў» мае нацыянальны змест. Ёсць тэорыя, якая шукае на тэрыторыі Беларусі літоўскія курганы і паселішчы (стаянкі). Вось выясненнем формы гэтых помнікаў мы павінны разбурыць гэтую тэорыю».

Як бачым, устаноўка зусім зразумелая. Вывучэнне курганоў мае... нацыянальны змест... У кароткай і сціслай форме Доўнар-Запольскі, гэты вялікадзяржаўны шавініст, паступіўшы на службу да беларускіх нацдэмаў, дае зразумець: вывучайце курганы, тамака знойдзеце карэнні беларусаў, тамака знойдзеце ўсе спецыфічныя нацыянальныя рысы і ўласцівасці. Мабілізуйце курганы і гарадзішчы ў якасці зброі супроць тых, хто асмельваецца адмаўляць самабытнасць і выключнасць беларусоў...» («Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі», стар. 289—290).

Пры такім разуменні гісторыі і археалогіі цяжка было працаваць у Беларусі такому вядомаму ва ўсім славянскім свеце вучонаму, якім быў Доўнар-Запольскі. Давялося яму пакінуць Мінск, зноў паехаць у Маскву.

У Маскве ён працаваў у Сельскагаспадарчай акадэміі імя Ціміразева, выкладаў гісторыю ў Інстытуце народнай гаспадаркі імя Пляханава. І, вядома ж, займаўся навукай, шмат пісаў. Але друкаваўся мала. Не падыходзілі яго працы да друку артадаксальным марксістам, што ў гэты час запаланілі ўжо навуку і выдавецтвы. Ён быў вучоны старой дарэвалюцыйнай школы, не ўсё, як тады некаторым здавалася, разумеў у новым жыцці. Яму, як і многім, не верылі. Нават калі ў 1929 г. Украінская Акадэмія навук, улічваючы заслугі вучонага перад Украінай, хацела выбраць яго сваім правадзейным членам, «параілі» не рабіць гэтага. З прац, што ў гэтыя гады былі надрукаваны, можна назваць хіба адну — «Заходні раён», што змешчана як асобны раздзел у «Экономической географии СССР» пад рэдакцыяй М. Вольфа і Г. Мегуса (М., 1928).

Здароўе ў Доўнар-Запольскага было падарвана беспералыннай працаю, цяжкім жыццём, канфліктамі з сынамі і іх ранняй смерцю, бясконцымі пераездамі, арыштамі. 30 верасня 1934 года, рыхтуючыся адзначыць імяніны жонкі, якая ў апошнія гады яго жыцця шмат у чым яму дапамагала, як бы загладжваючы грахі сваёй маладосці, ён лёг адпачыць, заснуў і больш не прачнуўся.

Смерць выратавала вучонага ад непрыемнасцей, якія яго чакалі — новых арыштаў і сталінскіх гулагаў...

ПАДСУМОЎВАЮЧЫ тое, што зрабіў Доўнар-Запольскі і іншыя яго калегі (Насовіч, Шэйн, Нікіфароўскі, Раманаў, Дабравольскі, Сержпутоўскі, Карскі), і даючы ім ацэнку, Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» (М.-Л., 1924) пісаў: «Этнаграфічны перыяд нашай літаратуры, які стварылі гэтыя і многія іншыя не менш выдатныя нашы этнографы і вучоныя беларусаведы, мае значэнне збіральнага перыяду ў нашай літаратуры. Збіраючы і парадкуючы матэрыял, надта важны для нармальнага развіцця пісанага слова, яны сведама ці нясведама зрабілі нязрушным той грунт, на каторым расла навейшая беларуская літаратура» (стар. 221). Ад сябе дададзім: і навука, і ўвесь нацыянальна-вызваленчы рух, якія ў рэшце рэшт і прывялі да ўтварэння і развіцця Беларускай савецкай дзяржавы.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## Успомнілі Караткевіча

Літаратурна - асветніцкая суполка «Крывічы» Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага адзначыла 60-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Назву вечару падказаў апошні зборнік пісьменніка— «Быў. Ёсць. Буду».

Пра У. Караткевіча — пісьменніка, чалавека, грамадзяніна — расказалі А. Мальдзіс і прафесар Кракаўскага універсітэта З. Нядзеля. У вечары браў удзел тэатр чытальнікаў «Роднае слова».

Ля ўвахода ў актавую залу працавала выстаўка «Беларускія нацыянальныя рамёствы». Можна было набыць на вечары творы У. Караткевіча, а таксама кнігу А. Мальдзіса «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча».

У. КМІТ.

## Першы юбілей «Юнацтва»

Рэспубліканскаму выдавецтву «Юнацтва» споўнілася дзесяць гадоў. За гэты час ім выпушчана звыш 1400 назваў кніг агульным тыражом 122 млн. экземпляраў на 16 мовах народаў свету, якія чытаюць у 110 краінах. «Юнацтва» прапануе маладому чытачу прыгожа выдадзеныя творы беларускага фальклору і класікаў нацыянальнай літаратуры, сучасных пісьменнікаў, літаратуру народаў СССР і свету, імкнецца найбольш поўна забяспечыць попыт на беларускую дзіцячую кнігу.

Варта вылучыць серыю «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР». Гэта унікальнае 15-томнае выданне фальклору, класікі і сучаснай літаратуры саюзных рэспублік. Работа над ім завяршаецца. Такая шматтомная анталогія дзіцячай літаратуры выдадзена ў нашай краіне ўпершыню.

У 1991 годзе пачынаецца выпуск «Бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры» ў 10-ці тамах. А ў перспектыве — выданне 30-томніка скарбаў сусветнай дзіцячай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову.

## Тэатр і рынак

АДБЫЎСЯ ЧАРГОВЫ VIII ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ТЭАТРАЛЬНЫХ ДЗЕЯЧАЎ БССР.

Ён быў прысвечаны аналізу і перспектывам дзейнасці тэатральнай грамадскасці па выкананні прынятых вясной 1989 года Міністэрствам культуры і СТД БССР «Напрамкаў развіцця тэатральнай культуры на Беларусі». Са справаздачай выступіў старшыня праўлення М. Яроменка. Ён разгледзеў вынікі работы творчага саюза за паўтара года і канкрэтныя мерапрыемствы плана наступнага года. Істотна дапоўніла справаздачу выступленне намесніка міністра культуры У. Рылаткі, які скіраваў асноўную ўвагу на праблемы развіцця беларускамоўнага тэатра.

Спрэчкі па справаздачы паказалі заклапочанасць тэатральных дзеячаў перш-наперш матэрыяльным бокам існавання тэатра. Набалелыя пытанні сацыяльнай абароненасці акцёраў і рэжысёраў, забеспячэння іх жыллём, а тэатраў — прыстасаванымі для працы будынкамі, матэрыяламі, транспартам, —закраналіся амаль усімі прамоўцамі і ўрэшце зводзіліся да аднаго: ці выжыве тэатр у сённяшніх жорсткіх умовах? Што нясе тэатру рынак? Матэрыяльнае ўбоства тэатра разглядалася як адна з праяў бездухоўнасці грамадства (пра гэта гаварылі, у прыватнасці, мастацкі кіраўнік ДАВТа БССР А. Анісімаў, мастацкі кіраўнік Тэатра-студыі на плошчы Перамогі Р. Таліпаў). Пэўныя спадзяванні шмат хто звязваў з Законам аб культуры, які, дарэчы, ужо ўхвалены парламентам у першым чытанні.

Ажыўленая дыскусія разгарнулася вакол двух прынцыповых момантаў бліжэйшай перспектывы тэатральнага жыцця: пераўтварэнне СТД у прафесійны творчы саюз і ўвядзенне кантрактнай сістэмы. Перакананымі праціўнікамі рэарганізацыі саюза выступілі Р. Янкоўскі, тэлежурналістка М. Гарэцкая; не такая адназначная пазіцыя галоўнага рэжысёра Гродзенскага абл. драмтэатра І. Пятроўскага, а рэжысёр Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа І. Баярынцаў палічыў рэарганізацыю нават неабходнай для «тэатральнага пралетарыяту» — акцёраў. Сумняваюцца ў прыдатнасці сістэмы кантрактаў, беручы пад увагу ўмовы жыцця і творчасці работнікаў тэатра, Н. Равінская (Тэатр музычнай камедыі), Я. Натапаў (галоўны рэжысёр Магілёўскага абл. драмтэатра); У. Рылатка звязвае з кантрактнай сістэмай надзею пазбыцца ўраўнілаўкі і павысіць асабістую адказнасць творчых работнікаў за вынікі працы. Прыцягнулі ўвагу прысутных пытанні жыццядзейнасці тэатраў-студый, арганізацыі акцёрскай асацыяцыі, стварэння часопіса «Тэатральная Беларусь» (у прыватнасці, журналіст В. Ракіцкі крытыкаваў кіраўніцтва саюза за тое, што падпіска на часопіс праведзена раней, чым падрыхтаваны ўмовы для яго выхаду). Сярод усіх выступленняў бадай што толькі адно можна лічыць аптымістычным — свайго роду «прэзентацыя» Слонімскага тэатра яго мастацкім кіраўніком М. Варвашэвічам.

Пленум вырашыў шэраг арганізацыйных пытанняў, у т. л. задаволіў просьбу С. Косціна аб пераходзе на пасаду дырэктара Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, вызваліўшы яго ад абавязкаў сакратара праўлення СТД.

НАШ КАР.

## Згуртавала песня, слова

Творчая справаздача прадстаўнікоў рэспубліканскага радыё і Беларускага тэлебачання прайшла ў Уздзенскім раённым Доме культуры. Думкі пра асобныя перадачы, заўвагі і пажаданні выказалі старшыня калгаса імя Ільіча У. Шарко, дырэктар Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя П. Труса К. Рогава, дырэктар кінавідэапрадпрыемства раёна І. Барташ, першы сакратар райкома камсамола М. Пармон, настаўніца школы-інтэрната Л. Козіч, другі сакратар РК КПБ Я. Шкель і многія іншыя.

Працаўнікоў раёна музыкай, песняй, мастацкім словам віталі канцэртна-інструментальны ансамбль і салісты Дзяржтэлерадыё БССР. Гумарыстычныя вершы прачытаў дыктар М. Чырык. Вяла канцэрт усім добра вядомая З. Бандарэнка.

М. БУЛАТ.

Калектыў супрацоўнікаў Міністэрства культуры БССР смуткуе з выпадку трагічнай смерці былога дырэктара Рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры, персанальнага пенсіянера рэспубліканскага значэння ЖЫГАЛАВА Фёдара Георгіевіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

